У землякоў за акіянам у Злучаных Штатах Амерыкі ў жніўні мінулага года пабывала карэспандэнт «Голасу Радзімы» Таццяна Антонава. Так яна і назвала сваю кніжку — «У землякоў за акіянам», у якой расказвае аб сустрэчах з замежнымі беларусамі, многія з якіх доўгія гады заставаліся для нас абсалютна невядомымі, хоць прозвішчы іх чулі даволі часта. Наталля Арсеннева, Міхась Кавыль, Антон Шукелойць, З. і В. Кіпелі, Ала Орса-Рамана. Аўтарка дала ім магчымасць расказаць пра сябе, выказаць свой погляд на складанае і ўсё яшчэ не вельмі зразумелае нам мінулае. Наогул нашы землякі за акіянам сталі бліжэй нам, бо мы больш даведаліся пра іх побыт, паўсядзённае жыццё, пра іх любоў да Радзімы.

## ЗМЕСТ



## УСТУП

*Да апошняга моманту, пакуль не села ў самалёт, які кіраваў на Нью-Йорк, не была ўпэўнена, што праўду свой адпачынак за акіянам. Надта ўжо цяжкая гэта справа ў нашай краіне — паехаць па прыватных запро-сінах да знаёмых у ЗША! Пакуль аформіш усе паперы, атрымаеш візу... Ды што там усе пакуты і бюракратычная цяганіна ў параўнанні з загадкавай Амерыкай і магчымасцю сустрэцца там з нашымі суайчыннікамі, пра якіх неад-нойчы пісала, калі яны прыязджалі ў Беларусь. І чалавечая, і прафесійная цікаўнасць няўмольна падштурхоўвала пераадолець усе перашкоды.*

*Гарачы жнівень 1991 года. У Нью-Йорку спякота невыносная, пад 40 градусаў. Нават дыхаць цяжка. Спадарыня Ала Орса-Рамана, кіраўнічка танцавальнага калектыву «Васілёк», якая запрасіла мяне, летам мела адпачынак (заняткі ва універсітэце, дзе яна выкладае хімію, павінны пачацца толькі ў верасні). «Што ты хацела б убачыць і з кім сустрэцца? — адразу запыталася яна.— Я склала для цябе праграму: пойдзем у музей сучаснага мастацтва, паедзем на Ніягару, у Вашынгтон*

*— там пераначуем у Алесі Кіпель і наведаем у Рочэстэры Наталлю Арсенневу. Я ўжо з ёй дамовілася. У Саўт-Рыверы будзе выстаўка нашых мастачак, у Нью-Брансвіку пазнаёмішся з Галінай і Васілём Русакамі, наведаем Надзю Кудасаву, выдатную майстрыху. Паглядзім наш Полацак, сходзім у нашыя цэрквы...»*

*І закруцілася кола падзей. Ледзь толькі ўцягнулі мае валізкі з сувенірамі ў дом на Лонг Айлендзе (раён гэты прэстыжны, дарагі, забудаваны двух-, трохпавярховымі катэджамі, знаходзіцца ўдалечыні ад тлумнага цэнтра), дзе жыве спадарыня Ала з сям'ёй, як завітала яе сяброўка Вера Заморская, пазней падышлі Янка Запруднік з дачкой Верай, прыехалі з працы Віця Тур і сыны Алы — Коля і Павал, далучыўся муж гаспадыні Франэк Рамана.*

*Першы вечар у Амерыцы, за сяброўскім сталом. Людзі гаманілі, узбуджаныя з'яўленнем госці з Беларусь, распыталі пра знаёмых, бясконца падкладвалі на талерку, даведаўшыся, што ў нас не густа з ежай. Мы то смяяліся, то плакалі ад радасці, быццам былі найбліжэйшымі сваякамі.*

*Вопыт першых нашых з Алай азнаямленчых вандровак па Нью-Йорку, калі мы сутыкнуліся з праблемай паркавання машыны, прымусіў прадумваць кожную драбязу: куды едзем, дзе спыняемся, з кім сустракаемся, калі вяртаемся. Сэрца маё рвалася на часткі: хацелася пагуляць па цэнтру Нью-Йорка, асляпляльна прыгожаму, паназіраць за людзьмі ў вольным свеце, якія не маюць комплексаў ні ў манеры апранацца, ні ў сваіх паводзінах, выключна лагодныя і ўважлівыя адзін да аднаго; з'ездзіць на акіян, пасядзець недзе ў бары — словам, распружыніцца ад працы ў газеце. Але над чалавечым гэтым жаданнем увесь час брала верх прафесійнае: лепш пазнаёміцца з нашай эміграцыяй, зразумець, як яны тут жывуць, як застаюцца беларусамі, чаму І за што ў сябе на радзіме іх доўгі час агулам запісвалі ў ворагі і здраднікі; што адбывалася на нашай зямлі ў часы фашысцкай акупацыі, калі адны пайшлі ў партызаны, а другія — у атрады самаахоўы, як і чаму паехалі з роднага краю. Афіцыйная наша гісторыя многае замоўчвала альбо трактавала падзеі і факты аднабока і тэндэнцыйна. Толькі з пачаткам перамен мы змаглі тое-сёе даведацца і пра беларусізацыю, І пра расправу з «нацдэмамі», І пра рэпрэсіі, учыненыя над нявіннымі людзьмі. У кожнага*

*свая праўда ў гісторыі. Дасюль мы ведалі толькі адну праўду. А якая ж праўда такіх самых, як I я, беларусаў, што, трапіўшы ў вір гісторыі, апынуліся ў выніку на другім беразе ці, больш дакладна, між берагамі?*

*Кожны дзень я мела цікавыя сустрэчы, пабывала практычна ва ўсіх асноўных асяродках беларусаў у Амерыцы. Некаторыя землякі, асабліва старэйшага веку, паводзілі сябе даволі насцярожана, даведаўшыся, што я працую ў «Голасе Радзімы», у той самай газеце, якая ў свой час актыўна папрацавала на выкрыццё «здраднікаў».*

*«Дачушка, паслухай, як яно ўсё было, I ты зразумееш...» Я слухала іх споведзі, запісвала на стужку, спадзеючыся выкарыстаць потым у матэрыяле. Не стрымліваючы пачуццяў, жаданне выказаць даўно затоены боль ад несправядлівых крыўд, яны ў запале шмат чаго расказвалі, а з раніцы, спахапіўшыся, тэлефанавалі: «Нічога не пішыце пра мяне, закрэсліце ўсё, бо баюся, што гэта пашкодзіць сваякам на радзіме». Жыццё прывучыла іх да асцярожнасці. «Ды што вы,— спрабавала пярэчыць я,— вы ўжо даўно не былі на Беларусі, цяпер не тыя часы...»*

*Я зразумела іх вельмі добра 19 жніўня, калі з раніцы па тэлебачанні перадалі пра падзеі ў Савецкім Саюзе, паказалі танкі на вуліцах Масквы. Ашаламляючая гэта інфармацыя прымусіла мяне пахаладзець.*

*Гарачы жнівень 1991 года... Тры дні Амерыка не адыходзіла ад тэлевізараў. А сітуацыя мянялася штогадзінна, і ніхто не мог ведаць, чым усё гэта скончыцца. Нехта, бывала, не вытрымліваў і пачынаў заказваць па тэлефоне Мінск. Але Мінск маўчаў, упарта маўчаў. Ад невядомасці можна было звар'яцець.*

*З далечыні, з-за акіяна, мы маліліся за сваю радзіму, за сваякоў і родных, за ўвесь наш народ, на долю якога выпала так шмат выпрабаванняў.*

*Бадай што, шокам стала чарговая вестка пра абвяшчэнне незалежнасці Беларусь, Тэлефанавалі адзін аднаму, яшчэ не верачы да канца пачутаму, абмяркоўвалі, выказвалі здагадкі і... святкавалі.*

*Багатая і прыгожая краіна Амерыка, цяпер ты ўжо не такая чужая і невядомая. Вельмі зблізку давялося ўбачыць, як заможна і годна жывуць тут мае землякі. Пачуваюцца людзьмі. Шмат працуюць. Трымаюцца адзін*

*аднаго. Захоўваюць мову, традыцыі і звычаі свайго народа. Толькі дзякуючы ім, напэўна, і ведалі ў Амерыцы, што ёсць такая краіна Беларусь. Шмат чаго робяць, каб дапамагчы сваёй зямлі ў чарнобыльскай бядзе.*

*...Я вярталася ў сваю бедную, спакутаваную краіну ўжо грамадзянкай незалежнай Беларусі. З надзеямі, з верай у тое, што цяпер усё пойдзе інакш. Гэтак спяшалася. На чыгуначным вакзале, па-беларуску растлумачыўшы вадзіцелю, куды ехаць, пачула рэзкае: «Националистов не возим!» Дзверцы бразнулі перад носам, і я з валізкамі засталася на дарозе.*

*Спадзяюся, што мае артыкулы, нататкі, інтэрв'ю і рэпартажы, напісаныя пасля паездкі ў Амерыку, будуць цікавымі для чытача.*

*Аўтар.*



## У ГАСЦЯХ У НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Машына плаўна ўкацiла ў дворык ладненькага катэджа, якімі густа аблеплена вуліца амерыканскага гарадка Рочэстэра. Утульна, ціха, яркія кветкі пад вокнамі, на ўсёй палянцы перад будынкам. Мусіць, так бывае ў раі, падумалася.

Высокі мужчына сярэдніх гадоў адчыніў дзверцы аўтамабіля, працягнуў руку, прадставіўся: «Кушаль» і павёў у дом. Спадарыня Наталля Арсеннева ўжо чакала нас. Пругка паднялася з крэсла і гучным, хрыплаватым голасам паклікала: «Наталля, Владэк! Яны прыехалі! Хадзіце сюды. Алюнься прывезла чалавека з Беларусі!» Пакуль гаспадары разглядалі «чалавека з Беларусі», я не з меншай цікавасцю — спадарыню Арсенневу. Адзначыла пра сябе: у нас так немаладыя кабеты не апранаюцца.

Але амерыканцы сапраўды, я заўважыла, без комплексаў. Порткі з кашуляй — зручна. На нагах белыя пантофлі на абцасах. Да чорных валасоў вельмі пасуюць белыя завушніцы і белыя пацеркі. Элегантна і з густам. На свае 88 гадоў выглядае проста выдатна. «Ад яе

зыходзіць моц, упэўненасць і энергія»,— было першае ўражанне.

Сцены гасцёўні завешаны карцінамі, на якіх беларускія пейзажы работы П. Мірановіча: «Краслаўка», «Млын у Краслаўцы», «Доўгае возера»... Вобразы роднай прыроды штодня лашчаць вока гаспадыні дома.

Зручна размясціўшыся ў крэслах, мы з Алай Орса-Рамана падрыхтавалі дыктафоны, каб запісаць гутарку з вядомай паэткай. Адразу і без цырымоній гаспадыня захапіла ініцыятыву, мусіць, ужо прадумаўшы нейкі план свайго расказу.

— Я жыву разам з сынам і ўнучкай — вы іх ужо бачылі. А ёсць яшчэ і ўнук, яму 30 гадоў. Мае ўласны дом, недалёка ад нашага. Так што мы бачымся час ад часу. Наталля гаворыць у нас па-руску. Гэта таму, што яе першыя некалькі год выхоўвала жанчына, якая размаўляла па-руску. Наталля разумее па-беларуску, толькі гаварыць не можа. Ну і вось гэтыя два мае любімцы сабакі. Так і жывём.

— Якія перыяды жыцця, спадарыня Арсеннева, найбольш вам памятаюцца?

— Памятаю, як была эвакуацыя Вільні, гэта ў першую сусветную вайну. Нас тады прымусова эвакуіравалі, і мы трапілі ў Яраслаўль. Мне было нешта 12 гадоў... Я там пачала вучыцца ў гімназіі.

Цікавым, дарэчы, можа быць той факт, што да восені 1916 года ў Яраслаўлі жыў Максім Багдановіч. Яны хадзілі па адных вуліцах. Але іх шляхі ніколі не перакрыжаваліся. Між тым, менавіта гэты паэт найбольш паўплываў на яе. У яраслаўскай гімназіі Наталля пачала спрабаваць пісаць вершы. Але, як сведчыць сама паэтка: «Пісаць я пачала ня вельмі рана, у кожным выпадку не з пяцёх ці каб дзесяцёх год, як некаторыя «геніі». Не, у гэтым часе я любіла ўзімку чытаць, зашыўшыся недзе ў куток, а ўлетку — гайсаць па палёх і лазіць па дрэвах, што я рабіла лепш за хлопцаў».

— Вы напісалі свой першы верш у той год, калі ў Расіі адбылася сацыялістычная рэвалюцыя. Як яна ўвайшла ў свядомасць падлетка?

— Мы з сястрой Галяй ішлі з гімназіі і ўбачылі, як нейкія людзі ў вайсковым збіваюць з хаты выяву вялізнага арла — сімвал царскай імперыі. Адна лапа птушкі ўпала паблізу мяне. Было такое ўражанне, што раструшчылі жывую птушку. А я так любіла, ды і цяпер люблю

розную жывёлу. З таго часу слова рэвалюцыя выклікае ў мяне асацыяцыі з разбурэннем, з насіллем. Рэвалюцыя, вайна — гэта страшна, гэта агідна, гэта кроў, гэта пакуты і гора людзей.

— У 1918 годзе вашыя бацькі вырашылі вяртацца з Яраслаўля ў Вільню. Неўзабаве яны і рушылі ў шлях. Але толькі ў пачатку 1920 года апынуліся на месцы. Няўжо цэлы год дабіраліся?

— Так. Цяжкі быў шлях дадому. Вяртаючыся з бежанства, мы столькі перажылі... Часта траплялі пад перастрэлку. Было небяспечна. Знайшлі тады прытулак у вёсцы Жаўніна. Тут я ўпершыню, можна сказаць, пачула жывую беларускую мову. Гаспадары — Фядосся і Юрка сварыліся: «Чакай, чакай, я ўжо табе юшку пушчу!» Гэтак смачна, каларытна гучала слова. Але доўга мы там быць не маглі. З Краслаўкі хадзілі таварныя цягнікі ў Дзвінск. Мы неяк уціснуліся. А тут мост праз Дзвіну разбіты, цягнік далей не ідзе, трэба пераходзіць раку. Добра памятаю, як мы нейкія клункі цягнулі па лёдзе. А ў мяне і ў сястры гарачка, усё ў галаве круціцца. Як сёння, бачу той дзень.

— Спадарыня Арсеннева, вы сказалі, што людзі ўцякалі з Расіі. Было масавае бежанства. Чаму? Баяліся бальшавікоў?

— Выязджалі эвакуіраваныя. Вярталіся дамоў. А пра бальшавікоў мы тады нічога кепскага не чулі. І ніхто нас не гнаў. Дык я хачу закончыць. На Дзвінскай станцыі я бачыла такое, што назаўсёды мне запала ў душу, перавярнула яе, уварвалася ў юнацтва цёмнай хмарай. На падлозе хворыя, раненыя. А ў двары станцыі — была ж лютая зіма — замерзлыя трупы польскіх жаўнераў. У недарэчных позах, з адкрытымі вачыма.

Нейкім дзівам мы дабраліся да Вільні, дзе мама наняла павозку і ледзь жывых завезла нас да нейкіх людзей. Гэта былі Русецкія, дзякуючы якім і я, і мае брат і малодшая сястра Оля паступілі пазней вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію. А сястра Галя тады ад гішпанкі памерла.

— У Віленскай гімназіі вы, напэўна, упершыню захапіліся беларускімі справамі? Раскажыце, калі ласка, хто там выкладаў і хто быў для вас найбольшым аўтарытэтам?

— У нас былі добрыя настаўнікі — Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч,

Аркадзь Смоліч. Яны навучылі мяне многаму. Дарэчы, я была ўжо трохі падрыхтаваная да заняткаў у гімназіі. Люба Русецкая пасля хваробы прынесла мне беларускія кніжкі, пачала вучыць чытаць. Так я прачытала «Патаемнае» Гарэцкага. І з таго часу Стала нераўнадушнай да яго твораў. Пранікласся сімпатыяй да гэтага чалавека, паказвала яму свае вершы. Ён быў маім крытыкам і дарадцам.

Пра гады вучобы ў гімназіі паэтка неяк пісала: «Два й асаблівай любасьцяй і ўсхваляваньнем. Можна сказаць, што якраз Віленская беларуская гімназія і зрабіла зь мяне беларускую паэтку Натальлю Арсеньневу, якая ня можа ня пісаць, як ня можа ня любіць Беларусі, што-б ня сталася яшчэ на сьвеце».

- Скажыце, а хто на вас; як на паэтку, акрамя Багдановіча, меў яшчэ ўплыў? — Купала. Увогуле, я шмат чытала, цікавілася паэзіяй. Мне запомніліся асобныя вобразы: Роланда, напрыклад, з французскай літаратуры. «Роланд усё трубіць і трубіць» ...Метэрлінка любіла. З расейскіх — Лермантава. Хаця пазней, калі больш глыбока спазнала расейскую літаратуру, на першае месца паставіла Пушкіна.

Дазволю сабе маленькі каментарый: бацька Наталлі Арсенневай паходзіў з таго роду Арсенневых, які па сваёй жаночай лініі даў паэта М. Лермантава.

— Гавораць, што беларус — гэта чалавек, які паўсюль спазняецца. Ціхі, паслухмяны, разважлівы, але і ўпарты. Як бы вы вызначылі беларускі характар?

— Беларусь! — гэта мешаніна чыстых славянаў з балтамі. Лагоднасць, мяккасць, разважлівасць — гэта рысы якраз славянскія. Ёсць у нас крыху і летувіскай крыві. Украінцы зусім іншыя, яны маюць продкаў з качаўнікоў паўдзённых.

— А як вы спазналі гісторыю свайго народа, яго» культуру? Што вам дало найбольшае разуменне?

— У Віленскай гімназіі былі добрыя падручнікі. Хаця і не усе па-беларуску напісаныя. Да прыкладу, з падручніка геаграфіі Спірыдонава я ўпершыню даведалася пра беларусаў, што маюць яны сваю літаратуру свайго вялікага паэта Купалу. Звесткі пра Беларусь былі пададзены дробненькім шрыфтам, як дадатковы матэрыял і

неабавязковы для завучвання. Памятаю, як мяне ўразілі Купалавы радкі:

Я мужык-беларус,
Пан сахі і касы;
Цйомен сам, белы вус,
Пядзі дзве валасы.

Слова «цйомен» я доўга не магла расчытаць.

— Як спалучаліся расейская і беларуская мовы ў выкладанні асноўных прадметаў у гімназіі?

— У малодшых клясах усё было па-беларуску. А ў старэйшых — і так і гэтак. Але вучні стараліся добра валодаць мовай.

— Пасля заканчэння Беларускай гімназіі многія выпускнікі адправіліся на вучобу ў Прагу. У вас быў намер паехаць?

— Так. Але я не магла пакінуць бацькоў. Яны былі старыя, нямоглыя і жылі толькі з таго, што я выкладала ў адной з беларускіх школак. А па-другое, я тады якраз пазнаёмілася з маім будучым мужам. Ён прасіў мяне застацца. Я прыйшла на станцыю, калі ад'язджалі мае каляжанкі, толькі каб развітацца.

— А ці ведаеце вы, як склаўся лес тых вашых сяброў, хто паехаў па веды ў Прагу?

— З тых маіх знаёмых, што выехалі ў 1921 годзе на вучобу ў Пражскі універсітэт, амаль што ўсе памерлі ад сухотаў. Ад нядобрых умоў жыцця, ад кепскай ежы. Студэнты ж атрымлівалі там мізэрную стыпендыю, на якую існаваць было даволі цяжка.

У 1922 годзе Н. Арсеннева выйшла замуж за Ф. Кушаля і выехала з Беларусі ў Польшчу. Больш як 15 год пражыла там. Але звычайна штогод наведвала сваю родную Вільню або Валожыншчыну, мужавых бацькоў. Насуперак усім неспрыяльным абставінам, адарванасці ад Беларусі яна не кінула пісаць вершы. У 1927 годзе ўбачыў свет першы зборнік «Пад сінім небам», а ў 1935—1936 гадах падрыхтаваны да друку і другі. Калі чытаеш гэтыя вершы сёння, атрымліваеш вялікае эстэтычнае задавальненне. Яны вельмі далёкія ад палітыкі, ад тагачасных праблем, але ў іх — стыхія жыцця і прыроды; яны прасякнуты ціхім каханнем да роднай старонкі. Нягучныя, вытанчаныя пачуцці, нечаканыя вобразы і параўнанні, з усяго гэтага, як адзначаў М. Танк, паэтка ўмее вязаць надзвычай прыгожыя карункі.

Дзень асеньні ўстае панад нівамі,
праціраючы вочы сьлязлівыя,

йржавай рызай лісьця ды анучамі
брудна-шэрых туманаў абкручаны...

1939 год паклаў канец спакойнаму, але аднастайнаму жыццю Н. Арсенневай. Пачалася другая сусветная вайна. Муж яе, польскі вайсковец, трапіў у савецкі палон. Памерла ў Вільні маці. Яна з дзецьмі пераехала да брата ў Вілейку.

— Не баяліся? Хіба вы нічога не ведалі пра рэпрэсіі супраць «ворагаў народа», якія ў Савецкай Беларусі мелі масавыя маштабы?

— Не. Нічога не ведалі. Жылі спакойна. Нікога не баяліся. Я мела адрас Максіма Танка, ён мяне ўладзіў працаваць у рэдакцыю «Вілейскай газеты» карэктарам. Бяда прыйшла нечакана. Ранкам пастукалі ў дзверы і сказалі: «Вы арыштаваны». Загадалі спакавацца. Але ж у мяне нічога не было, усе рэчы засталіся пад Варшаваю, дзе мы жылі. Пагрузілі ў таварныя вагоны і завезлі ў Казахстан. І толькі перад самай вайной я вярнулася са ссылкі. Мне муж пасля расказваў, што, калі ён быў у палоне, прыйшлі і загадалі ўсім, хто ведае, дзе яго сям'я, пісаць ім лісты. Такім вось ашуканствам даведаліся адрасы сем'яў і сурова пакаралі жанчын і дзяцей.

— А як вам удалося так хутка вярнуцца са ссылкі? Шчаслівы выпадак?

— Мусіць што шчаслівы. За мяне хадайнічалі Танк і Купала. Напэўна, ім давялося прыкласці шмат намаганняў, каб пераканаць пільных начальнікаў, што я ні ў чым не замешана. Дарэчы, па хадайніцтву таго ж Янкі Купалы быў вызвалены з лагера мой муж. Разам з Купа лам яны ў 1919 годзе працавалі ў Вайсковай камісіі. Інакш Францішка проста расстралялі б.

— У гэты час вы не пісалі вершаў?

— Не да вершаў было. Хаця б выжыць.

— Як хутка пасля таго, як вы сустрэліся з мужам, трапілі ў Мінск?

— Мы бачылі з Дораў, дзе жылі ў бацькоў мужа, як гарэў Менск. Вельмі хацелася даведацца, што з ім сталася. Некаторыя ўжо ездзілі, гаварылі, што там нейкі Беларускі камітэт ёсць. Нас гэта зацікавіла. Я вырашыла пайсці ў разведку, і са мной мужаў брат Пятрук. Ужо пад'ехалі пад самы Ракаў, як раптам — немцы. Арыштавалі нас і пасадзілі ў гміну. Седзячы ў гэнтай гміне, я стала нявольным сведкам таго, як немцы ажыццяўлялі акцыю

знішчэння яўрэяў, як жаўнеры здзекаваліся, як пакутавалі людзі... Гэта жах...

Быў вецер...
Але й ім казалі засыпяваць,
І за часіну усе і пляскалі й сьпявалі.
Прысеўшы на бруку, брахаў у самы твар
Ім кулямёт загады сталяй...

(З верша «Акцыя»).

Пасля нас выпусцілі, і мы яшчэ раз паехалі ў Менск.

— Хто заснаваў Беларускі камітэт?

— Беларусы. Радаслаў Астроўскі, быў такі з Вільні, раней ён працаваў дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні. Антон Адамовіч, Савёнак толькі што вярнуліся з лягераў і актыўна ўзяліся за беларускую справу.

— Скажыце, а якія былі ў людзей адносіны да немцаў, калі тыя ўвайшлі ў горад?

- Бачыце, людзі, якія ні за што пацярпелі ад Савецкай улады, а такіх было не так ужо і мала, якраз сустракалі немцаў з надзеяй, як збавіцеляў. Па-другое, ніхто не думаў, што немцы такія нелюдзі. Беларусы ж хацелі проста наладзіць сваё культурнае жыццё.

— Але ж ці былі члены Беларускага камітэта такімі наіўнымі, што не разумелі, з якімі мэтамі прыйшлі фашысты на беларускую зямлю? Напрыклад вы, спадарыня Арсеннева, ужо з першых дзён акупацыі былі сведкай жорсткай бесчалавечнай акцыі супраць яўрэяў.

— Беларусь і да вайны была пад чужынцамі. Савецкая ўлада метадычна знішчала цвет нацыі, яе інтэлектуальныя сілы. Таму прынцыповай розніцы не было. Абое рабое, як кажуць у народзе.

— Калі прыйшло працверажэнне, разуменне таго, што ад немцаў нічога добрага чакаць не варта?

— На немцаў, фактычна, ніхто не спадзяваўся. Ілюзій абсалютна ніякіх не было. Думалі, як урваць нешта, каб аблягчыць жыццё нашых людзей ва ўмовах акупацыі. Якое змаганне было, каб немцы дазволілі адчыніць беларускія школкі... Настаўніцкая семінарыя дзейнічала, гімназія, фельчарская школа ў Баранавічах... Любую магчымасць для разгортвання беларускай справы мы стараліся выкарыстаць.

— Што б вы маглі расказаць пра партызан?

— Калі адступалі Саветы, а па іх пятах ішлі немцы, дык велізарная колькасць жаўнераў засталася ў нямецкім тыле. Немцы хутчэй ішлі,

чым Саветы адступалі. Лясы былі поўныя людзей. Хлопцы пайшлі прасіцца да сялянаў, маўляў, вазьміце за работніка. У той момант партызанамі іх ніхто не называў. Яны спраўна працавалі. А пасля прайшоў слых, што ўсіх людзей, якія працуюць у сялян, вывезуць у Нямеччыну на работы. І тады яны пачалі зноў уцякаць у лес, арганізоўваць там атрады. Сяляне кепска ставіліся да іх, бо партызаны часта займаліся грабежніцтвам. Прыйдуць уночы, забяруць усё, што хочуць. А як людзі не хацелі даваць, то і прыстрэліць маглі.

— На жаль, такія бандыцкія партызанскія атрады сапраўды былі. Пра гэта мы ўжо ведаем. Сяляне траплялі ў такім выпадку ў пастку. Уначы грабяць свае, а днём — немцы. Тысячы вагонаў з зернем, іншымі сельскагаспадарчымі прадуктамі ішлі на Захад з Беларусі. У час вайны на Беларусі былі спалены сотні вёсак. Тут, у Амерыцы, мне давялося пачуць, што палілі не толькі немцы, але і партызаны. Што можаце сказаць наконт гэтага?

— Палілі немцы. На 10 кіламетраў ад лясоў і пушчаў усё спалілі. Бо ад партызан не было ратунку. Фактычна, калі распачыналася акцыя, сяляне не хацелі пакідаць сваіх хат. І немцы спальвалі хаты з людзьмі. Цётку майго мужа так спалілі разам з хатай. Моладзь маглі яшчэ насільна павыцягваць і адправіць у Нямеччыну, а са старымі не цырымоніліся, палілі — і ўсё. Асабліва лютавалі немцы ў 1943—1944 гадах, перад канцом. І яшчэ: палілі ўкраінскія і літоўскія паліцыянты, зразумела, са згоды сваіх шэфаў-немцаў.

— Наколькі я ведаю, вы, спадарыня Арсеннева, працавалі ў час вайны ў «Беларускай газэце», што выходзіла ў Мінску. Я разумею, што гэта быў вельмі няпросты час. З аднаго боку, пры маўклівай згодзе акупантаў дзейнічалі беларускія школкі, выходзілі беларускія падручнікі, працаваў тэатр, ладзіліся выстаўкі; а з другога — палалі вёскі з людзьмі, вывозілася ў Нямеччыну моладзь, вешалі і расстрэльвалі камуністаў і партызан... Як жа вам працавалася?

— Я была прыпісана стылістам да рэдакцыі. Бо тых, хто ня меў ніякай працы, вывозілі ў Нямеччыну. Майму сыну Владэку тады было 17 ці 18 год. Яго таксама прыпісалі да газэты, ён быў пасыльным, вазіў матэрыялы ў друкарню.

А я такім чынам мела магчымасць пісаць вершы, перакладала на беларускую мову п'есы для нашага тэатра, стварала лібрэта. Шмат друкавалася ў нашай газэце.

Сапраўды, Наталля Арсеннева надзвычай многа піша ў гэты перыяд. Калі ў даваенных вершах яна — як бы над жыццём, пасіўны назіральнік, то цяпер проста ўрываецца ў самую гушчыню. Адзін з найбольш моцных і дасканалых твораў — верш «Паўшым» (пазней аўтарка памяняла назву — «Палеглым»). Ён быў надрукаваны ў «Менскай», а пасля і ў «Беларускай газэце». Гімнам, прачулым рэквіемам, якім упершыню паэтка рэагавала на вайну, назваў яго літаратурны крытык А. Адамовіч.

...Пад крыжам, бяз крыжа, нацятаю галінай
на жорсткі, гойстры жвір спаць ці адзін прылёг...
Зьмяшалася зь пяском чупрына маладая,
боль выпіў сінь вачэй і сьвежых вуснаў кроў.
Васковаю сьвячою над імі восень тае,
і сьніць
адзін пра Рэйн, а іншы — пра Дняпро.
Ня рупіць іх нішто... Жахлівыя змаганьні,
магутны чар вайны, крывавыя сьвітаньні
больш не хвалююць іх...
Яны прайшлі свой шлях.

Дарэчы, праца ў «Беларускай газэце» не гарантавала яе супрацоўнікам асабістую бяспеку. Тым, хто пераходзіў межы дазволенага, пагражала хуткая расправа. Ледзь не паплацілася галавою за адзін са сваіх вершаў і Наталля Арсеннева.

...Годзе!
Годзе нарэшце,
годзе
чарвякамі зьвівацца, поўзаць!
Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,
хоцьісьці нам парой і коўзка,—
пасьмяёмся яшчэ і зь ліха!
Досыць падаць прад кожным ніцма!
Лепш на момант
агнём успыхнуць,
чымся літасьцяй век давіцца!
Што далі нам калі чужыя?..

Як напятая струна, гучаў голас паэткі ў вершы «Годзе», апублікаваным у канцы 1942 года. І гэты настрой моцна не спадабаўся нямецкім уладам. Аўтар была выклікана на допыт у палітычную паліцыю, і толькі удалая інтэрпрэтацыя верша перакладчыцай Юльянай Дубейкаўскай уратавала Арсенневу ад рэпрэсіяў.

— Большую частку жыцця вы пражылі на эміграцыі — Расія, Польшча, Казахстан, Нямеччына, Амерыка. Але ўвесь час вы — паэтка Беларусі, што бясконца верыць у свой край, які дае натхненне, у свой народ, у яго вялікую будучыню. Цікава, якое ў вас уяўленне пра сённяшнюю Беларусь, з якой вы расталіся амаль што 50 гадоў назад?

— Пра цяперашнюю Беларусь я няшмат ведаю, на жаль. Жыву даволі адасоблена. Хаця выпісваю часопісы, газэты. Шмат цікавага прысылаў мне звычайна Янка Запруднік з Нью-Йорка. Ён жа мае шмат літаратуры. Іншым разам я проста не магла зразумець, чаму Беларусь за ўсе гэтыя гады перастала быць беларускай. У маю бытнасць яна была яшчэ беларускай. Што здарылася? Як магло гэтак стацца?

Апошнім часам мне пішуць лісты з Беларусі даследчыкі, паэты. Я ім адказваю з радасцю. Для мяне гэта тоненькая нітачка сувязі з далёкай Бацькаўшчынай.

...Каля чатырох гадзін гутарылі мы з Натальляй Арсенневай. Яна б яшчэ працягвала і працягвала, з неверагоднай дакладнасцю прыгадваючы падзеі 50-ці ці нават 70-гадовай даўнасці. У манатоннай яе споведзі ні разу не з'явілася англійскае слова, хіба што толькі рускае іншы раз. Але гэта зразу мела — ад унучкі Наталлі. Адным простым сказам яна магла намаляваць цэлую карціну, гэткі жывапісны партрэт часу. З гукамі, пахамі, колерамі. Прыгадаліся словы яе «Малітвы» :

Магутны божа! Ўладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхай і ветлай
рассып праменьне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штадзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласьць — дай!
Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай,
краіну нашу і наш народ!

Падумалася, якая ж гэта несправядлівасць, глупства, нарэшце, што беларускі народ дасюль не ведае сваю Паэтку. Паэтку складанага лёсу і вялікага таленту. Н. Арсеннева піша вершы І цяпер.

На развітанне яна прынесла мне са свайго пакойчыка два аркушы паперы, на якіх ад рукі было напісана:

*ЧАРНОБЫЛЬ*

Весьні ранак...
Ужо на парозе
я прыпыняю хаду:
надта ж хораша зноўку бярозы
карагоды на ўзгорках вядуць!
Іх імклівыя рукі на сіні
далячынь ткуць празрысты вузор
Курапаты,
Чарнобыль,
Хатыні
ім не засьцяць ні вёснаў, ні зор.
Мне ж...
мне мроіцца іншае раньне:
Хлопчык з пужкаю... Статак...
раса...
Ўпяршыню ў поле выгнаў ён сяньня...
Красавік...
Люба ў сонцы гайсаць!
Сонца ж — скрозь!
Уваччу, у лазовым,
жоўтым пухам прыбраным гальлі,
Нат у шчаснасьці той, без назову,
ад якое аж сэрца баліць!
І няўпрыцям нікому з худобы чалавечай,
стоены сьцень,
чорны сьцень... найчарнейшы
Чарнобыль,
Ужо крые, накрыў іхні дзень,
што з худой пастушковае жменькі
хутка выпадзе пужка,
што ён,
як і безлічы й меньшых, маленькіх,
моўчкі прымуць пакутлівы скон,
што ізноў над маёй Беларусяй
прарасце, забуяе бяда,
што...
ды лепей вазьму, памалюся,
да людзкага
і свой боль дадам.
Божа! Божа! Адзіны ў Сусьвеце,
Хто ўсё знае, ўсё можа,
зрабі ж,
каб за нас не пакутвалі дзеці,
не яны каб,
а мы несьлі крыж!

## ПЕСНЯ ДЛЯ ВЕРЫ,
## або
## МАРШРУТ НЬЮ-ЙОРК – СТРЫЕЎКА

Ніяк не магу сабе даравацц, што, быўшы ў Нью-Йорку, не знайшла магчымасці наведаць прыватны офіс, дзе працуе дантыстам наша зямлячка родам з Гродзеншчыны Вера Заморская, якая мае рэпутацыю ўрача экстралкласа і адпаведна — вялікую кліентуру. (Дарэчы, прафесія дантыста ў Амерыцы лічыцца прэстыжнай.) Напэўна ж, у гэтым офісе і медыцынскае абсталяванне, і якасць абслугоўвання — усё па вышэйшых амерыканскіх стандартах. Няблага было б усё ж убачыць на ўласныя вочы.

Сама Вера знешне — эталон сучаснай дзелавой дамы: кароткая стрыжка, спартыўны стыль адзення; энергічная, упэўненая ў сабе. «Жанчына іншага свету,— адзначыла я сама сабе,— дагледжаная, самастойная, забяспечаная. Якія ў яе могуць быць праблемы? Хіба мы можам знайсці агульную мову? Хіба ў нас ёсць нейкія кропкі сутыкнення?» — неяк з бояззю паглядала я ў першы вечар нашага знаёмства на сяброўку Алы Орса-Рамана.

Неўзабаве, зусім нечакана, давялося трапіць да Веры, так бы мовіць, у экспрэс-госці. Тая запрасіла знянацку, без папярэджвання, патэлефанаваўшы нам з самай раніцы.

— Усё скварчыць на патэльні,— папрасіла-папярэдзіла яна,— давайце хуценька, без цырымоній.

Не маргнуўшы вокам мы імгненна ўлезлі ў «Таёту».

Катэдж на Лонг Айлендзе, у якім жыве Вера Заморская з дзвюма дочкамі, нечым нагадвае жытло (калі можна гэтак сказаць пра двухпавярховы асабняк) Алы Орса-Рамана: дзве гасціныя, некалькі іншых пакояў, гараж. Уздоўж дома, як своеасаблівая аранжарэя, разрасліся і буйна пладаносяць розныя сарты памідораў: дробненькія, як вінаград, і вялікія — розных колераў і формаў. На лужку перад домам узняліся прыгажуны сланечнікі...

Мусіць, не такая ўжо простая справа — даглядзець усю гэту вялікую гаспадарку, пашкадавала я Веру. Хаця вырошчваць тыя ж самыя памідоры ў яе няма Ніякай неабходнасці, бо ўсяго ўдосталь і нават болей таго — у супермаркетах. Хіба што дзеля забавы. Альбо... Альбо, узнікла здагадка, гэта проста праявілася

моцная сувязь з зямлёй, спадчынная сувязь, ад продкаў сялян, што спрадвеку жылі на зямлі, якая была ім карміцелькай.

У тую раніцу нам ніяк не выпадала пагаварыць. Вера, як простая вясковая кабета, шлёпала басанож па кухні, абсталяванай па апошняму слову тэхнікі, частавала нас яечняй са скваркамі, рознымі пакупнымі каўбаскамі, іншымі амерыканскімі прысмакамі. Назіраючы за гэтай пешчанай, бясстраснай, як мне здалося на першы погляд, жанчынай, я начала разумець, што моцна памылілася. Вера жартавала, смяялася, а я бачыла ў яе вачах затоены сум, нейкі нявыказаны боль, ціхую спагадлівасць і нават пакорлівасць.

Толькі аднойчы нам выпала пагаварыць. Вера лёгка вяла машыну, абганяючы мерседэсы і джыпы. Навокал грукатаў і блішчэў, як касмічны прывід, грандыёзны Нью-Йорк.

— Ці бывала ты ў Гродне? — пачула я яе глухаваты голас.— Там у вёсцы пад Гроднам жыве сястра. Марыя завецца. А сын яе хваробу крыві мае. Пісалі, ад Чарнобыля тое... Баліць мне душа за іх, разумееш... Дзяўчынкай, перад вайной яшчэ, з'ехалі мы з бацькамі адтуль. Сястра засталася на Беларусі, адзін брат цяпер у Англіі, другі ў Польшчы. Уся вялікая сям'я раскідана па свеце.

Вера ціха апавядала пра тое, як жылося ёй у эміграцыі спачатку ў Францыі, а потымчу Амерыцы.

Сучасны вобраз эмансіпіраванай жанчыны, якая дабілася поспеху, маёй зямлячкі, ніяк не вязаўся з новым — нязграбнага падлетка ў абносках, які нароўні з мужчынамі да знямогі працаваў на ферме.

— Я цягала на сабе мяхі з буракамі і бульбай, палола грады, прастойваючы днямі ў халоднай вадзе. А ў маці былі хворыя ногі,— працягвала Вера,— ёй было так цяжка.

Вера даўно ўжо пахавала сваіх бацькоў у Амерыцы. Тое, далёкае жыццё, калі яны, бежанцы з Беларусі, рвалі жылы на цяжкай працы ў чужыне, не прайшло бясследна. Прыступамі рэўматычных боляў нагадвае пра сябе халоднае і галоднае юнацтва. Веры пашанцавала ў тым, што аказалася яна моцнай і цярплівай, вельмі працавітай і кемлівай. Адзін багаты француз, дантыст па прафесіі, узяў яе сваёй памочніцай. Дзяўчына спраўна рабіла ўсё, чаму яе вучыў доктар, старалася, І праз

некаторы час магла замяніць свайго шэфа ў самых складаных сітуацыях.

Пазней, ужо ў Амерыцы, Вера стала працаваць самастойна, адначасова брала курсы па медыцыне. Але дыплома не атрымала, бо з'явілася сям'я, дзеці, і трэба было нечым ахвяраваць. Толькі таму яна не мае цяпер уласнага офіса.

Не вельмі, відаць, шмат жаночага шчасця выпала на долю Веры Заморскай. Мусіць, не суджана. Цяжка, у пакутах паміраў муж. Яна мужна вынесла ўсе выпрабаванні. Падняла дваіх дачок. Старэйшая, Таня, скончыла універсітэт.

Палітыкай Вера ніколі не цікавілася. Але ў баку ад беларускіх спраў не стаяла. Ахвяравала грошы і на беларускую газету, і на розныя мерапрыемствы, што ладзіліся ў асяроддзі нашай эміграцыі, на царкву.

Эпізадычныя сустрэчы з гэтай амерыканскай беларускай нямала далі мне для разумення гісторыі і характару нашага народа, беларускай эміграцыі і самой Амерыкі.

Галоўны мой прынцып у рабоце — не быць староннім назіральнікам, абыякавым сведкам падзей — падштурхнуў не ставіць кропку на сваіх сустрэчах з Верай Заморскай у Нью-Йорку. У незнаёмай вёсачцы пад Гроднам, я памятала, жыве яе сястра. І я паабяцала Веры там пабываць. Без прыкрас, праўдзіва пра ўсё напісаць.

## II

У халодны кастрычніцкі дзень маршрутны аўтобус Гродна — Азёры прыпыніўся каля вёскі Стрыеўка. Не ведаючы, куды падацца і ў каго запытацца пра Верыну сястру, зайшла ў мясцовую прадуктовую краму. Прадуктаў — ніякіх, акрамя хіба што солі. Пустыя паліцы неяк адразу настроілі на сумны лад. «Вунь там, пад высокай бярозай,— хата Марыі»,— паказалі людзі. Заасфальтаваная дарога прывяла да брамкі.

У нерашучасці спынілася, чакаючы, пакуль нехта выйдзе з хаты. (Папярэдне пісала ліст, што прыеду, ведала, што чакаюць). Забрахаў сабака, і аднекуль з глыбіні двара, дзе, мусіць, толькі што давала скаціне, з бурачным бацвіннем у руках, уся ў латанай-пералатанай вопратцы, закручаная ў хусткі, у ботах паявілася гаспадыня. Нейкае імгненне, толькі імгненне мы глядзелі адна на адну: я на яе — у

брудным чорным адзенні, яна на мяне ў замежным яркім. І кінуліся адна да адной, быццам былі знаёмыя, быццам родныя.

— Танечка?! Дзетачка! Як жа я чакала цябе, чаму не папярэдзіла — сустрэлі б,— галасіла Марыя Пятроўна,— у дзетак жа свае машыны.

Па абветраным яе твары цяклі, як кроплі дажджу па шклу, слёзы.

— Ты не пужайся, што я такая зашмальцаваная — маю што апрануць і грошы маю — не жабрачка. Гаспадарка, ведаеш: куры, свінні, ваду цягаю. Усё ёсць, дзетачка: і бульба, і сала, і мяса, і агурок, і яйкі... Не тое, што ў горадзе цяпер — па чэргах стаяць. Усё свае.

Марыя Пятроўна, сцягваючы з сябе хусткі, павяла мяне ў хату, у цёплую куханьку, дзе на пліце стаялі вялікія і малыя чыгуны, парылася ежа для кабанчыка . У цынкавым вядры на лаве — чыстая вада, на сцяне — рукамыйнік.

— Тут жыла і Вера? — папыталася я адразу.

— Ды не, дзетачка, хата наша была непадалёку, на гэтым самым баку вуліцы. Ад першага бацькі трое дзядей — Фэлька, Стэх і я. А ад другога — Верачка, Нінка і Аня. Але, скажу, дружныя былі, я глядзела малодшых. Аднойчы, памятаю, вядро вады несла і Верачку (нявелькая была яшчэ) на другой руцэ трымала. Ды не ўтрымалася, упала, дзіця абліла. А айчым быў адукаваны, масты будаваў. Заўсёды падарункі дзецям прывозіў, а тады, за польскім часам, як Саветы павінны былі прыйсці, бацька пабаяўся застацца. Пайшоў. Неўзабаве праз нямецкае консульства запатрабаваў маці, дачок і прыёмнага малодшага Фэльку. Я ўжо праводзіла іх за Саветамі. Павяла на цягнік, плачу, заліваюся слязьмі — адна ж застаюся. А людзі кажуць, маўляў, завязуць іх да белых мядзведзяў... Гэта значыць — у Сібір. Але нічога, абышлося, сустрэліся яны з бацькам. А я баялася тады, што арыштуюць іх, кажу на развітанне: «Мама, я вам хоць сухароў пасушу і нашлю».

Як прыйшлі першыя Саветы (уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР.— А. Т.), то некаторых забіралі немаведама за што, вывозілі адсюль. У асноўным тых, хто жыў заможна ці працаваў лесніком або солтысам. Вось так, дзетачка. Удосталь я гора сёрбала, бедавала ад галечы... Дзякуй, сястрычкі не забыліся, дапамагалі, чым маглі, хаця і самі не надта што мелі.

Усё жыццё Марыі Пятроўны прайшло ў Стрыеўцы. Тут нарадзілася, тут жыла, як яна кажа, і за польскім часам, і за першымі Саветамі, і пад немцамі, і зноў за Саветамі. Тут замуж выйшла, тут мужа пахавала, які паранены і хворы прыйшоў з фронта. Свету белага не бачыла за працай: касіла, арала, бульбу садзіла, плуг вадзіла, жорны круціла, ткала, прала, шыла і жала» Рабіла ў калгасе цялятніцай, паляводам. Тут сямёра дзяцей нарадзіла. Каго калі, дакладна не памятае. «У прамежак паміж працай,— жартуе яна,— адзін сынок, як бульбу выбіралі, другі — як лён малацілі, дачушка — на Каляды...»

Да ўсяго была здатная Марыя Пятроўна. Усяму навучылася.

— Самае цяжкае — гэта было лён апрацоўваць,— кажа яна.— На кожную жанчыну выпадала больш як па гектару. Не бярэ рвалка, то мы яго рукамі дзяром, потым на полі абабіваем. Бывала, параблю усё па гаспадарцы за дзень, іду ноччу ў хлеў, павешу лямпачку і тру лён. Што гэта за цяжкая праца — не перадаць. Па 200 кілаграмаў трэба было здаваць. За капейкі рабілі ў калгасе.

Калі тое было? У 50-я ці 60-я гады. Калі краіна ад развітога сацыялізму пераходзіла да пабудовы камунізму. Будавалі камунізм. Марыя Пятроўна — у перадавіках, бо ўсё, што ні робіць, гарыць у руках. А тады яшчэ і на хор, паспяваць з дзяўчатамі злётае.

У 50 гадоў, як мнагадзетная маці, пайшла на пенсію. Трымае ўласную гаспадарку. Агарод у яе 35 сотак. На калгасным полі выдзяляюць участак каля 15—20 сотак для бульбы. Здаецца, можна было б спакойна дажываць свой век. Гады ўжо немалыя, пад семдзесят. — Гэта, напэўна, у Амерыцы так можна, дзе ўсё гатовае, а ў нас сваімі ручкамі трэба зрабіць, як хочаш есці і піць,— лічыць Марыя Ляўко.— З кароўкай я ўжо не дам рады, прадала яе. Свінню і двух парсюкоў трымаю. Дзевяць вёдраў ім штодня зрабі... Колькі ж той бульбы, буракоў трэба назапасіць... Сілы ўжо не тыя. А ў калгасе не дапросішся тэхнікі, каб пасадзіць ці выбраць бульбу. Дзеці толькі і дапамогуць.

Дзеці ў Марыі Пятроўны ўсе выйшлі ў людзі. Верачка, Лёня, Коля і Міша жывуць у Гродне. Чэся — у суседняй вёсцы. Марыя — тут жа, у Стрыеўцы. А Ванечка, што на інваліднасці, з ёю ў хаце.

Даведаўшыся, што да маці прыехала госця, якая прывезла прывітанне ад цёткі з Амерыкі, яны хутка сабраліся ўсе разам. Кожны хацеў, каб я пабывала і ў яго. Усё самае лепшае, самае смачнае падавалася на стол. І кансерваваныя агуркі, і памідоры, і салянка, і шынка. Усё не магазіннае, а зробленае ўласнымі рукамі.

Я сядзела ў гэтай дружнай і вясёлай кампаніі, і міжволі прыходзілі на памяць словы з песні беларускага рок-гурта «Мроя»: «Душа, гуляй! Хоць тут у нас зусім не рай. Тут родны край».

Марыя Пятроўна, якая і тут, за сталом, была камандзірам, загадала сваім: «Зараз спяваем песню для Верачкі. А ты, Таццянка, пакладзі яе ў кішэню і перадай маёй сястры»,— жартаўліва кінула яна.

Песня была сумная: пра чаромху і пра расстанне, пра нешчаслівы лес. Прымі, Вера, песню ад сваіх з Беларусі.

### III

Развітваючыся са мною, Марыя Пятроўна прасіла: — Скажы маёй Верцы, як будзеш тэлефанаваць ці лісаць, што ёсць у нас усё, жывём добра, няхай сябе глядзіць. Колечку, сыночку, аперацыю зрабілі, і цяпер як быццам няблага сябе адчувае, але... Што там казаць. Можа, прыедзе некалі да нас.

Сапраўды, павінна я напісаць шчыра, што ўсё добра ў сям'і Марыі Ляўко. Ад яе, як ад моцнага кораня, далі расткі ўглыб сыны і дочкі. Не канчалі яны універсітэтаў, але знайшлі свае месца на зямлі і моцна яе трымаюцца. Усе працавітыя, не гультаі ці абібокі якія. У дачкі Марыі Пятроўны, напрыклад, што жыве з сям'ёй у Стрыеўцы, дом цагляны, двухпавярховы, больш нагадвае амерыканскі катэдж. І жывёлу хатнюю трымаюць, і машыну маюць, можна сказаць, заможна жывуць.

Добра ўсё ў гэтай сям'і, але, на жаль, пакуль яшчэ не ўсё добра ў нашым родным краі. Марыя Пятроўна, якая бачыла, здаецца, усякае на сваім вяку, сваёй сялянскай псіхалогіяй ніяк не можа спасцігнуць тое, што адбываецца цяпер у краіне і чаму з кожным годам жыць становіцца не лепш, а горш. «Як жа гэта жыць людзям, гадаваць дзяцей, унукаў, калі нідзе нічога няма, а працоўны чалавек ніякага аўтарытэту не мае, а толькі шпікулянт усё можа,— занепакоена яна,— што гэта за рынак такі, калі ў аптэцы і ў магазіне пуста, а ўсё

перакачавала да шпікулянтаў!» Як ёй, што ўсё жыццё рабіла да сёмага поту, каб вылезці з беднасці і нястачы, растлумачыць, што дарога да храма капіталізму будзе доўгай і цяжкай? Як растлумачыць, што слабыя загінуць, не дайшоўшы? А дзецям яе ніякай палёгкі не будзе, ім, як і ёй, давядзецца працаваць да сёмага поту, каб толькі выжыць.

Хочацца спадзявацца, што родны край — Беларусь — стане больш ласкавым да ўсіх сваіх дзяцей. І да тых, хто жыве далёка-далёка, і да тутэйшых.

## РАНЧА «МОЙ РОДНЫ КУТ»

Нават у нясцерпна гарачае лета тут, у гарах штата Нью-Йорк, пануе прахалода. Клімат прыблізна такі самы, як дзе-небудзь на Брэстчыне або Гомельшчыне. Кавалак зямлі на тары плошчай 10 акраў — гэта прыблізна чатыры гектары — бацькі Данчыка набылі напалам з адной украінскай сям'ёй яшчэ ў 1969 годзе. Дакладней, кавалак зямлі і невялічкі загарадны дом. Андрусышыным дасталася па жэрабю частка без дома, суседзям — з домам. Праблему вырашылі да ўзаемнай згоды: дзве сям'і пасяліліся ў адным дамку, а праз пяць гадоў Андрусышыны пачалі будаўніцтва сваёй дачы. Унутры будынка ўсё рабілі ўласнымі рукамі. Спадарыня Юля, маці Данчыка, з усяго навакolля нацягала невялікіх камянёў, зрабіла з іх арыгінальную дэкаратыўную агароджу, якая падкрэслівае рэльеф мясцовасці. Сёння дача, ці, як тут завецца аднапавярховы дом, ранча Андрусышыных, даведзена да ладу. (Прынамсі, жыць тут можна і зімой.) Дача здаля нечым нагадвае белы карабель, які доўга вандраваў па морах і акіянах і нарэшце аддаў швартовы сярод лесу. Як па нашых мерках, то гэта дача знаходзіцца страшэнна далёка ад Манхэтэна, раёна Нью-Йорка, дзе яны жывуць. Але для Амерыкі тое лічыцца нармальным, ва ўсякім разе прымальным.

Дача, па словах спадарыні Юлі, каштавала ім не так ужо і дорага. Значна даражэй, аказваецца, утрымлі-ваць яе: падаткі, страхоўкі. Тым больш, што працуе адзін муж. Аднак жа яны не шкадуюць, што нечым Даводзілася ахвяраваць, каб мець вось такое мілае месца на ўлонні прыроды, удалечыні ад буйных прамысловых гарадоў, дзе можна з прыемнасцю

сабрацца ўсім разам, адпачыць. Уласна кажучы, гэта дача трымала і трымае ўсю іх сям'ю.

У выхадныя дні на ранча пад назвай «Мой родны кут» любяць збірацца сябры і знаёмыя Андрусышыных. У адзін з такіх выхадных пабывалі там і мы з Алай Орса-Рамана.

...Пакуль не зайшло сонца, вырашылі зрабіць невялікую прагулку па лесе. Малодшы Андрусышын, які ў свой прыезд у Мінск пару гадоў назад пакарыў песнямі беларускую публіку, заваяваў яе сэрца і стаў немалой славутасцю, добраахвотна ўзяў на сябе абавязкі гіда. Наша знаёмства з ім у Мінску было кароткім, сустрэча — у прамежках паміж канцэртамі і паездкамі па Беларусі. Наколькі памятаю, быў ён да знямогі стомлены, затузаны журналістамі. А тут — зусім іншая справа. Гавары на здароўе, колькі хочаш і пра што хочаш, пытайся — вось ён, Данчык, абаяльны, як заўсёды, трохі іранічны. Напэўна, усіх у Беларусі, хто пабываў на канцэртах Данчыка, уразіў гэты малады чалавек. Не толькі сваёй прывабнай знешнасцю і прыемным голасам, а і манерай паводзін, унутранай культурай і далікатнасцю, разняволенасцю свядомасці і натуральнасцю пачуццяў. У ім ёсць нешта такое, чаго не хапае многім з нас: пачуццё годнасці, вольнасці і незалежнасці духу.

Пасля Нью-Йорка і доўгай дарогі наша прагулка, ды яшчэ з такім гідам, як Данчык,— проста падарунак. ...Ціха. Аж дурманіць смалісты лясны водар і пах грыбніцы пад коўдрай старога лісця, з-пад якога то там, то тут вытыркаюцца сыраежкі і мухаморы, іншая грыбная драбяза. Залацісты рэтрывер па мянушцы Ржавы ўпэўнена вядзе нас знаёмымі сцежкамі...

Усе размовы ў славян, як заўсёды, за сталом. Ледзь пад'елі, як адразу загаманілі. Ну зусім так, як робіцца гэта ў нас, калі збіраецца прыстойная кампанія. Старэйшая сярод нас спадарыня Яніна КахаНоўская — бабуля Данчыка. Яна дачка Эміліі Шабуні, сястры Івана і Антона Луцкевічаў.

Нарадзілася ў Мінску ў 1909 годзе і шмат чаго ведае пра падзеі 20-х, 30-х і 40-х гадоў на Беларусі. З яе дазволу ўключаю дыктафон.

— Жылі мы там, дзе цяпер парк Янкі Купалы. Менск я страшэнна любіла і ніколі не думала, што змагу пакінуць яго назаўсёды. Такі ўлюбёны горад... І такія цяжкія ўспаміны... Немцы адышлі ў 1917 годзе, прыйшлі

бальшавікі. Ідзеш, бывала, каля Залатой Горкі і бачыш расстраляных людзей. Штоноч тады забіралі ў «чрезвычайку». Без суда і следства распраўляліся са сваімі ахвярамі новыя ўлады. Вазілі яшчэ на расстрэлы ў Камароўскі лес, гэта на тое месца, дзе цяпер клінічны гарадок, Акадэмія навук, політэхнічны інстытут. А ў тым часе жыла яшчэ сястра Івана Луцкевіча, яна была замужам за адвакатам Ельцам, якога таксама забралі і расстралялі. Я, хаця і малая яшчэ была, але памятаю, як усе баяліся, што прыедуць і забяруць. У 1919 ці нават 1918 пачалася польская акупацыя. Людзі палякаў сустракалі з радасцю — гэта ж такі кашмар скончыўся. Усе ўздыхнулі. Палякі так не лютавалі, як бальшавікі.

А пасля зноў бальшавікі прыйшлі ў 1921 годзе. Нядоўгі час жылі мы нармальна. Кожны вучыўся, дзе хацеў. Школы былі расейскія, жыдоўскія, польскія, беларускія. Але паступова ўсё гэта зліквідавалася. Пачало зноў адбывацца нешта страшнае. У 30-х гадах прыйшлі з Вільні беларускія пісьменнікі, іншыя дзеячы культуры і мастацтва, якія свядома вярталіся ў Савецкую Беларусь, каб аддаць свае сілы адраджэнню Роднага краю. І Антон Луцкевіч тады прыслаў маёй маме, сваёй сястры Эміліі, ліст, у якім прасіў заапекавацца сваімі сябрамі. За сувязь з Луцкевічам яе пасадзілі Ў турму. Праўда, праз месяц выпусцілі. А другі раз арыштавалі ў 1936 годзе разам з сястрой, якая толькі-толькі скончыла медычны інстытут і павінна была еХаць на практыку. Рабілі вобыск да 5-й гадзіны раніцы. Прад'явілі сястры абвінавачанне па 58 артыкулу за контррэвалюцыйную агітацыю і прапаганду, за тое, што слухалі радыё, расказвалі анекдоты. Увесь яе далейшы лёс быў паламаны. А маме — за неданясенне — 2 гады высылкі. Пазней адвакат казаў, што ва ўсім вінаваты Луцкевічы. З-за іх, маўляў, былі пакараны і сёстры, і пляменнікі, і проста знаёмыя.

Пасля вызвалення маці прыехала ў Менск, але ёй забаранілі жыць у сталіцы, загадалі тэрмінова выехаць. Добра яшчэ, што мая сястра працавала лекарам на Кольскім паўвостраве, яна і забрала маці да сябе.

Мяне папярэдзілі, што спадарыня Яніна не надта любіць расказваць нешта журналістам. І кожны раз, калі яна робіць доўгую паўзу або голас яе зрываецца, з трывогай пазіраю на яе спакойны твар. І маці Данчыка, ды і сам

Данчык, якія вельмі добра, на мой погляд, тіавінны былі ведаць пра ўсе перыпетыі лёсу іх сям'і, з непрыхаванай цікавасцю слухаюць гэты расказ, перабіваючы яго пытаннямі. І я нават пачынаю разумець, чаму. Для спадарыні Яніны часы сталінскіх рэпрэсій — гэта яе ўласнае жыццё. Яна яшчэ не забылася пра тое, як у гады сваёй маладосці мела адну сукенку і адну пару абутку, а бацька, дацэнт політэхнічнага інстытута, старыя боты, каб не развальваліся пры хадзе, звязваў вяровачкамі... Спадарыня Юля ў ваенныя гады была дзіцёнкам і амаль пра ўсё ведае з расказаў старэйшых, для нас жа з Данчыкам усё гэта ўвогуле гісторыя. І таму нам куды лягчэй быць непрадузятымі, расстаўляць акцэнты, шукаць ісціну. Пазней, цалкам «зняўшы» са стужкі тэкст нашай гутаркі, я звярнула ўвагу на тое, што гэта не я адна інтэрв'юірую спадарыню Яніну, а мы з Данчыкам — удваіх, па чарзе.

Спадарыня ЯНІНА: Цяпер я хачу сказаць, чаму некаторыя людзі не ўцякалі, як прыйшлі немцы ў 41-м годзе. Бо тыя немцы, што былі ў 1917 годзе ў Менску» пакінулі добры ўспамін. Гэта быў культурны народ, які чыста трымаў горад, у нядзелю заўсёды з'яўляўся аркестр вайсковы на плошчы і іграў людзям. Харчы давалі па картках, але кожны меў свой кавалак хлеба, штучны мёд — голаду не было. Калі ў сялян бралі прадукты, пакідалі ім за гэта квіткі... Першае расчараванне прыйшло, калі сталі жыдоў браць. Як гэта сагнаць здаровых людзей і знішчыць... Тое самае рабіў і Сталін, але, праўда, не на вачах ва ўсіх, а далёка, у лагерах.

ДАНЧЫК: Якая рэакцыя была на гэта беларусаў?

Спадарыня ЯНІНА: Якая ж магла быць рэакцыя, калі ў нас столькі было прыяцеляў - жыдоў! Многія ім спачувалі, а некаторыя і дапамагалі. Мама ж у клініцы працавала з лекарамі.

Я: А як вы ўспрымалі асобу Кубэ?

Спадарыня ЯНІНА: Я сама бачыла на ўласныя вочы, як людзі стаялі з кубачкамі за ежай, жыдоўскія дзеці падбягалі, ён гладзіў па галоўцы, добры быў з імі.

Я: А ці не цынізм гэта?

ДАНЧЫК: Так. Гэта ні пра што не гаворыць. Гітлер таксама гладзіў.

Спадарыня ЮЛЯ: Засталіся ж дакументы, што Кубэ пратэставаў супраць гэтых забойстваў...

ДАНЧЫК: Як жа вы маглі згадзіцца з гэтым?

Спадарыня ЯНІНА: А што мы маглі рабіць? Калі б немцы даведаліся, што хаваем жыда, дык расстралялі б. Я, дарэчы, хадзіла ў гета і не баялася.

ДАНЧЫК: А чаму ты не баялася?

Спадарыня ЯНІНА: Я брала з сабой пашпарт, дзе напісана, што я беларуска. І таму верыла, што мне кепскае не зробяць.

Спадарыня ЮЛЯ: Мама брала ад сваіх прыяцеляў рэчы, везла іх на вёску, абменьвала на сала і прыносіла Ў гета, бо там паміралі з голаду. Была рызыка і з партызанамі, заўсёды, як ішла на вёску, баялася, каб не забілі.

Спадарыня ЯНІНА: Мы ўсё разумелі. Добра разумела Але што было рабіць?

Спадарыня ЮЛЯ: Я, хаця і замалая была, але памятаю некаторыя дэталі. Было мне 9—12 гадоў. Я нічога не баялася. Хадзіла ў школу і вучылася. Да Саюза беларускай моладзі я не належала, але, як яны ішлі, часта плялася ў хвасце калоны, падпявала беларускія песні. У Менску, калі ты не чапаў немцаў, цябе ніхто не чапаў. Толькі няможна было ад 8 гадзін вечара хадзіць.

ДАНЧЫК: Але калі ты ведаеш, які чорт прыйшоў на тваю зямлю, а цябе ён не чапае — усё ў парадку?

Спадарыня ЮЛЯ: А што было рабіць? Усе ж не маглі пайсці ў партызаны. Па-другое, гэта ж былі людзі, якія пацярпелі ад камуністаў і нават не хацелі ісці ў партызаны!

У той вечар мы да глыбокай ночы гутарылі са спадарыняй Янінай і Андрусышынымі.

Не заўсёды іх тлумачэнні некаторых фактаў былі пераканаўчымі, часам нават зусім бездапаможнымі і наіўнымі, але заўсёды шчырымі. Нягледзячы на ўсё перажытае, на ўсе несправядлівасці, што выпалі на долю спадарыні Яніны на радзіме, яна не носіць у сэрцы зла. Як, мусіць, не насіла яго і нябожчыца Эмілія, якой, акрамя ўсяго, давялося зведаць і турмы, і лагеры, і здзекі, і знявагу, і здраду. Інакш, мне так думаецца, яны не змаглі б выхаваць свайго Данчыка з пачуццём такой светлай і пяшчотнай любові да Бацькаўшчыны, да ўсяго беларускага. Прынамсі, Данчык, як гаворыць спадарыня Яніна, быў моцна

прывязаны да сваёй «прабабці» Мілі. Бо самой Яніне не выпадала шмат часу праводзіць з малым — трэба было працаваць. А праца на фабрыцы на канвееры была знясільваючай, аднастайнай, вымотвала душу.

Пазней спадарыня Яніна, хаця і не журналістка, працавала некаторы час на радыёстанцыі «Свабода». Але ўсё гэта, лічыць яна, было даволі даўно. Цяпер з задавальненнем гатуе сняданак свайму любімаму ўнуку Данчулю, клапоціцца пра яго, чакае яго з працы. Па яе ж словах, Данчык — чалавек добры, мае незвычайны характар. Адна, на яе думку, загана — не палітык, неабачлівы. Не прамаўчыць, не стрымаецца, калі бачыць несправядлівасць, выкажа сваю думку. Так і ёсць, магу пацвердзіць, у гэтым я і сама магла пераканацца. Але нашто Данчыку, папытаецеся, які працуе менеджэрам, быць палітыкам?

Адказ на гэта пытанне я атрымала ў наступную сустрэчу з Данчыкам, нечаканую, незапланаваную, перад самым ад'ездам з Амерыкі. Замест таго, каб пакаваць валізкі, я вымушана была ўсё кінуць і збірацца ў тэатр, бо Данчык недзе расстараўся адзін білет на оперу «Фантом» у «Majestic theatre». Білет то купіў, а як дабрацца мне да цэнтра з Лонг Айленда, калі дома ў Алы Орса-Рамана нікога, як ісці на аўтобусны прыпынак — не ведаю, а ў метро, што ў чатыры паверхі, заблытаешся ўмомант... Данчык з офіса на Манхэтэне кіруе па тэлефоне:

— Пойдзеш налева, тады па гэтай вуліцы, а адтуль, як перасякаюцца авеню са стрыт, заходзь у метро. На выхадзе я сустрэну.

Дзеля «Фантома» я вырашыла рызыкнуць. Праз паўгадзіны зноў тэлефануе:

— Як абстаноўка? Дакладай. Ніхто не прыехаў? Не хвалюйся, гэта элементарна даехаць — я ж сустрэну.

Хаця Данчык мяне і супакойваў, але сам добра-такі знерваваўся з-за гэтага мерапрыемства. Сябар іх сям'і, Рая Станкевіч, выратавала з машынай. Данчык, узмакрэлы, у белай кашулі, пры гальштуку і ў касцюме, з пачуццём выкананага абавязку завёў у тэатр, усадзіў на месца і загадаў чакаць каля выхаду пасля спектакля. Білет жа адзін!

Але ж гэта яшчэ не ўсё. Не быў бы, як гаворыцца, мой шэф па культурнай праграме сапраўдным беларусам. Гуляць дык гуляць! З ветрыкам праімчаліся па Манхэтэне, каб

трапіць у бар на апошнім паверсе самага вышыннага будынка ў Нью-Йорку.

— Вып'ем за сустрэчу, за тое, каб заставаліся мы заўсёды людзьмі,— прапанаваў ён.

— І за тое, каб табе добра было на новым месцы, Данчуля,— дапоўніла тост Рая Станкевіч.

Вось тут нарэшце ўсё і раскрылася. Аказваецца, днямі малодшы Андрусышын прыняў прапанову і падпісаў кантракт на работу на радыёстанцыі «Свабода». Праз пару месяцаў трэба будзе ехаць у Мюнхен. Ну, а журналісту, лічыцца, абавязкова трэба быць палітыкам. (Данчык, дарэчы, журналіст па адукацыі.).

Цяпер зразумела, чаму гэтак хвалявалася бабуля Данчыка. Цяпер зразумелы і трохі шалёны стан яго самога, натуры артыстычнай, тонкай. Вядома, перажывае, у нечым сумняваецца.

Гуляць, дык гуляць! Тым больш з людзьмі, блізкімі табе па духу, па светаўспрыманню. Ну хіба ж разважлівым прагматыкам прыйдзе ў галаву гуляць пешкі па начным Нью-Йорку? Мы пагулялі. А потым сярод ночы паехалі яшчэ на экскурсію да Данчыка ў офіс. Дзяжурны ўнізе, дарэчы, нікольκі не здзівіўся: Амерыка ёсць Амерыка! Даў ключы, і мы неўзабаве апынуліся на тым паверсе, дзе за маленькімі столікамі з перагародкамі размяшчаюцца дзесяткі клеркаў, кожны з якіх выконвае нейкае заданне шэфа.

У Данчыка ў гэтай канторы асобны кабінет з камп'ютэрамі і картатэкамі. Таму, хто кіруе кадрамі, усё трэба ведаць пра сваіх супрацоўнікаў, быць дыпламатам і псіхолагам. Мусіць, у Данчыка гэта атрымліваецца, бо яго цэніць кіраўніцтва.

Данчык сеў на свае месца за сталом і стаў паказваць, як ён шукае інфармацыю, піша лісты тым, хто прэтэндуе на работу ў іх фірме.

За спіной у Данчыка ў вялікім акне гарэў, пераліваўся начны Нью-Йорк. А я, па шчырасці, была вельмі і вельмі задаволена тым, што гаспадару кабінета нядоўга ўжо засталося тут сядзець, перакладаць паперкі. Гэта месца для чыноўніка, а не для мастака, натуры творчай. У даволі вялікім кабінеце, я адчувала, яму не было чым дыхаць і ўжо тым больш — ніяк не ўзляцець.

## «...ГАВОРЫЦЬ РАДЫЁСТАНЦЫЯ «СВАБОДА»

На Брадвей у Нью-Йорку, дзе знаходзіцца радыёстанцыя «Свабода», мы прыехалі з самай раніцы. Спадар Янка Запруднік, як заўсёды,— на працу, я — на экскурсію, ці, як бы гэта больш дакладна сказаць: паглядзець, як працуюць калегі, пагутарыць з імі. (З роднай савецкай прэсы мала чаго можна было даведацца пра «Свабоду», акрамя хіба таго, што тут працуюць «акулы імперыялізму», «агенты ЦРУ», «ідэалагічныя дыверсанты», «нацыяналісты розных масцей»).

...Мажны паліцэйскі на ўваходзе, які павінен быў, па маіх уяўленнях, запатрабаваць дакументы ў незнаёмага чалавека, пропуск ці хаця б пацікавіцца, куды мы накіроўваемся (па аналогіі з працэдурай уваходу на наша Дзяржтэлерадыё), без усялякай падазронасці, абыякава праводзіў позіркам.

Спадар Запруднік, як усё роўна прачытаў па вачах пытанне, заўважыў: «На «Свабоду» ўваход свабодны».

У даволі вялікім кабінеце спадара Запрудніка, супрацоўніка беларускага аддзела радыё «Свабода», усё прыстасавана для грунтоўнай працы, усё пад рукамі: тэматычныя, аўтабіяграфічныя даведнікі, мастацкая літаратура, часопісы, газеты, шматлікія інфармацыйныя бюлетэні. Сюды Янка Запруднік прыйшоў працаваць у канцы 50-х гадоў. Тут, у гэтым кабінеце, пісаў свой «дактарат» — доктарскую дысертацыю на тэму «Палітычнае змаганне за Беларусь у Дзяржаўных Думах Расеі ад 1906 па 1918 гады». Тут ім падрыхтаваны сотні перадач на самыя разнастайныя тэмы. А сёлета Янка Запруднік вырашыў пакінуць журналісцкую працу, бо хоча сур'ёзна заняцца даследчыцкай. Ужо падпісаны кантракт з амерыканскім выдавецтвам на кніжку «Беларусь паміж Захадам і Усходам», і трэба тэрмінова брацца за работу. Гэтыя летнія дні для яго, напэўна, нейкі пераходны перыяд, так бы мовіць, адаптацыя да новай якасці. Ёсць трохі вольнага часу. Ну, а для мяне цудоўная магчымасць атрымаць адказы на свае пытанні.

— Як я трапіў на «Свабоду»? Тут няма ніякіх сакрэтаў. Але дзеля гэтага перадгісторыя. Родам я з мястэчка Мір, скончыў там пачатковую школу. А тады, каб мяне, рослага падлетка, насільна не забралі служыць ў

паліцыю немцы, пайшоў вучыцца ў прагімназію ў Баранавічах. У часы нямецкай акупацыі там працавалі медыцынская школа, тэхнічная, гандлёвая... Вучоба давала магчымасць ухіліцца ад вывазу ў Германію. Са школаў так не хапалі. Прынамсі, у Баранавічах. Партызанамі ж было забаронена хадзіць у якую-небудзь школу вышэй пачатковай. Таму ўсе, хто вучыўся, быў ужо злачынцам, здраднікам у іх вачох — ім пагражала турма.

Школьнікі належалі тады да Саюза беларускай моладзі. Што гэта была за арганізацыя? Гэта была спроба беларускага настаўніцтва даць патрыятычнае ўзгадаванне нашай моладзі. Трэба ж было неяк выжыць у тых умовах нямецка-фашысцкай акупацыі. Значыцца, скончыўшы прагімназію, я пайшоў у гандлёвую школу на 3-ці курс. Гэта быў 1944 год. Заставацца ў Баранавічах з наступленнем Савецкай Арміі было небяспечна. Мы ўжо ведалі, як распраўляліся з «ворагамі народа»...

У Нямеччыне апынуўся ў лагеры для перамешчаных асобаў спачатку ў Рэгенсбургу, пасля ў Міхельсдорфе... Самаахвярныя настаўнікі заснавалі ў Нямеччыне гімназію імя Янкі Купалы. Хаця не было сшыткаў, кніжак, але мы атрымлівалі добрыя веды. Пасля сканчэння гімназіі група моладзі была год скаўт-майстрамі. А з пачатку 1948 года выехалі ў Ангельшчыну: была нагода ўладзіцца на работу на шахтах. Мы, група з 12 чалавек, ехалі туды з думкай вучыцца далей, неяк трапіць ва універсітэт. Падпісалі паміж сабой такі кантракт, дамову, дзе абавязаліся трымацца разам, памагаць адзін аднаму. Вырашылі выдаваць свой лісток» каб захаваць сувязь з сябрамі, што засталіся ў Міхельсдорфе. Пасля той бюлетэньчык вырас у часопіс «Наперад». Кожны з нас пісаў туды тое, што мог і як мог, 26 нумароў гэтага саматужнага выдання засталіся для гісторыі. Дзякуючы часопісу, пра нас даведаліся ў беларускім студэнцкім асяродку ў Бельгіі, запрапанавалі прыехаць у Лювенскі універсітэт па навуку. Адправіліся 9 чалавек, і кожны паступіў вучыцца. Я скончыў гістарычны факультэт. Тады, у 1954 годзе, была арганізавана радыёстанцыя «Вызваленне», куды я пайшоў працаваць у беларускую рэдакцыю. А ў 1957 годзе выехаў з Мюнхена ў Амерыку. Зноў жа, хацеў за ўсякую цану далей вучыцца. А ў Мюнхене ў мяне не было такіх фінансавых

магчымасцей, спадзяваўся, што ў Амерыцы неяк праб'ю дарогу.

У Амерыцы Янка Запруднік, наш з вамі зямляк, прабіў сабе дарогу. Але нічога і тут не давалася лёгка. Што такое журналісцкая праца, я цудоўна ведаю — вымотвае ўсе сілы.

Пасля абароны «дактарату» спадар Янка Запруднік пяць гадоў выкладаў па вечарах гісторыю Расіі і Савецкага Саюза ў Квінскім каледжы як асістэнт прафесара. А акрамя гэтага, доўгі час рэдагаваў газету «Беларус», удзельнічаў у выданні манаграфіяў і гадавікоў «Запісаў» Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку.

Тое, што па сваіх перакананнях спадар Запруднік антыкамуніст, давала ў мінулым падставы нашым уладам ставіцца да яго як да ідэйнага ворага, шкоднага для Беларусі чалавека. Ну і адпаведна «ўся варожая прапаганда» «Свабоды» глушылася ў эфіры.

Цяпер наконт радыё «Свабода». Яно было аснавана ў пачатку 50-х гадоў як частка радыёстанцыі. Другая яе частка — радыё «Свабодная Еўропа». Радыё «Свабода» спецыялізавалася на вяшчанні для народаў СССР, а «Свабодная Еўропа» — для краін сацыялістычнага лагера. Абедзве гэтыя ўстановы, як гаворыцца, пад адным менеджментам, працуюць у цеснай узаемасувязі. Мэта дзейнасці радыёстанцыі, па словах кіраўніка беларускай службы радыё «Свабода» Вячкі Станкевіча,— «трансляванне інфармацыі з вольнага свету ў замкнёныя яго рэгіёны». Супрацоўнікі радыёстанцыі, дарэчы, абавязаны выконваць пэўныя правілы. Адно з іх: калі перадаюцца весткі, дык яны не могуць быць узяты з адной крыніцы, а павінны быць пацверджаны і з іншай — незалежнай. Другое: захоўваць прынцып аб непадбухторванні. Што ж датычыцца абвінавачванняў радыёстанцыі ў супрацоўніцтве з ЦРУ, то яны, безумоўна, не беспадстаўныя. Бо яшчэ гадоў дзесяць назад радыё «Свабода» атрымлівала фінансавую падтрымку ад ЦРУ. Вось як тлумачыць гэта Вячка Станкевіч: «Для кожнае разведкі інфармацыя вельмі важная - гэта падстава дзейнасці. ...У сувязі з тым, што радыёстанцыя была адным з найбольшых даследчых інстытутаў Заходняй Еўропы, частка нашай інфармацыі была карысная і для ЦРУ — дзеля таго яны лічылі патрэбным даваць грашовую падтрымку радыестанцыі. ...Цяпер радыё «Свабода»

афіцыйна фінансуецца Кангрэсам Злучаных Штатаў Амерыкі».

...Спадар Янка Запруднік у той дзень паказаў мне збольшага апартаменты «Свабоды»: вялікую бібліятэку, кабінеты з камп'ютэрамі, асобныя кабінкі для працы, дзе журналіст можа як бы адасобіцца ад усіх. Хаця, як мне здалося, амерыканскія журналісты могуць працаваць і не адасабляючыся: сядзяць у агульнай зале, і кожны друкуе на машынцы нешта сваё...

— Вы ведаеце, што такое факт? — ці пытаецца, ці разважае спрактыкаваны ў журналісцкіх справах Янка Запруднік.— Гэта як той мяшок. Каб стаяў, яго трэба запоўніць пяском. Кожны факт патрабуе сваёй інтэрпрэтацыі. Скажам, адзін і той жа факт можа зусім па-рознаму ўспрымацца і асвятляцца. Для Бумажковай, што актыўна дзейнічае на журналісцкай ніве ў Беларусі, Сталін — гэта адзін факт, для нас, эмігрантаў,— другі. Разумееце, што я кажу? А ўвогуле нашая функцыя — інфармацыйная. Калі гаварыць пра беларускую праграму як нешта цэласнае, то ў асноўным гэта паведамленне вестак аб тым, дзе і што робіцца. Мы стараемся цяпер як бы дапаўняць сродкі інфармацыі на Беларусі паведамляць тое, пра што яшчэ замоўчваецца ў вас, не гаворыцца ўслых.

Аказваецца, усяго двое штатных супрацоўнікаў беларускай службы радыё «Свабода» працуе ў Нью-Йорку. Спадар Янка Запруднік і яго маладзейшы калега Адам Акуліч. Адаму — пад 40. Адзінаццаць гадоў назад ён эмігрыраваў з Беларусі. Па адукацыі — акцёр. Скончыў у свой час Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, працаваў у тэатры юнага гледача і ў акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы ў Мінску.

— Я быў страшэнны ідэаліст у маладыя гады,— расказвае А. Акуліч.— Калі пачаў працаваць у тэатры пасля інстытута, то, памятаю, выступаў на сходзе трупы і казаў, што грошы не трэба плаціць акторам, а трэба даваць добрыя спектаклі. Я думаю, не толькі інстытут вінаваты ў гэтым маім ідэалізме. Гэта проста быў такі характар. Але, працуючы далей і ў ТЮГу, і ў купалаўскім тэатры, і ў Ленінградзе, я пазбавіўся ідэалізму. Бо сутыкнуўся з адкрытай карупцыяй, з мафіяй. І гэта для мяне было трагедыяй. Гэта быў той момант, які абсалютна разбіў мяне. Я тады быў перакананы, што перспектывы ніякай наперадзе няма. Прыняў

рашэнне ехаць на Захад, хаця і не меў ніякага ўяўлення пра тое, што і як буду там рабіць. Адным словам, ехаў у нікуды. Адзінае, што мною рухала і што давала сілы, гэта вера у наяўнасць свабоды ў Амерыцы. (Бо ў нас, калі ты не кар'ерыст, не прыстасаванец, то проста прапаў). Канешне, у гэтым плане я не памыліўся наконт Захаду. Фактычна тут чалавек, які можа працаваць, не прападзе, абавязкова знойдзе прымяненне сваім здольнасцям. Хаця і тут, я заўважу, цяжкасцей таксама хапае.

— Вы прыйшлі на «Свабоду» 7 гадоў назад як карэспандэнт культурна-літаратурнага накірунку. А цяпер, як я ведаю, вас больш «грэюць» эканамічныя тэмы. Ні патрэбна вам была нейкая спецыялізацыя?

— Увогуле кожная рэдакцыя мае сваіх спецыялістаў як штатных, так і пазаштатных, якія пішуць на эканамічныя, культурныя ці палітычныя тэмы. Тут, у Нью-Йорку, мы ўдваіх. А ў Мюнхене яшчэ чалавек 10—12. Кожны павінен мець даволі шырокі спектр ведаў, валодаць паралельнымі і нават зусім далёкімі ад яго ўлюбёнай тэмамі. Таму што ў нас у рэдакцыі супрацоўнікі павінны ўзаемазамяняць адзін аднаго, быць у прынцыпе універсаламі.

Маё ж зацікаўленне эканамічнымі тэмамі зусім не выпадковае. Думаю, што эканоміка — фундамент усяго. Асабліва актуальная эканамічная сітуацыя для жыхароў Беларусі менавіта цяпер.

— Вы жывяце ўяўленнямі 11-гадовай даўнасці аб Беларусі ці ездзілі туды?

— У мяне пад рукамі шмат матэрыялаў. Амерыканскі друк мае шмат карэспандэнтаў, якія бываюць у Беларусі і аналізуюць эканамічную сітуацыю. На Захадзе ёсць шмат такіх рэзюме, аналізаў, каментарыяў прафесійных — іх інстытут Гарымана робіць. Таму зусім не абавязкова ездзіць карэспандэнту. Добра, зразумела, калі ёсць людзі, якія пастаянна інфармуюць нас.

— А ці ёсць у рэдакцыі нейкае планаванне, штодзённае ці перспектыўнае? Як вы рыхтуеце праграму?

— Безумоўна, кожны дзень праграма мае сваю арыентацыю. Вось паглядзіце, як мы працуем з камп'ютэрам. Сістэма камп'ютэра мае ліст, на якім ідуць рэкамендуемыя тэмы. Гэта тое, што актуальна сёння ў свеце і што можна было б выкарыстаць у нашай праграме. Праграма рыхтуецца блокамі. Кожная

складаецца з 5—10 блокаў. Спачатку галоўныя міжнародныя падзеі, пасля падзеі ў Савецкім Саюзе, рэспубліцы, культурная інфармацыя і гэтак далей. Карыстаемся паведамленнямі агенцтваў з усяго свету. З Савецкага Саюза я аддаю перавагу ТАСС. Апошнімі месяцамі ТАСС сталася аператыўным агенцтвам, перайшоўшы пад апеку прэзідэнцкага Савета. Прысылаюць інфармацыю карэспандэнты.

— Якой вам уяўляецца эканамічная сітуацыя ў Беларусі?

— Я думаю, што яна не лепшая, чым наогул у Савецкім Саюзе. Людзі, якія прыязджаюць з Беларусі, расказваюць, што ў Менску лепш з забеспячэннем харчамі, чым у іншых рэгіёнах. Але гэта ўсё адносна» Тэндэнцыя эканамічнага спаду, вострага крызісу відавочная, нават паглыбляецца шмат з якіх прычын. Першая прычына і галоўная — гэта тармажэнне рэформаў кампартыяй. Партыі сёння ніхто не дае веры, яна поўнасцю сябе скампраметавала. Я хацеў бы выказаць і сваё асабістае разуменне сітуацыі ў СССР. Бывае так, што адзін нейкі перыяд (тыдзень-два) я сімпатызую Гарбачову, вялікаму маніпулятару і палітыку, і пачынаю апраўдваць яго захады. Так, ён мусіць быць пасярэдзіне, знаходзіць кампраміс, сядзець на двух крэслах. А пасля поўнае расчараванне. Бачу, што ён абсалютна не тым займаецца. Тлумачу гэта тым, што прэзідэнт проста не мае рэальнай праграмы. Можа быць і жадае, каб у яго краіне былі і свабода, і хлеб. Але ў Расіі заўсёды так: ёсць хлеб — няма свабоды, ёсць свабода — няма хлеба. Думаю, што ягонае жаданне ўратаваць КПСС, рэфармаваць яе — памылка. Нельга рэанімiраваць утопію. Гарбачоў жа сам сказаў на апошнім пленуме, што марксізм-ленінізм — гэта утопія. Хаця зноў жа, за словамі Гарбачова бачу намер перавесці КПСС на рэйкі сацыял-дэмакратыі. Цяпер якраз самы небяспечны перыяд, паміж апошнім пленумам і нечарговым з'ездам КПСС. Менавіта тэты перыяд вызначыць, дзе стаіць партыя, прэзідэнт, генеральны сакратар, хто ёсць хто.

— Якімі беларускімі выданнямі вы карыстаецеся з найбольшай ахвотай?

— Найперш гэта часопіс «Камуніст Беларусі», які я чытаю рэгулярна. Паводле аўтараў, тэм, аналізу палітычнай сітуацыі гэта вельмі змястоўнае выданне. Па яго публікацыях я сачу за ходам падзей, ведаю, да чаго імкнуцца

левыя, што робяць правыя. Ён дае добрую інфармацыю для арыентацыі.

Пасля я б назваў маладзёжны часопіс «Крыніца». Яны як неба і зямля з «Камуністам Беларусі». Гэта два розныя полюсы. У іх розныя пазіцыі, задачы, тэматыка. Мне «Крыніца» найперш цікавая тым, што маладзёжныя праблемы на яе старонках усе на паверхні, пра іх гаворыцца адкрыта. «Вожык» таксама чытаю.

Але апошнім часам ён абсалютна не смешны. Згубіў гумар.

— А журналіст на Захадзе можа быць не палітыкам?

— Журналіст — абавязкова палітык у любым грамадстве. Воляю выпадку мне давялося стаць журналістам. Я браў курсы — трэба ж было вучыцца, каб пацвердзіць свае крэдыты. І першае правіла, якое я запомніў з лекцыі: «журналіст — чалавек, які ўсё бачыць, усё чытае, да ўсяго прыслухоўваецца, усё заўважае».

— Ці могуць на радыё «Свабода» выказвацца розныя ацэнкі, ці існуе плюралізм думак?

— Безумоўная рэч. Асабліва цяпер, калі мы маем карэспандэнтаў з Беларусі. Яны па-свойму інтэрпрэтуюць падзеі, даюць свае тлумачэнні з'явам. Гэта цікава, дае шматколерную карціну рэчаіснасці.

— Скажыце, спадар Адам, як вы ставіцеся да таго факта, што, нягледзячы на вялікія перамены ў нашай краіне, на развіццё працэсаў дэмакратызацыі, многія грамадзяне хацелі б эмігрыраваць з Беларусі на Захад? Што вы можаце сказаць ім?

— Па-першае, небяспечна раздаваць рэцэпты. Калі мне нехта кажа: гэты чалавек сябе не знойдзе ў эміграцыі, я не перакананы, што гэта так і ёсць. Асабіста я, напрыклад, выехаў у абсалютна іншы час. Колькі разоў за гэтыя шэсць гадоў перабудовы я лавіў сябе на думцы, што ўсё-такі ў нас там вельмі цікава. Цяжка, але цікава. Я нават пашкадаваў, што галоўная падзея прайшла міма. Канешне, я разумею, што збоку, з-за акіяна, глядзець на ўсе падзеі вельмі проста. Але ўсё-такі, па вялікаму рахунку, калі б перада мной стаяла пытанне пра эміграцыю цяпер, то выбар быў бы адназначны — там. Я растлумачу, чаму. Усё-такі ёсць магчымасць таго, што будзе вольны рынак, гэта не таму, што так хочуць ліберальныя сілы, або амерыканскі прэзідэнт, або капіталісты на

Захадзе, якія прагнуць упіхнуць свае капіталы ў савецкую эканоміку. І такую магчымасць, шанс я не пакінуў бы незрэалізаваным. Мoжа я і завялікі аптыміст, але думаю, што за 10— 15 гадоў у нас будуць такія ж самыя магчымасці, як і ў Англіі, Амерыцы. Мы не гаворым тут пра тэхнічную рэвалюцыю. Фактычна гэтыя роўныя магчымасці для кожнага сёння складаюць фундамент амерыканскай дэмакратыі. І я перакананы, што той рэгіён, які называўся да 1985 года «даспелым разгорнутым сацыялізмам», будзе той самай зонай прадпрымальніцтва, у якой мільёны людзей знойдуць сябе. З'явяцца такія ж самыя незалежныя бізнесмены, як тут, на Захадзе.

Як бы добра ні было ў чужой краіне, усё-такі жаданне чалавека і мара яго — быць на сваёй зямлі. Кажу гэта не таму, што маю наетальгію. Думаю, што ў старэйшых людзей гэта больш асэнсавана і нават больш мудра сказана. Да мяне гэта толькі пачынае прыходзіць. І не без дапамогі той гарбачоўскай перабудовы. Цяпер я перакананы, што там усё можа быць! А раней жа я быў упэўнены, што там не можа быць нічога.

— Ці верыце вы ў Бога?

— Хаця я і лічу сябе атэістам, але думаю, што і ў кожнага атэіста ёсць свой Бог. Я думаю, мой Бог — гэта Бог роўнасці. Усе людзі нарадзіліся аднолькавымі. Але чамусьці адзін лепш маецца, а другі — горш. І вось гэтая сацыяльная несправядлівасць мучыць.

— У вас амаль што камуністычныя перакананні...

— Не жартуйце. Камуністычная ідэалогія — гэта тэзісы, маніфесты. Хаця «Камуністычны маніфест» — гэта надзвычайны дакумент. Калі б камуністы, бальшавікі, КПСС думалі пра сацыяльную справядлівасць — карупцыі не было б. На словах а дно, на справе іншае.

...Можна было б падзякаваць спадару Адаму Акулічу за цікавае інтэрв'ю, спадару Янку Запрудніку — за магчымасць пабываць на «Свабодзе» і развітацца.

Але ж не ўстрымаюся ад кароткага каментарыя. Сустрэча наша адбывалася можа за які тыдзень да падзей, што ўскалыхнулі ўвесь свет,— жнівеньскага путчу. Прагнозы Адама Акуліча наконт архіважнасці сучаснага гістарычнага моманту і хуткага самавызначэння асноўных палітычных сіл у нашай краіне аказаліся надзвычай правільнымі. І яшчэ адна

дэталь. У той час, як па вуліцах Масквы грукаталі танкі, наводзячы жах на мірных жыхароў, савецкае радыё і тэлебачанне перадавалі класічную музыку, як заўсёды, пазбавіўшы людзей усякай інфармацыі. Затое бесперапынна давала яе сваім слухачам радыёстанцыя «Свабода». Яе карэспандэнты ў Маскве вялі прамыя рэпартажы з месцаў падзей і перадавалі іх па спадарожнікавай сувязі ў Мюнхен і Нью-Йорк. Барыс Ельцын пасля путчу акрэдытаваў карэспандэнтаў «Свабоды» ў Маскве.

## НАТХНЯЮЦЬ ВОБРАЗЫ РАДЗІМЫ

### НАТАТКІ ПРА ТВОРЧАСЦЬ МАСТАЧАК, НАШЫХ СУАЙЧЫННІЦ З ЗША

На адкрыццё выставы ў Ратгерс-універсітэт у Нью-Брансвіку, штат Нью-Джэрсі, нягледзячы на тое, што лета і гарачыня, прыехалі беларусы і з суседніх штатаў. Усе па-святочнаму апранутыя, урачыстыя, узрушаныя. Сёння, можна сказаць, выпадак не зусім звычайны: сярод наведвальнікаў выставы не толькі тутэйшая публіка, але і госці з самой Беларусі, вельмі ўплывовы мастацтвазнавец, выкладчык мастацкай студыі ў Ратгерс-універсітэце Джудзіт Бродскі.

У запрашальніку значацца імёны шасці мастачак: Ірэны Рагалевіч-Дутко, Надзеі Кудасавай, Людмілы Махнюк, Галіны Русак, Тамары Стагановіч і Івонкі Сурвілы. Пяцёра прысутнічаюць на выставе, і мы зможам бліжэй пазнаёміцца з імі. Напэўна ж, ні адно імя з гэтай «шаецёркі» невядомае пакуль на Беларусі, хаця нашы зямлячкі, жывучы ў эміграцыі, вельмі плённа, творча працуюць ужо два дзесяцігоддзі, удзельнічаюць у прэстыжных выставах, на якіх атрымліваюць ганаровыя дыпломы і залатыя медалі, іх працы ўпрыгожваюць храмы, цешаць насталығічную памяць у багатых дамах беларускай эміграцыі; жанчыны ладзяць тут свае сумесныя выставы, беларускія фалькдорныя фестывалі і выставы твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі. Іх творчасць, па сутнасці, нікім не даследаваная, як з'ява вельмі цікавая і арыгінальная, бо ўяўляе сімбіёз двух мастацтваў — амерыканскага і беларускага. Так бы мовіць, на амерыканскай глебе ўзгадаваўся беларускі

дух без уздзеяння дактрыны сацыялістычнага рэалізму. Беларускасць невынішчальная і арганічная ў творчасці кожнай з памянёных мастачак. Больш таго, менавіта яна — стрыжань і аснова іх светаўспрымання. Гэта і дае падставу мастачкам трымацца разам, групай. Праўда, арганізаваны яны так, што няма ў іх ні старшыні, ні сакратара — усё трымаецца на энтузіязме і ахвярнасці. Мастацтва, як вядома, дарагая рэч. Асабліва тут, у Амерыцы. Наладзіць выставу ў вольным свеце не такая ўжо простая справа: трэба надрукаваць запрашальнікі, каталогі, зрабіць экспазіцыю, арандаваць памяшканне. Гэта патрабуе немалых выдаткаў, і толькі з уласнай кішэні. Ірэна Рагалевіч-Дутко, дызайнер, звязаная па роду дзейнасці з рэкламай, узяла на сябе падрыхтоўку афіш і запрашальных білетаў. Галіна Русак, дырэктар мастацкай бібліятэкі ў Ратгерс-універсітэце, усяляк спрыяе таму, каб іх выставы маглі дэманстравацца ва універсітэцкай галерэі.

З мастацтва ў поўнай меры жывуць толькі Ірэна Рагалевіч-Дутко і Тамара Стагановіч. Надзея Кудасава і Людміла Махнюк, як па-нашаму — самадзейныя мастачкі, пішуць карціны выключна для душы, альтруіст па натуры і Галіна Русак (яна у прынцыпе мае спецыяльную падрыхтоўку і ў маляванні, і ў гісторыі мастацтва), для якой найбольш важна паказаць свае работы гледачу, чым прадаць, хаця грошы, напэўна ж, не былі б лішнія.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што быць у Амерыцы мастаком і заваяваць прызнанне даволі складана. Як растлумачыла мне Галіна Русак, па-першае, таму, што мастакоў тут хоць гаць гаці, усе галерэі перагружаныя, і трапіць куды-небудзь без сувязей амаль што немагчыма. А да нядаўняга часу існавала яшчэ і пэўная дыскрымінацыя ў адносінах да жанчын-мастакоў: яны не прымаліся ў мужчынскія галерэі, лічылася, што мужчына мае права цалкам прысвяціць сябе гэтай справе, ну а жанчына, як заўсёды, толькі ў вольны час. Цяпер, праўда, пасля доўгага змагання амерыканскіх жанчын за свае правы, яны пачалі арганізоўваць свае галерэі. Да адной з іх, што знаходзіцца ў багемным раёне Нью-Йорка — Сога, дарэчы, належыць і Галіна Русак, дачка настаўніка з Навагрудка.

Запрашаю ж вас, шаноўныя чытачы, пасля кароткай папярэдняй інфармацыі зрабіць

экскурсію па выставачных залах Walters Hall art Gallery ў Ратгерс-універсітэце.

Сярод усіх работ, выкананых, прынамсі, у традыцышнай ці блізкай да традыцыйнай манеры, вылучаюцца, прывабліваюць і інтрыгуюць работы спадарыні Галіны Русак. Прафесар Томас Бёрд у каментарыі да каталога мастачкі нездарма назваў іх правакацыйнымі. Сапраўды, вялікія палотны, як магнітам, прыцягваюць вока яркасцю фарбаў, пластычнасцю абстракцый. Чорнае арганічна ўпісваецца ў насычанае зялёнае і суседнічае з белым. Фантастычныя кветкі ў кампазіцыі нагадваюць касмічнае вока, якое ўсё бачыць. Сярод гэтай, на першы погляд, фантасмагорыі неяк нечакана бачыць абрыс васілька ці папараць -кветкі. Для гледача многае зашыфравана ў карцінах спадарыні Галіны Русак, і таму людзі падоўгу стаяць каля іх, разгадваючы задуму аўтара. Узяць хаця б карціну пад назвай «Курган». Відавочна, што ідэя яе навеяна старажытнымі беларускімі паданнямі і легендамі. У даным выпадку курган гэты — своеасаблівы сімвал Бацькаўшчыны, зямлі беларускай, яе гісторыі, поўнай загадак і містыфікацый. «Што робіцца на кургане гэтым? Вецер дзьме, і ноч злавесная, усякая сіла падземная выйшла на волю...» — спрабуе неяк вытлумачыць свае загадкавыя рэбусы-карціны Галіна Русак. Але тлумачыць іх не толькі цяжка, проста немагчыма. У адных творы мастачкі выклікаюць уяўленне пра далёкую мінуўшчыну Беларусі, другія бачаць імкненне аўтара праз колеры як сімвалы (чорнае — зло, смерць, белае — святло, радасць, зялёнае — жыццё, прырода, карычневае — цяпло, зямля) і іх спалучэнне паказаць складанасць і бясконцасць сусвету.

У такой манеры Галіна Русак ужо не працуе. Гэта пройдзены этап. У пошуках новых мастацкіх ідэй яна не выпадкова звярнулася да традыцыйнага народнага мастацтва і стала шырока выкарыстоўваць у сваіх работах сімвалы, арнамент, геаметрычны малюнак. Як яна кажа, стала ўводзіць беларускую традыцыю. Створаныя, здавалася б, па простых геаметрычных схемах, кампазіцыі мастачкі набылі выразны нацыянальны каларыт і гучанне. На пытанне, у чым менавіта Галіна Русак бачыць беларускую традыцыю, яна адказвае:

— Я пачала са знешніх прыкмет. Увяла ва ўжытак беларускую флёру: мак, васілёк,

стылізаванае поле. Пасля стала скарыстоўваць фаўну: зубра, воўка, бусла. Пазней — геаметрычны арнамент. З цягам часу» вывучаючы беларускі народны касцюм, вышыўку і ткацтва, заўважыла надзвычай цікавыя элементы.

Я маю на ўвазе Берагіню (гэта ад слова берагчы, ахоўваць). Падобны вобраз ёсць і ў амерыканскім мастацтве, дзе ён называецца багіня зямлі. Тады я пачала знаходзіць і ў ручніках, і ў абрусах беларускіх нямала людскіх абліччаў. Стала сама спалучаць стылізаваныя выявы звяроў з геаметрычным арнаментам. Мне хацелася паказаць для заходняга свету і такую мастацкую каштоўнасць, як слуцкі пояс. Я часта малюю матывы ўзораў цудоўных рукатворных вырабаў беларускіх майстрых. Гэта ёсць на даным этапе тое, на чым я як мастачка затрымалася.

Як мастачка спадарыня Галіна Русак не стаіць на месцы, увесь час шукае новыя сродкі мастацкай выразнасці, выяўлення сваёй індывідуальнасці. Хаця для творчай працы ў яе не так ужо і шмат часу. Бо корміць служба ў бібліятэцы, а ўсякі, хто мае ў Амерыцы добрую работу, трымаецца за яе, павінен быць вельмі дысцыплінаваным, арганізаваным, заўсёды дбаць пра свой прафесійны ўзровень, павышаючы і ўдасканальваючы веды.

Спадарыня Людміла Махнюк, заснавальніца парафіяльнага сястрыцтва ў Саўт-Рыверскай царкве, паказвае на выставе некалькі акварэльных пейзажаў, два жывапісныя палотны. Работы гэтыя вылучаюцца, я б сказала, нейкім духам рамантызму, прасветленасці» сентыментальнасці. Жонка вядомага сярод амерыканскай эміграцыі святара Алега Махнюка, таленавітага разьбяра і ўвогуле майстравітага чалавека, які зрабіў купал, іканастас, мазаічную ікону святой Ефрасінні, аналой і многія іншыя рэчы для царквы святой Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы, Людміла Махнюк таксама не ўяўляе, відаць, свайго жыцця без мастацтва,. без творчасці. Як і Галіна Русак, Людміла Махнюк прачуе ў бібліятэцы. Душу ж «адводзіць» у сваёй майстэрні. Хаця даўным-даўно, амаль што паўстагоддзя назад» пакінула яна радзіму, але і дасюль вобразы таго краю, межавала дыяпазон тэм і сюжэтаў яе твораў, звузіла саму мастацкую палітру.

Нездарма ж, як толькі пазнаёміліся, спадарыня Тамара Стагановіч звярнулася да

мяне са страснай прамовай, у якой рэфрэнам гучала: «Мы, беларускія мастакі ў Амерыцы, хацелі б супрацоўнічаць з мастакамі ў Беларусі, наладзіць сувязь, абмен выставамі і ідэямі, магчыма, і ў галіне кнігавыдавецкай справы». Як прафесійны мастак і шчыра адданы беларускай справе чалавек, Тамара вельмі добра разумее, што карысць ад гэтых кантактаў будзе ўзаемная. Цікавыя, на мой погляд, яе думкі і разважанні, якія ўзніклі пасля прагляду каталога вырабаў майстроў беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і некаторых мастацкіх альбомаў.

— Сапраўды, я лічу, што многімі тканымі вырабамі, керамікай, шклом Беларусь магла б зрабіць бізнес. Але перш чым брацца за такую справу, неабходна ведаць кан'юнктуру, моду. Узровень жыцця ў Амерыцы даволі высокі. За год мяняецца фактура, калёр тых жа фіранак, накідак на ложкі. Ёсць спецыяльная асацыяцыя, якая выдае на наступны год тыя калёры, што будуць папулярныя.

Тады кожная кампанія, улічыўшы гэта, выпускае матэрыялы, тканіну. У нас так: калі папулярныя ружы на 1992 год, то мастакі будуць больш маляваць узоры з ружамі. Такія законы камерцыі. І яшчэ важная заўвага: у Амерыцы існуюць стандарты на памеры падушак, абрусы, коўдры, лыжкі, відэльцы — на ўсе абсалютна рэчы. Ці так у Беларусі? Таму, хто хоча мець з амерыканскімі фірмамі справу, трэба заўсёды гэта браць пад увагу. Бо еўрапейскія размеры зусім іншыя. А што датычыцца вырабаў са шкла, якія бачыла ў альбоме, то некаторыя сервізы на віно, шклянкі і флаконы, дзе спалучаны сіні з белым колеры, на мой погляд, упадабае амерыканец. Як і тое, дзе колер, дзе пачалося яе жыццё, не губляюць сваёй прывабнасці, чароўнасці, паэтычнасці, натхняюць, трывожаць, можна сказаць, прымушаюць брацца за пэндзаль. Доўгія гады жыцця ў Амерыцы так і не вынішчылі з яе беларускі дух. У гэтай сваёй трываласці, вернасці бацькоўскай зямлі яна, мусіць, шмат у чым падобная на свайго бацьку, лес якога, дарэчы, склаўся трагічна. Працуючы святаром на Гродзеншчыне, ён, нягледзячы на строгія забароны савецкіх ці польскіх уладаў, упарта чытаў свае пропаведзі па-беларуску. Яго забілі ў 42 гады. Толькі ў 1975-м Людміла Махнюк рызыкнула паехаць на Беларусь. Была ў Мінску,

але наведаць зусім старых бацькоў мужа нашы ўлады не дазволілі.

— Карціну «Свіцязянкі» я пісала па ўспамінах, асацыяцыях, пад уплывам легенд і паданняў пра Купальскую ноч,— гаворыць Л. Махнюк.— Як я была малая, аднойчы паехалі на Свіцязь. Нешта з той паездкі засталося ў памяці. Дарэчы, свой дом у Амерыцы мы пабудавалі на беразе возера. Іншым разам, як выйдзеш увечары на балкон і глядзіш на асветленую месяцам ваду, на дальнія абрысы лесу, то здаецца, што гэта Свіцязь перад табой і вось-вось з'явяцца на беразе дзяўчаты ў беларускіх строях, якія заспяваюць песню...

На жаль, мне не давялося паглядзець усе работы Л. Махнюк, але, мяркуючы па ўбачанаму на выстаўцы, яна далёка не ў поўнай меры зрэалізавала свае творчыя магчымасці. Зусім відавочна, што па сваім патэнцыяле яна не кулуарны мастак, чые творы больш прыдатныя для хатняга ўжытку. Апыніся яна зараз на Беларусі, у кругаверці нашага жыцця, сацыяльных страсцей і палітычных катаклізмаў, хто ведае, ці не ўспыхнуў бы яе талент яркім, гарачым полымем?! Аднак тое, што доўгія гады гэта мастачка вымушана была «варыцца ў сваім саку», была пазбаўлена магчымасці ўсялякіх сувязей з Бацькаўшчынай, кантактаў з творчым асяроддзем у Беларусі, несумненна, аб пераходзіць з жоўтага на чырвоны. Менавіта ў такім каларыце выраблялася ранняе амерыканскае каланійнае шкло. Таму я б раіла тым, хто хоча сур'ёзна заняцца гандлем з Амерыкай, пачытаць кнігі пра амерыканскае мастацтва, пра сучасную вытворчаець прадметаў побыту. Ну і, канешне, якасць. Гэта ёсць найпершы паказчык канкурэнтаздольнасці тавараў у Амерыцы.

На мой погляд, Тамара Стагановіч мае рацыю, калі дае такія сяброўскія парады. Бо ў яе вялікі вопыт у гэтай сферы. З 1955 года яна пачала ўдзельнічаць у персанальных і групавых выставах. На яе рахунку ўдзел; больш чым у 100 выставах. З'яўляецца аўтарам і афарміцелем кніжак, піша маслам, вядомая як выдатны графік, працуе ў розных тэхніках, імя яе значыцца ў даведніках па амерыканскаму мастацтву. І ў тых даведніках пасля яе прозвішча паўсюль указана: беларуска, нарадзілася ў Навагрудку.

Як жа наша зямлячка стала вядомым у Амерыцы мастаком? Як здолела заваяваць сабе

месца пад сонцам у жорсткай канкурэнцыі, з'яўляючыся яшчэ і эмігранткай у гэтай краіне? Ці, можа, ёй проста пашчасціла?

Па словах Тамары Стагановіч, калі яна з бацькам: з Нямеччыны прыехала ў Амерыку, то мусіла «дастаці сабе стыпендыю», бо тут за навуку трэба самому плаціць. А новым эмігрантам было надзвычай цяжка гэта зрабіць. (Дарэчы, бацька не хацеў ехаць у Амерыку з Еўропы, казаў, што адсюль ён пешкі зможа дайсці да Беларусі).

— Я добра вучылася, скончыла бакалаўра за тры гады,— кажа спадарыня Тамара,— але мне здалося што я мала спазнала мастацтва. І пайшла яшчэ ў Калюмбійскі універсітэт на магістра.

Тамара лічыць, што цягу да мастацтва яна мае а, маці, якая заўсёды добра малявала, вышывала торбы з якімі дзеці хадзілі ў школу, дапамагала малым рабіць лялькі. (І ў свае 92 гады маці яшчэ вышывае). А ад бацькі, які быў палітыкам, у яе — зацятасць, строгасць, лагічнасць мыслення.

Нечаканымі для мяне былі словы мастачкі аб тым, што яна доўгі час не магла і не хацела маляваць людзей. Такое, як яна тлумачыць, адбылося з яе псіхікай у ваенныя гады, калі давялося пабачыць усякіх зверстваў і здзекаў, людскіх пакут. Дзяўчына з траўміраванай псіхікай згубіла веру ў людзей.

Пералом адбыўся праз многа гадоў, у час правядзення аднаго з фальклорных фестываляў. Тамара, як заўсёды, рыхтавала для нашых удзельнікаў беларускія касцюмы. Жанчыны апранулі іх і хадзілі паважна ў строях. Відовішча было надзвычай прыгожае, яно моцна ўразіла мастачку. Пасля гэтага яна ўпершыню намалявала тры жаночыя фігуркі. Тая работа вельмі дарагая для Тамары Стагановіч, дэманструецца на выставе ў Рэтгерс-універсітэце. Акрамя яе мастачка прадставіла тут сваю вядомую карціну «Індзейская рэзервацыя» і трыпціх «Вера, Любоў і Надзея». Апошняя работа спалучае ў сабе вобразы беларускіх жанчын, ікону Божай маці і выяву скульптуры Свабоды. Вось як трактуе гэты твор сама мастачка:

— Карціну я пісала для выставы ў Нью-Йорку. Тэма выставы была такая: што азначае свабода для нас, жыхароў Амерыкі, эмігрантаў з іншай краіны. У Амерыцы ёсць магчымасць захоўваць свае традыцыі і разьвіваць іх. Такім

чынам, свабода — гэта магчымасць. Таму на трыпціху вы бачыце жанчын у намітках як і сімвал захавання беларусамі свайго нацыянальнага аблічча» Тут нездарма кажуць: «Трымайся свайго». Бо )інакш згубішся ў гэтым катле інтэрнацыянальным. І мы трымаемся. Але ўсё ж цяжка быць мастаку на , чужыне...

Не ўсім так пашанцавала на чужыне, як, скажам, Тамары Стагановіч ці Галіне Русак. (Хаця кожнай з іх асабіста давялося прыкласці нямала намаганняў, каб выбіцца ў людзі і здзейсніць сваю мару).

Спадарыня Надзея Кудасава апынулася ў Нямеччыне без бацькоў, з сям'ёй старэйшага брата Міхася, які меў на той час шасцёра дзяцей. Страшна бедавалі.

— Немцы кепска ставіліся да беларусаў. Жылі мы ў халодным брудным пакоі 30 чалавек,— з болем прыгадвае яна далёкае юнацтва,— братавыя ж усе малыя, ані галля ніякага нават не набярэш, каб распаліць печ. Сядзелі, ляскалі зубамі. Галінка, малодшанькая братава, што нарадзілася ў 1944 годзе, захварэла: жывот распух, уся пакрылася коркай. Ужо і кашульку ёй падрыхтавалі, бо не маглі даць рады. А тут амерыканцы прыйшлі. Чырвоны Крыж выдаў і ежу, і адзенне...

Пасля вайны Надзю, як сірату, хацела забраць каталіцкая арганізацыя. Але брат не аддаў дзяўчынку, падпісаў дакументы, што будзе апекавацца ёю, клапаціцца, як пра сваё дзіця.

Вядома ж, без бацькоў было нясоладка і ў багатай Амерыцы. Нават і думаць пра вучобу Надзя не магла, бо мусіла зарабляць на жыццё, хацела быць самастойнай, не залежаць ні ад кога. «Я лепш дзесяць разоў дам, чым буду прасіць» — гэта, бадай што, асноўны жыццёвы прынцып Кудасавай.

Пра душэўную шчодрасць, дабрыню, спагадліваець, самаахвярнасць гэтай жанчыны мне даводзілася неаднойчы чуць ад землякоў. «Тумаш, Кіпелі, Запруднік ёсць мозг беларускай эміграцыі ў Амерыцы,— казалі нават так,— а Кудасава, Шукелойць — яе душа». Дакладней, мабыць, не скажаш. Хаця прафесія ў Надзеі Кудасавай даволі празаічная, яна працуе лабаранткай у Rutgers medical school, але душу мае чуллівую, узвышаную, паэтычную. Спявае, малюе, майструе, вышывае. (Талентам, як кажуць, Бог не абдзяліў). Беларускасць жа для

яе — адзіны спосаб існавання. Работа лабаранткі, мусіць, з-за неабходнасці, а вось творчасць, якая, між іншым, не прыносіць ніякіх даходаў, а толькі патрабуе выдаткаў, займае цэнтральнае месца ў жыцці, дае магчымасць існаваць духоўна.

На выставе ў Ратгерс-універсітэце Надзея Кудасава даказала толькі адну сваю карціну «Лянок». Бясконцае доле блакітнага лёну як вобраз далёкага дзяцінства і Радзімы. Немудрагелістая гэта, на першы погляд, работа, тым не менш мае таямнічую прыцягальнасць, струменіць святло і цеплыню. Пранізлівае пачуццё любові, з якім аўтар пісала свой «Лянок» і якім напоена палатно, перадаецца і гледачу.

Такая самая экспрэсіўнасць, пачуццёвасць характэрная і для жывапісу Ірэны Рагалевіч-Дутко.

У якасці інфармацыі: дзявочае прозвішча Надзеі Кудасавай таксама Рагалевіч, а Ірэна — дачка таго самага Міхася Рагалевіча, з сям'ёй якога Надзея трапіла ў эміграцыю. Нарадзіліся абедзве жанчыны на Палессі ў вёсачцы Лутоўе, што на Князь-возеры.

Ірэна скончыла мастацкую школу у Пенсільваніі і з'яўляецца прафесійным дызайнерам. «Я люблю моцны дызайн, фарбы, лініі»,— кажа яна. Доўгі час Ірэна працавала па спецыяльнасці, цяпер — «фры лэнд», гэта значыць, па дагавору бярэ работу дамоў.

Я бачыла зробленыя ёю праспекты, брашуры, каталогі, календары, розную рэкламную прадукцыю і магу адзначыць высокі прафесіяналізм аўтара, густ, арыгінальнасць.

Акрамя свайго непасрэднага ўдзелу ў арганізацыі выстаў беларускіх мастачак, этнаграфічных фестываляў, Ірэна ўвогуле вельмі і вельмі актыўная ў жыцці эміграцыі. У свой час напісала абразы для царквы ў Саўт-Рыверы, робіць вокладкі для выданняў БІНІМа; працуе алеем, акварэльнымі фарбамі, алоўкам — словам, універсал. Дыяпазон яе магчымасцей у мастацтве даволі шырокі, у чым я магла пераканацца і на выставе. Побач з жывапісным палатном «Макі» і настраёвай кампазіцыяй з вясковай хатай — малюнкі, выкананыя ў строгай рэалістычнай манеры, дзе, зноў жа, так альбо інакш прысутнічае Беларусь. Як? Дзякуючы чаму так глыбока можа адчуваць сваю радзіму чалавек» які, па сутнасці, толькі нарадзіўся ў гэтым краі і быў вывезены адтуль зусім малым дзіцем? Што сілкуе беларускасць

мастачкі, якая не мае нават тых успамінаў і той памяці, што ў яе цёткі Надзеі або ў Галіны Русак?! Загадка Ірэны не давала мне спакою.

— Я хачу сказаць, каб вы ведалі, што мне палітыка зусім не ідзе. Я гэтым не займаюся,— адмоўна пакруціла галавой мастачка.— Бацька, калі я яшчэ зусім малая была, дык на выпадак, як нешта такое здарыцца і мы раптоўна будзем разлучаны, наказваў: «Адно-памятай, дачушка, што ты беларуска. І ўсім гэта кажы, як будуць пытацца». Прыехалі мы ў другое месца, дом купілі, я стала хадзіць у школу. Усім кажу», што я беларуска. Неяк выставу рабіла, напісала пра свае паходжанне, усе сталі пытацца, а што гэта за нацыя такая — беларусы. Не ведаюць. Толькі рускія ім вядомыя. А ўжо пасля коледжу прыехала ў Нью-Джэрсі да Надзі і чую: то палешукі, то крывічы. Хто такія, думаю. Ніколі не чула, я ж — беларуска. А яны мне: «Адкуля сама?» Адказваю, што з Палесся. Смяюцца: «Ты і ёсць паляшучка». А што гэта выдае? Хіба яны не беларусы?

А яшчэ, як першы фестываль мы наладзілі, то прыйшло мноства людзей. Убачылі ручнікі, касцюмы, посцілкі беларускія — такое багацце! — адразу па-іншаму загаварылі. То казалі, што яны рускія, або ўкраінцы, ці палякі, а то сталі прыгадваць, што і ў іх бабуля такія рэчы рабіла.

Мы тут маем праблемы з эмігрантамі іншых нацыянальнасцей, якія прысвойваюць сабе нашае мастацтва і нашу гісторыю. Ледзь не ў бойку кідаюцца. Таму гэта важна — удзельнічаць нам у этнаграфічных фестывалях, ладзіць свае выставы, каб беларусы не адракаліся ад свайго, шанавалі яго і ведалі.

Жыву я тут, а сэрца мае ўсё ж там, на Беларусі. Адчуваю: усё тут не мае. Нават душа ные, так хочацца паехаць дамоў, туды, дзе жыта калышацца і зязюлі ў бярозавых гаях...

Беларускія мастачкі ў Амерыцы... Захавальніцы, можна смела сказаць, духоўных скарбаў свайго народа на чужыне. Ахвярныя жанчыны, якія, нягледзячы ні на што, захоўваюць і зберагаюць бясцэнныя прадметы матэрыяльнай культуры беларусаў.

Аднойчы Надзея Кудасава адчыніла вялікі куфар і наказала, што ёй удалося сабраць за доўгія гады жыцця на эміграцыі. Чаго там толькі не было! За вечар не нераглядзіш. Можна было толькі пашкадаваць, што такія унікальныя рэчы не ў музеі, а ў прыватнай калекцыі.

Прынамсі, пытанне аб стварэнні многанацыянальнага этнаграфічнага музея ў Нью-Джэрсі ўжо ставілася і нават было падтрымана губернатарам. Справа дайшла ўжо да архітэктара. Але чамусьці заглухла. Пакуль жа выставы беларускага мастацтва ладзяцца ў іншых музеях. І штат дае на гэта грошы.

Існуе, праўда, іншая думка наконт лесу ўсіх гэтых рэчаў. Напрыклад, Галіна Русак лічыць, што найбольш адпаведнае месца для іх знаходжання — на Беларусі. Таму не выключана, што праз некаторы час у нас з'явіцца такі музей, дзе будуць сабраны ўсе рэчы, якія тым ці іншым шляхам трапілі за мяжу і былі захаваны высілкамі эміграцыі.

На шчасце, жалезная заслона паміж намі знікае. І цяпер ужо ёсць магчымасць мець нармальныя, цывілізаваныя адносіны са сваёй эміграцыяй. Але і дасюль мастачкі, пра якіх я збольшага вам расказала, знаходзяцца ў ізаляцыі, адарванасці ад мастацкага жыцця Беларусі. Запаветная іх мара — прыехаць на радзіму са сваёй выставай.

## УСЁ СКАЧА ТОЙ РЫЦА НА БЕЛЫМ КАНІ...

— Паважаны спадар Міхась, дазвольце павіншаваць вас з нядаўнім выхадам у БІНІМе зборніка выбраных твораў «Міжагнёўе». Я думаю, што гэты том, складзены ў асноўным з паэтычных твораў, па праву зойме свае месца ў беларускай літаратуры. Калі чытала вершы зборніка, напісаныя «гарачай крывёю сэрца», адчувала і вашу жывую душу, што пакутуе без васільковых прастораў, і атмасферу тых жахліва-загадкавых 30-х і 40-х гадоў.

Баліць душа. Пажаліцца
каму?
Каму сказаць, што ты
не вінаваты?
Адзін, адзін.
Наўкол халодны мур.
Ды чорныя тырчаць у вокнах
рэбры кратаў...

— Памятаеце?

Гэта напісана ў 1933 годзе ў Мінску. Прыгадайце, калі ласка, як вы апынуліся за кратамі па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці.

— У 1930 годзе я паступіў вучыцца ў Белпедтэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага на пазашкольнае аддзяленне. Студэнты тут чуліся вольнымі людзьмі. У літаратурным гуртку вялі спрэчкі аб значэнні і прызначэнні літаратуры, аб беларусізацыі ды іншых праблямах. Я быў сябрам «Маладняка», друкаваўся ў «Піянеры Беларусі», у літаратурным дадатку да бабруйскай абласной газеты. Увесь быў такі савецкі хлопец: пісаў вершы, у якіх услаўляў сацыялістычную яву, падпісваўся — Язэп Маёвы. Я ды і мае сябры — Астрэйка, Сядура, Гуцька, Русаковіч, Гайка, Гінтаўт — былі, так бы мовіць, мройнікі, няспрактыкаваныя ў палітыцы, прымалі за чыстую манету ленінскую «свабоду слова», былі часам нястрыманыя ды неаглядныя ў сваіх учынках. Не думалі, што «нядрэмлючае вока» пільна сочыць за кожным. Не маглі і ўявіць, што нават бязвінная гульня будзе мець катастрафічныя вынікі. Гэта я ў адносінах да значкоў Саюза ваяўнічых бязбожнікаў — скарочана СВБ. Тры гэтыя літары мы паміж сабою ў жарт сталі трактаваць як Саюз вызвалення Беларусь Са звычайнай хлапечай дурніны вырасла пазней справа...

А то напісаў я неяк верш пра беспрытульнага, у якім аплакваў цяжкую долю сына забітага ў часе рэвалюцыі героя-камендзера.

Панёс верш да Крапівы, дык ён прачытаў і кажа: «Такіх вершаў мне болей не насі». Крапіва то, мусіць, па-сяброўску, па-свойму хацеў мяне папярэдзіць...

Як я цяпер разумею, грахамі на мне павіслі і адмова ад вучобы ў вайсковай школе, уцёкі з уборкі бульбы ў саўгасе «Сляпянка», дзе мы мусілі выбіраць клубні з мёрзлай зямлі. Тады ж здавалася, што ўсё ідзе як найлепш. Пакуль аднойчы за мной не прыйшла жанчына ў чорнай скуранцы — следчая Навіцкая — і не завяла ЎДПУ.

— Выбачайце, прашу вас ва ўсіх дэталях апісаць гэты выпадак.

— Чорная дама здала мяне нейкаму службоўцу. (Яго прозвішча было Браткоўскі). Той у мяне пра ўсё распытваў: і хто бацькі, і як выконваю грамадскую нагрузку, і як вучуся. Пачаў размову пра «варожыя вылазкі», я не стаў утойваць, расказаў пра строгую вымову з папярэджаннем, якую атрымаў за ўцёкі з бульбы. Браткоўскі палістаў нейкія паперы, па

аднэй прабег вачыма і сказаў: «Гэта было год таму. Ад гэтага часу да сёння з цябе строгую вымову не знялі, бо не заслужыў. Напісаў ты, як нам ведама, пару добрых вершаў. Гэтага мала. Мусіні зрабіць больш. Нас цікавяць твае былыя сябры: Сядура, Астрэйка, Калюга, Русаковіч, Гінтаўт, Гайка. Па-першае, дзе яны цяпер знаходзяцца, а, па-другое, і гэта галоўнае, што яны думаюць?» Тут мяне нешта штурханула ў сэрца: «Не кажы!» І я зманіў: «З усіх вамі пералічаных студэнтаў сябрам сваім я магу назваць, дый то з натугай, толькі Сяргея Русаковіча, а гэта — знаёмыя. Дзе яны цяпер, я не ведаю». Браткоўскі рэзка падняўся і са словамі, «калі не ведаеш, дык даведайся», паклаў перада мной лісток паперы і сказаў распісацца аб неразгалошванні.

— Хлопцу ў 18 гадоў загадваюць даносіць на сваіх сяброў... Ці разумелі вы, што ад таго вашага выбару — даносіць альбо не даносіць — залежыць іх лес?

— Было вельмі цяжка. Ад мяне вымагалі прадаваць сяброў. Ад аднаго гэтага слова кідала ў дрыжыкі. Ніякай надзеі на тое, што ўдасца схітрыць і абмануць Браткоўскага, не заставалася, бо людзі казалі, што ДПУ і рэкі бачыць пад зямлёю. Я адчуваў, што мяне чакае ў выніку адмовы. Тым не менш я прыняў рашэнне папярэдзіць сяброў. Што неўзабаве і зрабіў. Браткоўскі мяне болей не турбаваў. Без усялякіх тлумачэнняў мяне забралі з вечара, які праходзіў у тэхнікуме з нагоды Дня Чырвонай Арміі — 23 лютага 1933 года, пасадзілі ў «чорны воран» і адвезлі ў турму.

Варфаламееўская ноч для Міхася Лешчанкі (Кавылём ён стаў пазней) цягнулася шэсць месяцаў. Ён і цяпер не можа спакойна расказваць пра тыя здзекі, якія прыйшлося перажыць. Амаль кожную ноч — допыты. «Хто цябе завербаваў?», «Каго ты завербаваў?» — ад гэтага пытання можна было звар'яцець. Даведзены да адчаю, Міхась парэзаў сабе вену. Няўдалая спроба самагубства абярнулася для юнака карцарам. Аднойчы на допыце следчая Навіцкая паказала Міхасю паштовую картку з выявай герба Вялікага княства Літоўскага і з іроніяй сказала: «Вось за што ты змагаўся», маючы, відаць, на ўвазе міфічны «Саюз вызвалення Беларусі».

— Я прыгледзеўся да малюнка. У вочы кінуўся белы конь, а на ім рыцар з мячом у руцэ. У жоўтым вянку, што абрамляў рыцара на

белым кані,— гербы беларускіх ваяводстваў, а ўнізе словы: «Няхай жыве Беларуская народная рэспубліка!» Гэты герб і словы мяне так уразілі, што я, не думаючы пра вынік, сказаў: «Так, я змагаўся й буду змагацца за гэта».

Лес чарговага «ворага народа» быў вырашаны. «На перавыхаванне» на тры гады яго разам з іншымі непакорлівымі выслалі ў канцэнтрацыйны лагер на Далёкі Усход. За ударную работу скінулі чатыры месяцы. Калі ўзімку 1936 года прыехаў дамоў, на Случчыну, жыць яму там не дазволілі, бо вёска знаходзілася ў прыгранічнай паласе.

Мусіў ехаць у Варонеж, да знаёмых. Праўдамі і няпраўдамі ўладкаваўся на працу і на вячэрнія заняткі ва універсітэт. Стаў пісаць вершы, якія з'явіліся ў 1938 годзе ў альманаху «Непераможная». Але ў тым жа годзе адбылася «чыстка горада ад ненадзейных элементаў», пад мятлу якой трапляе і Міхась Лешчанка. Як загнаная птушка, ён спрабуе прыткнуцца то ў Арле, то каля сваіх у Беларусі, то зноў у Варонежы. Ад яго, як ад пракажонага, адварочваюцца былыя знаёмыя і сябры. Рэпутацыя «ворага народа» зачыняе, па сутнасці, для здольнага хлопца дарогу, магчымасць займацца педагагічнай або якой іншай інтэлектуальнай працай. Але ён нечакана спатрэбіўся радзіме. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны яго мабілізавалі ў армію і пасля вайсковых курсаў адправілі на перадавую. Танкавая часць, у якой служыў М. Лешчанка ў разведцы, апынулася ў акружэнні. Пасля няўдалага прарыву разам з тысячамі салдат трапіў у палон.

— У лагеры ваеннапалонныя ад голаду мелі псіхоз. Былі выпадкі, што елі жывых людзей... Многія не вытрымлівалі. Мы дамовіліся з адным хлопцам пільнаваць адзін аднаго па чарзе, каб нехта не загрыз уначы. Пра ўцёкі і гаворкі не было. Зусім аслабелі, чакалі галоднай смерці. Аднак раптам прыехалі прадстаўнікі нейкіх арганізацыяў выручаць з бяды братоў-беларусаў. Аб'явілі: «Хто хоча змагацца са Сталіным — тры крокі наперад».

— Ці былі ў вас у той момант нейкія ваганні?

— Выйсця не было. Бачыце, каб я не ведаў, што Сталін палонных не прызнае, нават ад свайго сына адмовіўся... Я ж быў разведчыкам, нам загад пра тое зачытвалі. Так што я быў прымушаны зрабіць гэтыя крокі.

— Вы кажаце, што ў вашым вызваленні з палону ўдзельнічалі прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў. Мусіць, гэта таксама адыграла сваю ролю ў вашым выбары?

— Я быў самы звычайны савецкі чалавек. Нацыянальна маласвядомы. Даволі цьмянае ўяўленне меў нават і пра гісторыю Беларусі. Шмат ведаў атрымаў на курсах у Кельцах у Польшчы, куды былі накіраваны былыя савецкія ваеннапалонныя. На многае стаў глядзець іншымі вачыма.

— А ці былі ў часе нямецкай акупацыі ў Беларусі?

— Так. Пасля тых курсаў я апынуўся ў Менску. Мяне прызначылі на працу ў генеральны камісарыят у прапагандовы аддзел. Ён не належаў да БЦР. Трэба сказаць, што мы там увогуле мала што рабілі. Шыльда толькі адна. Прыйдзем, бывала,— Валянцін Казлоў, мастак Селюкоў, Гараковіч, Аня Катковіч — наша сакратарка, абмяркуем навіны і разыходзімся. Далі неяк мне такую крытую брызентам машыну, што прайгравала пласцінкі. Я еду на ёй па менскіх маркетах (магазінах.— Т. А.) і чытаю зводкі з фронта. Гэта працягвалася якіх два тыдні. Затым партызаны падклалі міну — узарвалі той агрэгат. Наступнае задание было хадзіць па маркетах і слухаць, што людзі гавораць. Немцы хацелі ведаць, якія настроі ў народзе. А хіба ж людзі дурныя ўслых казаць пра тое, што яны думаюць пра немцаў? Я ж тады ў сваім данясенні спецыяльна напісаў, як быццам чуў на рынку: «Людзі кажуць, што немцы вайну прайграюць». Начальнік усёй прапаганды — Шрэтар запатрабаваў тады, каб я абгрунтаваў, даказаў фактамі гэтае меркаванне. Але ж чым тут абгрунтуеш?

А увогуле свае адносіны да фашыстаў я выказаў пазней у вершах:

Не!
У вайне
двух Калосаў
Галасіць галосна
Няма чаго
рабом белым.
Ілбом сьмела
біць у дзьверы
«правадыроў».
Ня «Ура».
Ня «Гайль».
Няхай жыве
Незалежная!

Кожны,
дзе можа,
Загады
пры нагодзе
абыходзіць.
Перад гадам
на калені
ня падаць.

— У 1943 годзе вы былі ў Мінску. Якраз тады партызаны ажыццявілі ў горадзе вялікія акцыі: быў падарваны тэатр, казіно нямецкае, забіты тыя беларусы, якія супрацоўнічалі з нямецкай адміністрацыяй, пазней — Кубэ... Якое адчуванне было асабіста ў вас, у іншых мірных жыхароў горада пасля тых актаў помсты?

— Што датычыцца мяне, то я апынуўся, так бы мовіць, між двух агнёў. Нездарма ж тая кніжка, што выйшла ў БІНіМе, мае назву «Міжагнёўе». Яна адлюстроўвае сутнасць майго становішча. З немцамі братэрства не было, я ўвесь час быў з імі насцярожаны. Хаця я быў і рэпрэсіраваны савецкай уладай, але ўсё роўна ўва мне быў дух савецкі. Я быў не вораг сваім. І таму не мог не радавацца ў душы, калі фашысты атрымлівалі па заслугах. Але кожная акцыя партызан выклікала адпаведную рэакцыю акупантаў, і за гэта якраз расплачваліся мірныя жыхары. Колькі беларусаў перабілі немцы за гэтых афіцэраў у казіно! Рабілі проста: акружалі Чэрвеньскі рынак, хапалі ўсіх мужчын, якія там апынуліся. А пасля расстрэльвалі або вешалі. Так было і за ўзарваны тэатр. Чаго партызаны хацелі дасягнуць гэтым? Загубленыя жыцці нявінных людзей на іх сумленні.

У сваёй аўтабіяграфіі Міхась Лешчанка піша: «У Менску жыцьцё было неспакойнае. Хутка ізноў давялося ўцякаць. Затрымаўся ў Баварыі. Пасьля працаваў на авіязаводзе ў месьце Цыбаў кіраўніком беларускае моладзі. Галоўным маім заданьнем было не даваць

у крыўду дзяцей, якіх вывезьлі зь Беларусі й ня вельмі зьвярталі ўвагу на іхнюю юнацкую уніформу. Я стараўся бараніць хлопцаў, колькі мог. Дастараўся да таго, што мне ўшпілілі шэсць месяцаў канцлягеру».

Ад канцлагера ўратавалі дырэктар авіязавода Бах і неўзабаве прыйшоўшыя амерыканскія танкі... Для Міхася пачалося жыццё ў лагерах ДП (перамешчаных асобаў). «У гэтым няпэўным і нявыразным часе апанавала мяне

туга й роспач,— прыгадвае М. Лешчанка.— Сябра мой Іван Кір'янаў, якому я прысьвяціў першы свой зборнічак вершаў «Ростань», пакончыў самагубствам у Рэгенсбургу. Я пастанавіў шукаць ратунку ў працы».

Многія лічаць, што эмігранты — гэта людзі, якія шукаюць больш лёгкага хлеба, маюць малую прывязанасць да свайго кута, ну нешта накшталт перакаці-поле. Па формуле: «Радзіма там, дзе мне добра». Напэўна, ёсць і гэткія. Для такіх жа, як Міхась Лешчанка, эміграцыя — вымушаная эміграцыя, я б яшчэ дадала,— вечная пакута.

Прыпаду да граніту ніцам —
Стогне камень, енчыць
камень:
— Хто ты духам, жабрак
або рыцар? —

задае сабе няпростае пытанне паэт у вершы, напісаным у пачатку 50-х гадоў, калі толькі прыехаў у Амерыку. А да той жа Амерыкі колькі ўсяго пераважыў! Капаў вугаль у шахтах Бельгіі, быў у перасыльных лагерах у Натэрнбергу і Бакнангу.

У беларускім лагеры ў Натэрнбергу М. Лешчанка стаў рэдагаваць газету «Беларускае слова», а пасля «Беларускую трыбуну». Выпакутаваныя ўласным лесам, адзін за адным нараджаюцца ў паэта вершы.

Шмат мы зьмералі крокамі
даляў,
Не адзін мілы вобраз пагас;
І жывых, няжывых
пакідалі,
Але край родны з намі,
у нас.
Ён гамоніць, галосіць,
трызвоніць
Цяжкім стогнам разьбітых
званоў,
Гострым мечам
нястрымнай Пагоні,
Гучнай славай палеглых
сыноў...

Пазбаўлены радзімы, на чужыне М. Лешчанка надзвычай абвострана пачынае разумець сваю духоўную знітаванасць з Беларуссю, з яе народам. Ён чытае шмат гістарычнай літаратуры, каб зразумець, што ж такое адбываецца з яго родным краем і чаму верныя сыны Бацькаўшчыны пазначаны кляймом ворагаў народа, здраднікаў.

Пакараў нас Бог,
зямліца,
На тваіх пляцох,
сталіца,
Апрычнікаў Берыя
зьмяніла
«фельджандармэрыя».
Якая розніца?
Рабуюць агулам і
ў розьніцу,
Як і першыя, другія,—
Абразы Рембрандта,
Растрэлі...
Расстрэльваюць
Гэтак-жа сама,
Нават
у тыя самыя
ямы.

Ідэя незалежнасці Беларусі, магчымасці быць гаспадарамі ў сваёй хаце, тэма волі і змагання становяцца цэнтральнымі ў творчасці паэта.

Міхась Лешчанка цяпер падпісваецца псеўданімам Кавыль. Кавыль — травяністая стэпавая расліна, надзвычай жыццяздольная, нягледзячы на самыя неспрыяльныя ўмовы, корань пускае глыбока-глыбока ў зямлю, адкуль бярэ пажыўныя рэчывы і вільгаць. Так і Міхась Кавыль. У самыя неспрыяльныя крызісныя перыяды жыцця яго ратавала Муза. Ратавала І натхняла на жыццё, на дзейнасць.

— У Амерыцы давялося мне працаваць фізічна. Фізічная праца пайшла мне на карысць. Працаваў спачатку прыбіральнікам у фірме «Сквіб», а пасля ткачом у месце Бандбрук. Працаваў таксама ў Форда... Мы мелі дастатак. Але ж гэта не самае галоўнае для чалавека, хаця і патрэбнае. У эміграцыі я адчуў сябе стопрацэнтовым беларусам.

— Ці маглі вы, спадар Міхась, знаёміцца з беларускай савецкай літаратурай, ці атрымлівалі якую прэсу?

— Вельмі слаба. З газет раней атрымліваў «Голае Радзімы», але там такую прапаганду пісалі, што я яму не верыў ні слова. Ды і «Шва» з Беласточчыны не надта адкрыта пісала. Гэта цяпер ужо ўсе сталі больш: вольныя...

— Раскажыце трохі пра сваю сям'ю.

— Жонка мая завецца Соня. Яна беларуска, з Чэрвеньскага павета. (А я — слуцак). Мы з Соняй хутка злюбіліся, за якія два тыдні. Маем дваіх сыноў. Стрэйшы скончыў

універсітэт, працуе ў страхавой кампаніі, а малодшы курсы браў, камп'ютэры вывучаў, таксама добрую работу мае. Сыны купілі сабе дамы, жывуць добра. Але, на жаль, і яны, і ўнукі пачуваюцца больш амерыканцамі, чым беларусамі. Хаця раз-маўляюць па-беларуску.

— А ці ведаеце вы, што ў Беларусі вялікія перамены?

— Якія гэта перамены, калі толькі дазволілі гаварыць што хочаш?

— Маеце вы нейкую мару?

— Я хацеў бы паехаць на магілу маткі, пабачыць тыя мясціны, дзе я нарадзіўся. Але я баюся, бо не веру савецкай уладзе. Зняверыўся. Хто туды едзе, за ўсімі «хвосцік» ходзіць, пільнуе, а тады — у каталажку. Я ж па вашых законах — здраднік.

— Які накірунак мае часопіс «Беларуская думка», дзе вы галоўным рэдактарам?

— Так, я галоўным там з 1963 года. А раней быў Янка Даніловіч. Выданне гэта існуе выключна на ахвяраванні эмігрантаў. З-за абмежаванасці сродкаў ён выходзіць толькі раз на год. Накірунак яго я б вызначыў як антыкамуністычны. «Рысакоў татараў і манголаў залыгала раскосая Русь. Закруцілі ў крывавае кола Ленін — ханы маю Беларусь». Я глыбока перакананы, што камунізм і бальшавікі — гэта зло. І з ім трэба змагацца, бо інакш беларусы ніколі не будуць жыць як вольныя людзі. ^

## «МЫ НЕ МОЖАМ, ЯК І ІНШЫЯ НАРОДЫ, КАРЫСТАЦЦА НАЦЫЯНАЛІЗМАМ»

Пра спадара Антона Шукелойця нездарма кажуць, што ён душа нью-йоркскіх беларусаў. І ў гэтым, напэўна, ёсць вялікі сэнс. Старшыня Беларуска-амерыканскага Задзіночання ў Амерыцы зусім не казённы чалавек. А па характару ён проста ідэальны ўзор беларуса. Яго глыбокая ўнутраная культура і інтэлігентнасць, талерантнасць, даверлівасць і добразычлівасць даюць магчымасць спадару Шукелойцю знаходзіць агульную мову з людзьмі самых розных поглядаў і перакананняў. Напэўна, ён мог бы быць выдатным дыпламатам або неардынарным вучоным-гуманітарыем, які шмат чаго зрабіў бы да гонару сваёй Бацькаўшчыны. Але лес распарадзіўся інакш. Адарваны ад Радзімы, ён усе сілы аддаў таму, каб беларуская эміграцыя ў Амерыцы не растварылася ў многанацыянальным катле

Злучаных Штатаў, каб не згубіла сваёй мовы і сваёй нацыянальнай памяці.

Значную частку жыцця спадар Шукелойць пражыў у ЗША. Прыстасаваўся да тутэйшага клімату, звычаяў і законаў. Аднойчы ўвечары на яго напала кампанія: збілі да непрытомнасці, забралі грошы... Калі паліцэйскія арыштавалі злодзеяў і адбыўся суд, спадар Шукелойць велікадушна заявіў, што даруе гэтым мала-дым людзям. І аргументаваў так: «Каб яны мелі такіх бацькоў, як у мяне, такую ж адукацыю, то ніколі не паднялі б руку на чалавека. Я іх шкадую...»

Учынак яго быў не ўсім зразумелы. Але ж у ім— увесь Шукелойць з яго верай у людзей і з перакананнем у сілу дабра.

— Спадар Шукелойць, для самага шырокага чытача ў Беларусі наша эміграцыя — белая пляма ў свядомасці. Многія не ведаюць і не разумеюць, чаму выехалі з Радзімы іх суайчыннікі, альбо разумеюць неяк аднабока. Я спадзяюся, што наша з вамі гутарка ў нейкай ступені запоўніць гэты інфармацыйны вакуўм. Але для пачатку — пра сваю сям'ю.

— Родам я з Ашмяны, з вёскі Якелеўшчына. Назва яе паходзіць ад імя садоўніка графа Чапскага — Якеля. Граф з невядомых прычынаў перавёў садоўніка ў іншае месца. А туды пасяліў маіх дзядоў — траіх братоў-музыкантаў. Адзін з іх на скрыпцы граў, а яго браты — на цымбалах і басэтлі. Бацька ж зусім іншы быў, не любіў мастакоў, музыкантаў — яго душа хілілася да бізнесу. Пасля японскай вайны, як выйшаў з войска, асеў у Петраградзе. І там ён з суседам арганізаваў мясны бізнес. Яны мелі некалькі крамак. Бацька дабыў там да 1914 года, пакуль не змабілізавалі ў армію. А пасля рэвалюцыі вярнуліся да дзеда на Ашмяну. Бацька зрабіўся купцом. Ён купляў некалькі гектараў лесу, высякаў яго і гандляваў. Такі во быў прадпрымальны чалавек, працавіты. Дарэчы, бацька на свае сродкі пабудаваў у Ашмяне ветэрынарны шпіталь. А маці мая з роду Пецюкевічаў, што паходзяць з Браслаўскага павета.

У дзедавай хаце гаварылі мы толькі па-беларуску. Моцная была беларуская сям'я. Мае ўсе продкі пахаваны на тых самых могілках, дзе і Францішак Багушэвіч ляжыць. Бацька хацеў, каб я быў адукаваным чалавекам, аддаў мяне ў гімназію.

— У Ашмянах?

— Так. У гімназіі ўжо ў 4-й клясе вучні 14—15 гадоў былі аб'ектам зацікаўленых палітычных груповак. Сярод настаўнікаў былі сацыялісты, камуністы, лібералы, польскія нацыяналісты. Кожны з іх падсоўваў вучням адпаведную літаратуру. Польскі сацыялізм, ён быў такі, як байка... Там шмат гаварылася пра справядлівасць, пра стварэнне сацыяльных умоў для рабочых. Мне трапілася брашура анархіста Бакуніна «Что делать?», якую мы з польскай пераклалі на беларускую і сталі штудзіраваць. Ужо ў 4-й клясе я звязаўся з сацыялістамі і быў гатовы сацыялістычны дзеяч. У 1933 годзе адбываліся выбары ў Польшчы, і наша група сацыялістаў, у якую ўваходзілі мясцовыя работнікі, рамеснікі і сяляне, пастанавіла выставіць свайго кандыдата. Сабралі нават адпаведную колькасць галасоў. Але ж у старостве зацікавіліся, пайшлі глядзець. што за людзі, ці не камуністычная гэта работа. Пачалі правяраць усіх, давялі да таго, што многія паадмаўляліся ад свайго членства ў партыі. І мы вырашылі пайсці на кантакты з яўрэйскай партыяй, я нават хадзіў на перагаворы. Пазней, калі быў ужо студэнтам Віленскага універсітэта, то паступіў у Беларускі студэнцкі саюз. Там была сацыялістычная група, якая выдавала часопіс «Золак». Гэта арганізацыя па сваёй ідэёлёгіі была набліжана да эсэраўшчыны.

— У маладыя гады вы былі вельмі палітызаваным чалавекам. З якімі ідэаламі вы выйшлі з гімназіі?

— Хрыбет мне яшчэ ў гімназіі «паставіў» адвакат Аляксандр Барановіч, які кіраваў беларускім сацыялістычным гуртком. Вельмі цікавы чалавек, чырвоны шляхціц, належаў да літоўскай сацыялістычнай партыі. Для мяне аўтарытэтамі былі людзі вялікіх духовых вартасцей — Гандзі, Тагор, дэ Валера, нашыя беларусы: Каліноўскі, Луцкевіч. Так нас вучылі, так выхоўвалі. Не толькі пра родную мову гаварылі. Бо гэта сродак. Болей — аб прызначэнні чалавека на зямлі, самаадданасці народу, патрыятызме, гуманізме. І я марыў пра тое, каб прысвяціць сваё жыццё Радзіме.

— Які быў узровень адукацыі ва універсітэце?

— Віленскі універсітэт быў ведамым з XYII—XVIII стагоддзяў. Вельмі розныя ўзроўні прафесараў былі. Напрыклад, славуты вучоны Кашмідар, немец, працаваў на нашым факультэце. Таксама вучоны з сусветным імем

паляк Казімеж Мушынскі. Выкладаў этнаграфію. І былі іншыя — група прафесараў з настаўнікаў гімназіі. Тыя былі добрымі лектарамі, але не даследчыкамі. Так што розніца была адчувальная. Увогуле ж Віленскі універсітэт лічыўся адным з лепшых у Польшчы, пасля Кракаўскага і Львоўскага. Там я атрымаў грунтоўныя веды па славянскай філялёгіі і этнаграфіі, вывучаў мовы — беларускую, расейскую, польскую, украінскую. З гімназіі ведаў французскую. Мой прафесар Кашмідар сказаў, што славянскую філялёгію без нямецкай мовы вывучыць немагчыма. І я па яго парадзе дадаткова стаў браць курс нямецкай мовы. І няблага авалодаў, бо калі пачалася акупацыя Беларусі ў 1941 годзе, маё веданне мовы дужа прыдалося. Цяпер я стараюся ўтрымаць 4 славянскія мовы. Чытаю, магу размаўляць.

Там жа, ва універсітэце, я быў старшынёй таварыства прыяцеляў беларусаведы, спяваў у студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы. Разам з Генадзем Цітовічам ездзілі збіраць фальклор. А з прафесарам Мушынскім рыхтаваў працу аб беларускім ткацтве і народнай вопратцы.

— І якія ў вас былі жыццёвыя планы падчас заканчэння універсітэта?

— Я сам, гадаванец польскіх школаў, хацеў працаваць настаўнікам. Вучыць нашых дзяцей роднай мове і літаратуры. Нагадаю, гэта быў 1939 год, калі ў вышку палітычных гульняў пактам Молатава — Рыбентропа Вільня была аддадзена Летуве, калі ў Заходнюю Беларусь прыйшлі войскі Чырвонай Арміі. З турмаў папрыходзілі нашы людзі, і ўсе спадзяваліся на змены. Хаця тут, у Заходняй Беларусі, мы ведалі пра рэпрэсіі, якія ўчыняе савецкая ўлада беларускім дзеячам. Гэта ў 1939 годзе выарыштавалі ўсю інтэлігенцыю ў Вільні — Луцкевіча, сенатара Багдановіча, інжынера Бусла, Макара Краўцова, Косьцевіча, Янку Пазьняка... Грамадска актыўныя людзі ў Заходняй Беларусі, якія шмат цярпелі ад польскіх уладаў, часта сядзелі ў турмах, былі падрыхтаваны да таго, што могуць зноў прыйсці і іх арыштаваць.

— Раскажыце, калі ласка, як адбывалася беларусізацыя ў Заходяй Беларусі, на вашай радзіме?

— Усё пачыналася добра. Я арганізаваў першую вячэрнюю беларускую школу. Бо нам

трэба было мець у розных дзяржаўных установах сакратарак, якія б вялі справаводства на роднай мове.

Пачаў выкладаць беларускую літаратуру і мову ў той самай гімназіі, дзе сам вучыўся. Зарганізаваў настаўніцкія курсы месячныя, куды набраў з раёнаў настаўнікаў, якія хоць трохі ведалі мову. Пасля Калядаў у 1940-м годзе ўсе школы перайшлі на беларускую мову. Акрамя гэтага зарганізаваў шасцімесячныя курсы для тых, хто не меў сярэдняй адукацыі. Цэлае школьніцтва за адзін год пры больш-менш спрыяльных адносінах улады паўстала. Але хутка сітуацыя стала мяняцца. З'явілася тэндэнцыя да пераводу школ на расейскую мову. Я раскажу вам два выпадкі. Адзін адбыўся, калі ў нас у Ашмяне паспрабавалі перавесці на расейскую некалькі школаў. Я і мой калега-габрэй, з якім вучыліся разам у Вільні, вырашылі пайсці ў райком партыі і запытацца, у чым тут справа. Абодва мы ў марксізме адукаваныя, а калега яшчэ і камуніст, 6 гадоў сядзеў у турме за перакананні. Я ж з вучнёўскіх часоў прайшоў добрую школу сацыялістычную. А ў райкоме нам у адказ: «А вы што, супраць рускай мовы?» — «Не, мы не супраць,— гаворым,— але ж дзе гэта ў Маркса сказана, што калі ўлада пераходзіць у рукі рабочых, то ўсё павінна перайсці на расейскую мову?»

Другі выпадак прыгадваю, калі я працаваў школьным інспектарам. Прыехаў у Ашмяну партыйны дзеяч: нехта Маркаў. Ці з абкома, ці з аблвыканкома. Мы з ім накіраваліся ў адну стараверскую вёску. Гай называлася. Зрабілі там сход. Запыталі ў людзей, як яны хочуць. Стараверы пытаюцца: «А якая гэта дзяржава?» — «Савецкі Саюз»,— адказваем. «А бліжэй?» — «Бліжэй — Беларусь».— «Ну як мы ў Беларусі жывём, то не хочам мяняць мову, няхай наша застаецца». Маркаў тады моцна быў незадаволены,

І першы, і другі выпадкі, мяркую, паўплывалі на тое, што я, дэпутат гарсавета ў Ашмянах, аказаўся ў спісе палітычна «неблагонадежных» і на другі дзень вайны быў арыштаваны органамі НКУС.

— А як вам удалося вызваліцца з турмы?

— Наляцела нямецкая авіяцыя. І ўсе вязні апынуліся на волі.

— Колькі вам было тады гадоў?

— 25. Трохі ачуняўшы, я рушыў на Менск. На сценах дамоў часта стаў сустракаць розныя загады і распараджэнні, друкаваныя беларускай мовай з тарашкевічаўскім правапісам. Адразу з'явіўся стымул даведацца, хто ж гэта з беларусаў тут ёсць? Калі я прыйшоў у гарадскую ўправу, то ўбачыў сябра па універсітэту доктара Тумаша. Ён запрапанаваў мне працу ў гарадской управе ў аддзеле асветы і культуры. Там я і адпрацаваў амаль тры гады.

— Чым вам даводзілася займацца ў гэты час?

— Я ўпарадкаваў спачатку архіў ЗАГСу, потым пайшоў у музей. І там я быў да канца 1943 года. Пад канец 43-га перайшоў у таварыства беларускай культуры на кіраўніка краязнаўчага аддзела. Працуючы У музеі, быў кансультантам па этнаграфіі пры пастаноўцы п'ес у тэатрах.

— Але ж наш дзяржаўны музей, як пішацца У энцыклапедыях, быў разрабаваны фашыстамі...

— Гэта няпраўда, не адпавядае ісціне. Музей наш па сутнасці, скончыўся у 1930 ці 1931 годзе, калі арыштавалі Ластоўскага... Замест яго адкрылі Беларускі гістарычны музей як дапаможнік для савецкай гісторыі СССР з 4 аддзеламі. Усе экспанаты з Дзяржаўнага музея, якія не увайшлі у рамкі новага музея, аказаліся у дрывотніку, што стаяў між Юбілейным і Архірэйскім дамамі (музей жа знаходзіўся у Архірэйскім доме, а Юбілейны дом пазней быў перароблены у Дом афіцэраў).

Гаспадаром каштоўнейшых экспанатаў аказаўся качагар дзядзька Пісьлевіч. Гэты чалавек і яшчэ мастак Габрыель Віер, які вельмі высока цаніў старое беларускае мастацтва, беражліва захоўвалі усё гэта багацце, хаваючы яго пад мяшкамі з-пад солі. Цяжка уявіць, але менавіта так быў выратаваны абраз Менскай шопы Божай маці — гэта найбольшая каштоўнасць, таксама абраз «Нараджэнне Божай маці» Магілёўскай школы, абраз «Нараджэнне Ісуса Хрыста» Віцебскай школы, многія іншыя. Усе гэтыя абразы мастак Віер адрэстаўраваў, бо яны хутка псаваліся ад такога захоўвання. Я перанёс усе абразы у Юбілейны дом, і там яны заставаліся. Але была небяспека таго, што падчас бамбёжкі усё гэта будзе знішчана беззваротна. Парушаючы усе правілы і моцна рызыкуючы, вырашыў перахаваць самыя каштоўныя абразы, забраўшы іх з музея.

Дарэчы, я павінен вам сказаць, што калі немцы увайшлі у горад, яны наклалі пячаткі на архівы, бібліятэкі і музеі і рушылі далей. І лёс іх тады залежаў ад тых, хто застаўся там працаваць. Але ж вядома, што савецкія кіраўнікі усіх гэтых устаноў і работнікі, якія былі у асноўным камуністамі,— эвакуіраваліся. Так інто на першым часе нямецкай акупацыі нашы культурныя установы аказаліся без апекі. У гістарычным музеі нямецкую пячатку знялі, і яго рабавалі усе, хто хацеў... Дзякуючы асабістай мужнасці жанчын, якія засталіся працаваць у Ленінскай бібліятэцы і ў архіве (прозвішча адной з іх я памятаю — Дзяржынская), былі захаваны ў добрым стане архівы, збіраліся новыя экспанаты, захоўваліся ў недатыкальнасці кнігазборы. Што датычыцца карціннай галерэі, якая была адчынена ў 1939 годзе, то яе спасціг такі самы лёс, як і гістарычны музей. У першыя месяцы акупацыі адміністрацыя вермахта частку лепшых рэчаў вывезла ў Кёнігсберг. Сярод іх была калекцыя слуцкіх паясоў, абразы. Рэшту таго, што засталося, перанеслі ў будынак Генеральнага камісарыяту, што размяшчаўся на пляцы Волі. І там ўсё гэта ляжала на калідоры. Калі я ўжо быў загадчыкам музея, мне прыходзілася па справах бываць у Генеральным камісарыяце. Аднойчы, было гэта ў 1942 годзе, адзін з высокіх начальнікаў кажа мне: «Там абразы валяюцца на калідоры, трэба забраць іх у музей». Яны далі машыну, і мы перацягалі іх у вялікую залю Юбілейнага дома. Частку абразоў, аўтарамі якіх былі гёбрэі-мастакі, аддзялілі, завезлі ў Аўстрыю, а ўсё астатняе — потым у Нямеччыну.

— Спадар Шукелойць, ці можаце вы расказаць, як паўставала беларуская адміністрацыя ў часы нямецкай акупацыі?

— Вермахту, які палітыкай не займаўся, было ўсё роўна, хто ты і што, абы ціха ў горадзе, абы ежа была. У іх увазе — фронт. Дарэчы, сярод немцаў, што служылі ў вермахце, нямала было баронаў балтыцкіх, выхаваных яшчэ ў царскіх афіцэрскіх школах у Расіі. Яны то і сталі спярша на чале ваеннай адміністрацыі. У гэты час папрыходзілі з савецкіх турмаў беларускія дзеячы. Прыехаў з Варшавы доктар Антановіч, які аднавіў дзейнасць Чырвонага Крыжа. Вельмі вялікую ролю адыграў ён у першыя месяцы нямецкай акупацыі. Санітарныя ўмовы ў горадзе былі жахлівыя: на вуліцах, у будынках — трупы, распаўсюдзіўся тыфус. Антановіч, які

пасля і сам перанёс гэту хваробу, арганізаваў па дамоўленасці з ваеннай адміністрацыяй першую дапамогу па дастаўцы лекаў у шпіталі. З прыходам цывільнай нямецкай адміністрацыі з Кубэ на чале Чырвоны Крыж быў зачынены. Недзе ў жніўні Родзька, Саковіч склікалі першую нелегальную нараду, у якой удзельнічалі чалавек 20. Пастанавілі ўтварыць незалежніцкую партыю, падпольную, беларусізаваць адміністрацыю і школьніцтва, культурныя ўстановы. Тады ў выніку гэтых пастаноў пачалі рэарганізоўвацца. Кіраўніком аддзела асветы і культуры стаў Гуцька (Дудзіцкі), дырэктарам тэатра — юрыст Краўчанка, дырэктарам музея — я, ксёндз Гадлеўскі ўзначаліў школьніцтва. Рашылі зарганізаваць беларускую Самапомач. Што яна рабіла? Дастаўляла прадукты з вёсак у горад, цэлыя абозы. А назад тыя абозы везлі ў вёску яўрэйскую дзятву, якую ратавалі ад смерці. Вельмі часта розныя настаўнікі з Менску ехалі, каб не памерці ў горадзе з голаду. Яўрэйскіх дзетак забіралі да сябе нашы жанчыны, і не ўсе яны потым вярнуліся да яўрэйства, засталіся ў беларускіх сем'ях, разам з імі паехалі на эміграцыю. Пэўна, з пункту гледжання яўрэйскага нацыяналізму, мы зрабілі шкоду, асіміляваўшы тых малых, але з пункту гледжання агульначалавечага — выратавалі ім жыццё. На нас, дарэчы, часта рабілі даносы ў сувязі з дапамогай яўрэям.

— Вы сказалі, што ўжо ў першыя месяцы нямецкай акупацыі супрацоўнікі беларускай адміністрацыі ў Мінску арганізавалі незалежніцкую партыю. Трохі шырэй пра яе мэты і задачы...

— Бачыце, ужо тады многія з нас разумелі, што з немцамі беларусам не па дарозе, а трэба, выкарыстоўваючы момант, зарганізавацца, усімі магчымымі сродкамі аблягчыць становішча нашых людзей. Праца ў адміністрацыі давала такія-сякія магчымасці. Камендант паліцыі Юльян Саковіч быў арганізатарам падпольнага руху супраць фашыстаў. Дзеяч кампартыі ў Заходняй Беларусі, ён прасядзеў у польскіх турмах каля 10 год. У хаце Саковіча адбываліся ўсе нелегальные сходы і з'езды незалежніцкай партыі.

— А ці былі кантакты ў гэтай партыі з савецкім падполлем?

— Былі. Аб некаторых момантах, праўда, яшчэ зарана гаварыць. Бо яшчэ жывыя людзі, якія былі непасрэднымі ўдзельнікамі падзей.

Скажам, бацькі знаходзіліся ў нашым падполлі, а дзеці ці ўнукі — у другім. Але былі выпадкі, было такое блізкае паміж намі супрацоўніцтва, дзе трэба было выканаць канкрэтную акцыю.

Падпольная работа ёсць зусім іншы свет. Бо там ні законаў, ні палітыкі. У падполлі не заўсёды ведаеш, з кім маеш справу. Двайное дно ў людзей. Узяць хаця б забойства Кубэ. Людзі, якія арганізавалі гэту акцыю, мусілі ўвайсці ў кантакт з партызанамі, каб іх рукамі ажыццявіць свой план.

— Ну, калі было два падполлі ў час акупацыі, то можна меркаваць, што і партызанка існавала розная?

— Абсалютна правільна. Найбольш вядомая партызанка савецкая. Але ж была і нацыяналістычная. Савецкая была арганізавана і ідэнтыфікавана ў Маскве ў 1942—1943 гадах з вышкаленых разведчыкаў і вайскоўцаў, камандзіраў. Яны былі ў Беларусь закінуты, калі там ужо існаваў партызанскі рух, які яны падпарадкавалі сабе. Партызанка ж была, як паўставала, вельмі розная. Напрыклад, у Менску ўжо ў 1941 годзе мой калега па універсітэту Валодзя Шавель, юрыст, быў апантаны ідэяй стварэння беларускага войска. Паспрабаваў да немцаў падсунуцца з гэтай ідэяй. Яны прапанавалі яму для пачатку зрабіць беларускую паліцыю, чым той і заняўся. А пасля сабраў гэтыя свае арганізаваныя аддзелы і пайшоў у лес. Вось вам першая беларуская нацыяналістычная партызанка ў Бярэзінскім лесе. Адначасова з гэтай, нацыяналістычнай, узнікла і савецкая партызанка. Савецкая Армія была разбіта, адступала, жаўнеры разбягаліся, ішлі ў вёскі, афіцэры, асабліва палітычны састаў, трымаліся разам, групамі па 50 чалавек стараліся прабівацца на Усход, а калі не ўдавалася, яны заставаліся ў лесе, з нейкай вёскай уваходзілі ў кантакт. Яшчэ адна трупа, якая давала папаўненне партызанцы,— гэта савецкая адміністрацыя, якая ў выніку імклівага наступлення К нямецкай арміі не паспявала выбрацца з пасёлкаў і гарадкоў. Партызанскія атрады, як вы бачыце, былі самых розных перакананняў...

— А якое ваша меркаванне наконт асобы Кубэ?

— Быў цікавым чалавекам. Я так думаю, што ён марыў аб тым, каб быць паўнаўладным каралём ці князем на Беларусь Па такіх правілах і дзейнічаў. Кубэ шмат у чым разыходзіўся з

палітыкай фашысцкай партыі і СС. Скрозь пальцы ён глядзеў на ўсе праявы культурнага жыцця беларусаў, на дзейнасць Саюза беларускай моладзі, Самапомачы, Самааховы, шмат у чым спрыяў, што праз некаторы час пачало раздражняць Гітлера.

— Ці мяняліся адносіны нямецкага рэжыму да беларускай адміністрацыі на працягу акупацыі?

— Тут справа дэфініцыі калябарацыі. Хто такі калябарант? Гэта дэфініцыя, у маім разуменні, будзе адрозніваццa ад той, якую дае афіцыйная савецкая ідэялёгія. Паводле партыйнай дэфініцыі — гэта ўсе людзі, якія працавалі ў час акупацыі: пачынаючы ад Астроўскага, які рэпрэзентаваў перад тым Беларусь для галоўнага немца, і мэр горада, і тая бедная нейкая жанчына, што працавала ў пякарні ці сталоўцы. Розніца ж вялікая. Той, хто ўвязваў працу з высокапастаўленым немцам, і ёсць калябарант. Людзі ж, якія працавалі ў школьніцтве, у музеях, архівах, бібліятэках,— хіба іх можна назваць нямецкімі спадручнымі?! Гэта былі патрыёты сваёй справы.

— Мы ўжо ведаем, што ў часе нямецкай акупацыі працавалі беларускія школы, выходзілі беларускія газеты. А якім было культурнае жыццё?

— Музей пастаянна арганізоўваў лакальныя мастацкія выставы. На ўгодкі Кастравіцкага, які быў не толькі пісьменнікам, але і майстрам мініяцюры, наладзілі выставу. У Менску было шмат мастакоў. З некаторымі я быў у даволі блізкіх адносінах. Часта сустракаўся з прафесарам Керзіным — скульптарам, ведаў прафесара Волкава, вядомага жывапісца, пейзажыста Дучыца, Тычыну. Усім ім цяжка даводзілася ў акупіраваным горадзе: і голадна, і холадна. Працавалі зімой у няпаленых майстэрнях, каб прадаць нешта і купіць ежу, пісалі партрэты нямецкіх афіцэраў. Некаторыя мастакі працавалі для царквы.

Для моладзі ладзіліся розныя курсы па мастацтву. Даводзілася і мне чытаць на іх лекцыі па народным мастацтве. Тэатр перайшоў на беларускую мову. Ставіліся драматычныя творы — Купалы, Аляхновіча, пераклады з нямецкай. Опера таксама перайшла на беларускую мову, з'явіліся пераклады класічных опер. Многа перакладалі Наталля Арсеннева, Крушына.

— А які лёс спасціг тыя абразы, што вы ў час вайны вынеслі з музея?

— Я гэтыя абразы перавёз з сабой у Нямеччыну. Там таксама было небяспечна — налёты ж — а я абразы, як дзіця, на плечы — і бягу ў сховішча. У Рацібары, куды былі эвакуіраваны нашы бібліятэкі — пераважна Ленінская і акадэмічная, я яшчэ і «прыглядаў» за музеем. Я меў там некалькі знаёмых немцаў. Адзін з іх філёлаг — славіст доктар Рыхль. Яшчэ ў Менску ён задаўся мэтай зрабіць энцыклапедычны даведнік у нямецкай мове пра Беларусь. Я павінен быў сабраць матэрыялы для даведніка. Таму нейкі час займаўся ў Рацібары менавіта гэтым. Артыкулы для зборніка пісалі розныя спецыялісты: Янка Станкевіч — пра мову;

Шкялёнак — артыкулы па гісторыі; інжынер Касяк — па архітэктуры, а я — па антрапалёгіі і этнаграфіі. Але доктар Рыхль загінуў на фронце, і праца тая не была скончана. Асобныя артыкулы зборніка друкаваліся пазней у розных газетах...

У Нямеччыне я пазнаёміўся яшчэ з адным вельмі цікавым чалавекам, лужычанінам Натушам. Ён працаваў у штабе Розенберга, у арганізацыі, якая займалася архівамі, музеямі, бібліятэкамі...

Савецкая Армія ўжо была ў Кракаве, Рацібор рыхтаваўся да здачы. Гэты Натуш пераязджаў у Гэкштэт-на-Дунаі, там быў стары замак, куды звозілі ўсе трафеі. Я яму перадаў тры абразы, каб ён заапекаваўся імі. (Пасля я бачыў два з іх у вашых часопісах, яны вярнуліся на Беларусь праз Маскву, а трэці недзе згубіўся). Пазней і сам туды перабраўся, хацеў пры музеі ўладкавацца на працу. Але гэта было немагчыма. І я пайшоў да фермера-немца, каб быць блізка каля таго месца, дзе знаходзяцца карціны. Пасля, як амерыканцы прыйшлі, я зноў з'явіўся ў замак і кажу, што я музейны работнік і тут ёсць нашага музея экспанаты. Там мне сказалі, што прыедзе спецыяльная камісія, ёсць дагавор з Саветамі, і яна будзе вырашаць. Потым справа вяртання мастацкіх каштоўнасцей павярнулася так, што ёю займаліся не спецыялісты, а тыя людзі, што праводзілі рэпатрыяцыю палонных. Карціны везлі зваленымі ў кучу, таму многае было канчаткова сапсавана, а нешта і проста згублена па дарозе.

— Пазней жыццё прымусіла вас адарвацца ад мастацтва?

— Яшчэ ў Нямеччыне я заняўся школьніцтвам, бо трэба ж было падрыхтаваць людзей на выезд у розныя краіны, каб мелі нейкія прафесіі. 28 курсаў арганізаваў я тады для розных школ: гандлёвых, тэхнічных, механічных. Сам я спадзяваўся працягнуць адукацыю, паглыбіць веды. Запісаўся ў Мюнхенскі універсітэт на археалёгію. Там працаваў прафесар Кашмідар, у яго я вучыўся яшчэ ў Віленскім універсітэце. Але тут прыйшоў від на сталае жыхарства ў Амерыку, нешта змяніць было немагчыма.

У Амерыцы спачатку працаваў на фабрыцы. А пасля — у вялікім магазіне вопраткі таваразнаўцам, які працуе на прыёме тавару. На гэтай пасадзе якасць трэба глядзець і «чыстыя рукі» мець. Прафесія гэта ў Амерыцы вельмі прэстыжная. Акрамя гэтай асноўнай працы, якая «карміла», працаваў у школе суботняй. Яна належала да БАЗа. Я ж быў старшынёй аддзела ў Нью-Йорку. Там вучылася многа дзяцей нашых эмігрантаў; было ўсяго 3 клясы — пачатковая, сярэдняя і вышэйшая. Я вёў сярэднюю клясу, дзе вывучалі беларускую мову, літаратуру, геаграфію, гісторыю і рэлігію народа Беларусі. Маімі вучнямі былі ў свой час Юрка Кіпель, Верка Запруднік, Ліда Данілюк. А старэйшую клясу вяла спадарыня Наталля Орса, маці Алы Орса-Рамана.

— Якім вам бачыцца наш, беларускі, шлях развіцця, маючы на ўвазе сённяшняе становішча краіны?

— Я асабіста, перажыўшы некалькі перыядаў пераменаў, лічу, што ў нас ствараюцца некаторыя ўмовы для адраджэння і можна кінуць усе сілы на гэтую добрую справу. Зноў прыйшла ў рух моладзь.

Геапалітычнае становішча Беларусі і даволі складанае, і адначасова зручнае. У самым цэнтры Еўропы. Менавіта ўлічваючы гэта, мы не можам так, як і іншыя народы, карыстацца нацыяналізмам. Мы мусім напружыць усе нашы сілы, каб між сваімі суседзямі падняцца велічча духа, каб мы маглі іх пераважаць нашымі духовымі якасцямі. Стварыць вартасці агульналюдскія ў культуры, мастацтве. І на гэта мы маем дастатковыя падставы. У нас ёсць традыцыі.

— Як бачыць БАЗа адносіны з Беларуссю на сучасным этапе?

— Мы некалькі разоў выступалі з афіцыйнымі заявамі аб падтрымцы БНФ. Мы цэлы час у кантакце. Думаем, што людзі, якія там працуюць, гэта не ёсць партыя, а рух, які ўключае ў сябе ўвесь спектр палітычнага жыцця. У гутарках з прадстаўнікамі БНФу якія бываюць у Амерыцы, я заўсёды падкрэсліваю, што нельга ў такіх сітуацыях, як сённяшняя, адкідаць чалавека з прычыны яго палітычных перакананняў. Бо для адраджэння патрэбны спецыялісты. Калі я працаваў на Ашмяншчыне, там спецыялісты розных рангаў кепска ведалі беларускую мову, і трэба было даваць ім у дапамогу маладога настаўніка. Неабходна выкарыстоўваць усё, што толькі можа прыдацца для нашай справы. Нягледзячы ні на нацыянальнасць, ні на перакананні. Мы ж будзем старацца ўсімі сіламі дапамагаць вам, скарыстоўваючы нашыя магчымасці, стасункі з амерыканскімі палітычнымі, гаспадарчымі, фінансавымі коламі.

— Што вам давала і дае вера ў Бога?

— Гэта цяжкае пытанне. Па-першае, у маім разуменні безумоўна ёсць істота, дух, які стварыў свет і светам кіруе. Ёсць рэлігіі, якія ў большай меры дбаюць пра выхаванне духовага ў чалавеку, і ёсць рэлігіі, што знаходзяцца ў стане крызісу. Вось, для прыкладу, я уважаю, нягледзячы, што я сам каталік, што наш каталіцкі касцёл у стане цяжкага крызісу. Аб гэтым сведчыць многа фактаў. Некаторыя рэформы былі зроблены, каб выцягнуць касцёл з крызісу, але, на жаль... Можа быць вы чулі, у Паўднёвай Амерыцы выбілі прафесуру аднаго каталіцкага універсітэту — езуітаў, і ў нас у ЗША адбываюцца розныя дэманстрацыі супраць адсталасці каталіцкага касцёлу. Тое, што сёння адбываецца ў вас, я маю на ўвазе каталіцкі касцёл, гэта таксама сведчыць аб жахлівым крызісе. Замест адраджэння каталіцызму — гэта значыць веры ў Бога, веру гэту скарыстоўваюць для чыста палітычных мэтаў. Каталіцызм на Беларусі, у сваю чаргу, пашыраецца як польская вера. Хаця прыйшоў да нас таксама, як і да палякаў, па дарозе «з варагаў у грэкі».

— Спадар Шукелойць, мне вельмі прыема было з вамі пазнаёміцца, пачуць вашыя разважанні наконт мінулага і будучыні Беларусі. Спадзяюся, што цікавыя дэталі і нюансы нядаўняй нашай гісторыі, непасрэдным сводкам якой вы былі, дапоўняць уяўленне чытача пра той складаны і неадназначны час.

## СВАЕ ЛЮДЗІ Ў ПУБЛІЧНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

### *ЧАСТКА СЕНТЫМЕНТАЛЬНАЯ*

Каб не спадарыня Зора Кіпель, то, напэўна, у гэтай славутай на ўвесь свет бібліятэцы пабываць мне так і не давялося б. Але ж Зора Кіпель — наш чалавек, беларуска кожнай сваёй клетачкай, кожнай думкай і кожным учынкам, і таму, як прыязджае хто-небудзь з Бацькаўшчыны ў Нью-Йорк, яна кідае ўсе свае справы І становіцца добраахвотным гідам па бібліятэцы, з гонарам паказвае зборы беларускіх кніжак і перыёдыкі ў славянскім аддзеле, дзе яна доўгія гады намеснік загадчыка. Тут жа, у бібліятэцы, да выхаду на пенсію працаваў намеснікам загадчыка навуковага аддзела яе муж, доктар Вітаўт Кіпель. Бацькі дарослых дзяцей, якія нядаўна сталі дзедам і бабуляй, спадары Зора і Вітаўт — абодва вядомыя беларускія грамадскія дзеячы, абцяжараныя мноствам спраў — у нечым унікальная пара, шчаслівая пара. Баюся быць банальнай у разуменні і бачанні іхняга шчасця. І ўсё ж. За доўгія гады сумеснага жыцця, далёка не беспраблемнага, яны захавалі пачуцці пяшчотнай прыхільнасці і юначай улюбёнасці (калі ўсё ў тваім выбранніку ці выбранніцы здаецца прывабным і мілым сэрцу). Падтрымліваючы аСцзін аднаго, яны выгадавалі дзяцей, далі ім адукацыю (сын Юрка — дзіцячы доктар, дачка Алеся — адвакат), занялі самі даволі высокую прыступку ў амерыканскім грамадстве, дзякуючы толькі высокаму прафесіяналізму і глыбокім ведам. Акрамя ўсяго гэтага, з'яўляюцца тым інтэлектуальным ядром, вакол якога гуртуецца свядомая беларуская эміграцыя. Але спадар Вітаўт, хаця і вельмі моцны, энергічны чалавек, не будзь побач такога мяккага і інтэлігентнага сябра, сапраўднай саратніцы, магчыма, не сумеў бы ўтрымаць на сваіх плячах цяжар шматлікіх спраў і абавязкаў» Ды і спадарыня Зора (няхай прабачыць яна мне смеласць гэтага сцвярджэння) без самаахвярнай падтрымкі мужа, якая, напэўна, грунтуецца на яго высокай свядомасці, паважлівых адносінах да яе як да асобы, не змагла б устаць упоравень з Вітаўтам, падняцца над бытам.

А дна даталь. Ужо ў даволі сталым узросце спадарыня Зора вырашыла атрымаць дадаткова філалагічную ад у кацыю. (У свой час яна

скончыла факультэт аналітычнай хіміі ў адным з універсітэтаў Бельгіі). Паступала ў інстытут на факультэт параўнаўчай літаратуры, спецыялізавалася ў літаратуры сярэднявечча, Шмат даводзілася чытаць і па літаратуры, і па гісторыі. На лекцыі ж ездзіла пасля работы. Не трэба казаць, што гэта цяжка сямейнаму чалавеку. Звычайны класічны муж у такім выпадку што скажа жонцы? «Сядзі дома, нашто табе гэта?» Альбо: «Чаму гэта я з-за цябе буду пакутаваць?» Спадар Вітаўт Кіпель, да яго гонару, такога напэўна не гаварыў. Ён адвозіў на машыне жонку на заняткі, забіраў яе пасля, насіў кніжкі, дапамагаў рыхтавацца. Даволі дзіўная, заўважу, для савецкай жанчыны сітуацыя, амаль што неверагодная. Але я звярнула на яе ўвагу не з-за дробязнай мяшчанскай цікаўнасці: маўляў, раскажу чытачу нешта такое інтымнае з жыцця вядомых людзей. Зусім не так.

Разважаючы пра лёс спадароў Кіпеляў, якія, безумоўна, самі па сабе неардынарныя асобы, прыкінула: а што атрымалася б з іх сям'і, жыві яны ўвесь час на Беларусі? Напэўна, Кіпеляў не было б. Амерыканскае грамадства, сам лад жыцця, пры якім чалавеку ўвесь час трэба вучыцца, бо адукацыя і веды прэстыжныя, вымагалі пастаяннага самаўдасканалення. Нізкі ж культурны ўзровень нашага грамадства, сама сістэма, якая не садзейнічала праяўленню асабістай ініцыятывы, зацікаўленасці чалавека ў выніках працы, наўрад ці далі б магчымасць рэалізаваць ім у такой меры свае здольнасці, патэнцыяльныя магчымасці на радзіме.

Мала прыемнасці аб гэтым пісаць, але ж мусіш, бо праўда, і ад яе не варта бегчы, таму што, не ўсвядоміўшы яе, доўга яшчэ не вылезем з духоўнай і эканамічнай багны.

### ***ЧАСТКА ФУНДАМЕНТАЛЬНАЯ***

Яшчэ са школьных гадоў я любіла хадзіць у чытальную залу бібліятэкі. У асноўным з-за таго, што кватэрка ў нас была малюсенькая: няма дзе прыткнуцца, каб пачытаць, падумаць. Пазней, ужо рыхтуючыся да паступлення ва універсітэт, адчула патрэбу ў спецыяльнай літаратуры, якая была ў фондах Дзяржаўнай бібліятэкі. Але тагачасныя парадкі дазвалялі толькі студэнтам наведваць яе. У студэнцкія гады ўжо на законных правах карысталася неабходнай

літаратурай. Штудзіравала дзесяткі кніжак па розных навуках, спісваючы цэлыя сшыткі патрэбным матэрыялам. На падрыхтоўку навуковай работы ішлі месяцы карпатлівай працы. Цяпер я з жалем думаю аб тым часе, большая частка якога была аддадзена на перапісванне, выпіскі, на пошук літаратуры, а значыць — непрадукцыйна. Іншым разам, бывае, прысніцца Нью-Йоркская бібліятэка, па якой мы з Зорай Кіпель зрабілі экскурсію: камп'ютэры, пішучыя машынкі, розная капіравальная тэхніда... Для нас — мара. А для любога амерыканца — рэальнасць.

Нягледзячы на свой паважны ўзрост — бібліятэка была заснавана ў 1895 годзе шляхам аб'яднання прыватных кніжных збораў Джана Якоба Астора, Джэймса Ленакса і Самюэля Джонса Цільдэна,— яна адна з самых найсучасных у свеце. Свае кнігі багатыя ньюйоркцы без грошай перадалі гораду з адной умовай, што мясцовыя ўлады пабудуюць прыстойны будынак для бібліятэкі, фондамі якой зможа бясплатна карыстацца кожны, хто пажадае. Горад Нью-Йорк даў згоду пабудаваць і падтрымліваць Цэнтральную навуковую бібліятэку на 5-й авеню — 42-й стрыт. У 1901 годзе 11 іншых самастойных бібліятэк увайшлі ў склад Нью-Йоркскай публічнай.

Сёння гэтая бібліятэка — прыватная карпарацыя, якая каардынуе працу 4 даследчых і 82 галіновых бібліятэк. У савет яе папячыцеляў уваходзяць 42 чалавекі, якія разам з яе прэзідэнтам і ажыццяўляюць кіраўніцтва гігантам.

Бібліятэка перажывае росквіт. Яна захапляе прыгажосцю сваёй архітэктуры і аздобай унутраных інтэр'ераў, радуе наведвальнікаў зручнасцю, суперсучаснай тэхнікай, якая дапамагае авалодваць багаццямі навукі і культуры. Звесткі пра новую літаратуру цяпер чытач шукае на камп'ютэрах. А старая па ўсіх галінах сабрана ў 800 тамах каталогаў.

Славянскі аддзел, у якім працуе Зора Кіпель, мае найбольшы ў Амерыцы беларускі фонд. Канешне ж, не таму, што бібліятэка праяўляе нейкую асаблівую цікаўнасць да Беларусі. А таму, што вельмі зацікаўленым спецыялістам-бібліятэказнаўцам тут з'яўляецца наша суайчынніца. (Трэба заўважыць, што беларускія аддзелы ёсць і ў бібліятэках Кліўленда, Чыкага, Лос-Анджэлеса, Дэтройта, а таксама ў іншых бібліятэках Нью-Йорка, у

Калумбійскім універсітэце, у Морганаўскай бібліятэцы і г. д.).

...Зора Кіпель дае мне магчымасць пахадзіць сярод стэлажоў і паглядзець, якія беларускія выданні яны жаюць. А маюць многа. Больш за 20 тысяч беларускіх кніг, а таксама перыёдыка — як афіцыйная, так і нефармальная. Ёсць поўны збор «Летапісу беларускага друку» (ад 1925 года), каля 80 тамоў, першыя выданні ІКупалы, Коласа, Бядулі, Багдановіча, поўны камплект «Нашай нівы», розныя энцыклапедыі, нават асобныя старонкі са Скарынаўскай Бібліі 1518 года, а таксама «беларускія выданні, што выходзяць на Беласточчыне, Карацей, цікаўнаму чалавеку ўся гэта літаратура дасць даволі поўнае ўяўленне і пра беларускі народ, І пра яго гісторыю.

— Беларускія кнігі пачалі прыходзіць у гэту бібліятэку ў канцы XIX стагоддзя,— кажа Зора Кіпель.— Але найбольшы прыток адбыўся ў 20-х гадах нашага стагоддзя, калі быў завязаны кнігаабмен з Інбелкультам. Да 1940-га года кнігі дастаўляліся рэгулярна. З пачаткам вайны ўсё перарвалася. У 50—60-х гадах спарадычна бывалі паступленні, і толькі з 70-х гадоў зноў пачаліся стабільныя кантакты. Цяпер мы маем усю беларусіку ў абмен на выданні па-ангельску. Шырокія сувязі даюць нам магчымасць набываць з прыватных бібліятэк бягучыя выданні, а таксама і старыя. На жаль, Беларусь страціла многія каштоўныя выданні, бальшавікі распусцілі найбольшыя бібліятэкі яшчэ да вайны, прадаючы скарбы беларускага народа за мяжу. Палітыка продажу мастацкіх каштоўнасцей рэвалюцыйным пралетарыятам нанесла непапраўную шкоду нашай культуры.

Нягледзячы на тое, што фонды славянскага аддзела пастаянна папаўняюцца і беларусікі становіцца больш і больш (некаторыя энтузіясты па ўласнай ініцыятыве дасылаюць сюды кнігі і газеты), для друкаванай прадукцыі тут створаны вельмі спрыяльныя ўмовы. Іх проста немагчыма параўнаць з тымі ўмовамі, у якіх знаходзяцца кнігі ў нашай Дзяржаўнай бібліятэцы, дзе ад вільгаці, а то і з-за аварыйных сітуацый часта гінуць і псуюцца рэдкія выданні і старадрукі.

У публічнай бібліятэцы ў Нью-Йорку ў кніжных сховішчах пастаянны мікраклімат, памяшканні праветрываюцца, усе кніжкі «апрануты» ў спецыяльныя кніжныя вокладкі. Для беларускіх кніжак ёсць тут спецыяльны

беларускі знак QM — для манаграфій і QMA — для серыйных выданняў.

Хочацца сказаць і пра тыя беларускія кнігі, што выдаваліся сіламі эміграцыі. Самае непасрэднае дачыненне да іх мае муж Зоры Кіпель — Вітаўт, які ўзначальвае БІНіМ у Нью-Йорку. Менавіта гэты інстытут на працягу доўгіх гадоў выдаваў зборнікі публіцыстыкі, прозы і паэзіі аўтараў, якія жылі і тварылі на эміграцыі. Пра існаванне гэтых кніжак і самой эмігранцкай літаратуры на Беларусі мелі даволі цьмянае ўяўленне, Толькі ў апошнія гады беларускі чытач збольшага змог даведацца пра Н. Арсенневу, М. Кавыля, У. Сядуру, М. Сяднёва, іншых.

Спадарыня Зора Кіпель таксама задзейнічана ў кнігавыдавецкай справе — апрацоўвае бібліяграфію творчасці пісьменнікаў-эмігрантаў і літаратуры пра іх, Вельмі элегантна і прафесійна аформленыя дзесяткі томікаў такіх кніжак, выдадзеных БІШМам на грамадскія ахвяраванні нашай эміграцыі, пакуль ёсць толькі ў асобных грамадзян Беларусі, якія атрымалі іх у падарунак, але няма сумнення, што тыя кнігі зоймуць свае месцы і на паліцах галоўнай нацыянальнай і шматлікіх навуковых бібліятэк рэспублікі. Гэтага патрабуе і час, і гістарычная справядлівасць.

Гаворачы аб актыўнай культурніцкай і папулярызатарскай дзейнасці Зоры Кіпель, якая накіравана на пашырэнне сярод амерыканскага грамадства інфармацыі і ведаў пра Беларусь, нельга не адзначыць наладжаныя ёю ў славянскім аддзеле бібліятэкі дзесяткі выставак, прысвечаных юбілеям Купалы, Коласа, Скарыны, тых ці іншых падзей у гісторыі Беларусі. Але, на жаль, як кажа Зора Кіпель, з арганізацыяй выставак стала цяпер больш складана. Калі раней яна магла па сваёй ініцыятыве нешта зрабіць, то цяпер іх тэматыку вызначае спецыяльная камісія бібліятэкі.

— Ці адчуваеце вы цяпер нейкую маральную палёгку ў рабоце, звязаную з палітычнымі зменамі ў Беларусі, з наладжваннем нармальных адносін Бацькаўшчыны са сваёй эміграцыяй у ЗША? — пытаюся я ў спадарыні Зоры.

— Несумненна. Мы адчуваем уплыў і з Беласточчыны, і з самой Беларусь Гэта натхняе, прымушае яшчэ больш сканцэнтравацца на беларускіх справах. Як паказала жыццё, нашыя намаганні тут не былі дарэмныя, яны толькі на карысць Беларусі і яе народу. Асабіста я

займаюся цяпер даследаваннем беларускай літаратуры XVI стагоддзя. Укладаем бібліяграфію беларускіх замежных перыядычных выданняў (беларусіка за межамі Беларусі), пішу падручнік на ангельскай мове «Гісторыя беларускай кнігі і друкарства», шмат іншых праектаў. Вялікі пласт работы звязаны з тым, што мы з Вітаўтам рэдагуем газету «Беларус».

Нашыя людзі, працуючы ў нацыянальнай бібліятэцы ў Нью-Йорку, здаецца мне, нямала карыснага зрабілі і для Амерыкі, і для сваёй Бацькаўшчыны. Хочацца спадзявацца, што на змену ім прыйдуць маладыя работнікі, якія таксама, як і спадары Кіпелі, нябачнымі ніцямі звязаны з Беларуссю, зацікаўлены ў тым, каб край гэты падняўся ва ўсёй сваёй велічы і прыгажосці і каб увесь свет спазнаў створаныя яго народам духоўныя каштоўнасці.

## НА БЕЛАРУСКІХ ДАЧАХ У ГЛЕН СПЭЙ

У Бэлер-Менск — беларускі асяродак адпачынку, які знаходзіцца ў курортным мястэчку Глен Спэй у штаце Нью-Йорк, мы прыехалі ў самы разгар спартыўных спаборніцтваў. І адразу паспяшаліся туды, дзе кіпелі спартыўныя страсці. На пляцоўцы было горача. Хлопцы і дзяўчаты розных узростаў, спартыўныя, трэніраваныя, прыгожыя — амерыканцы з павагай ставяцца да свайго здароўя і знешняга выгляду, умеюць адпачываць — спаборнічалі ў самых розных відах спорту, атрымліваючы ад гэтага, я бачыла, вялікае задавальненне.

Балельшчыкі, якія самі не змаглі ці не захацелі сёння ўдзельнічаць у спаборніцтвах, абляпілі пляцоўку і крыкамі падбадзёрвалі і без таго азартных ігракоў.

— Вунь, бачыш, Юрка Кіпель, Віктар Тур, Галіна і Коля Бахары лётаюць з мячом, ты іх ведаеш,— паказала рукой Ала Орса-Рамана, якая прывезла мяне сюды з Нью-Йорка і мусіла паехаць праз колькі хвілін назад.— Верка Запруднік завядзе цябе ўвечары на забавы. Тут гуляюць да раніцы. А калі што якое, то хадзем, пазнаёмлю з іншымі.

Мы падышлі да сталоў, засланых белымі абрусамі, што павыносілі сюды, каб на свежым паветры ў лагодным цяньку са смакам з'есці толькі што зваранай кукурузы і бульбы…

— Прыміце госцю з Беларусі,— пачала Ала.— Яна журналістка. А гэта Валя Камянкова,

Люда Літаровіч, Валя Рагалевіч, Казя Гайшун, Ірына Цупрык. Пакажыце і раскажыце, як мы тут адпачываем.

Але паказваць і расказваць цяпер, я зразумела, не было часу. Жанчыны спяшаліся прыбраць са сталоў, моладзь пабегла да басейна, каб асвяжыцца перад вячэрнім мерапрыемствам.

Ірына Цупрык завяла ў прызначаны мне пакойчык, уручыла ключ, загадзя папрасіўшы прабачання за яго непрэзентабельнасць, бо цяпер сезон, і ўсё лепшае занята.

Пакой і сапраўды быў сціплы. Па ўсім было відаць, што ў гэтым старым будынку пастаянна не жывуць, і гаспадары яго не такія ўжо і заможныя людзі, бо многае тут даўно патрабуе рамонту і абнаўлення. Дарэчы, Ірына Цупрык размясцілася ў такім самым пакойчыку разам з дачкой і двума ўнукамі. Цесната, канешне. Але ж днём у пакоі ніхто не сядзіць, ідуць у лес, на рэчку. А краявіды тут сапраўды прыгожыя і вельмі-вельмі нагадваюць беларускія. Нейкая сцішанасць, засяроджанасць прыроды адчуваецца ў гэтым кутку амерыканскай зямлі. І дрэвы тыя самыя, што ў нашым лесе, і кветкі тыя самыя, і неба тое самае, вось толькі паветра больш гарачае, напоенае цяплом, хаця і ў гарах. Тыя з землякоў, хто жыве ў вялікім горадзе, дзе шумна і тлумна, такім як Нью-Йорк, скажам, асабліва цэняць магчымасць адпачыць на ўлонні прыроды. Напэў-на, менавіта старэйшае пакаленне, што вырасла ў вёсках, якія стаялі сярод густых бароў і ^запаведных лясоў, адчуваюць гэтую повязь з прыродай, сваю лучнасць з ёй, сумуюць без яе. Маладзейшыя, здаецца, іншыя, больш рацыяналістычныя. Яны ведаюць, што дыхаць свежым і чыстым паветрам карысна. Таму з задавальненнем і едуць у Бэлер-Менск.

Кароткая гісторыя гэтага цэнтра адпачынку беларусаў у ЗША выглядае так: 15 кастрычніка 1962 года над суайчыннікамі, якія пражываюць у штатах Нью-Йорк і Нью-Джэрсі, была заснавана карпарацыя «Рэсорт Бэлер-Менск», якая тады ж і набыла дачную маёмасць «Бэлер» у Глен Спэй і переназвала яе ў «Рэсорт Бэлер-Менск». Карпарацыя дзейнічала да 1970 года, пакуль не абанкруцілася. На скліканым надзвычайным сходзе сяброў карпарацыі яе маёмасць была перададзена дзвюм беларускім праваслаўным парафіям: святой Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы і святога Кірылы

Тураўскага ў Рычманд Гіл у Нью-Йорку. Рэсорт быў перайменаваны ў «Рэлігійны адпачынкавы цэнтр Бэлер-Менск». Вернікі абодвух прыходаў ахвярна працуюць, каб утрымліваць Бэлер-Менск.

...Ледзь толькі сцямнела, за мною, як і абяцалі, зайшлі Галіна Бахар і Вера Запруднік, каб разам пайсці на «забавы». Гэтае «пайсці на забавы» пачало ўжо мяне інтрыгаваць. Дзяўчаты прыбраліся ўсё роўна, як на баль. Днём апрануты амаль аднолькава — шорты ці джынсы ды просценькая кашулька, а тут на кожнай нешта такое мудрагелістае, святочнае.

Пацыху ў будынку, прызначаным для грамадска-культурных патрэбаў, які нечым нагадвае наш Дом культуры, пачынае збірацца публіка. Паважна ўплыва-юць сямейныя пары, размяшчаюцца за столікамі іх дзеці і ўнукі, дамы і кавалеры. Асабліва цікава глядзець на дзетак і падлеткаў. Адчуваецца, што гэты уікенд для іх даволі важная падзея. Апрануты таксама, як і дарослыя, з асаблівай стараннасцю і святочнасцю. Гуляць жа сёння можна колькі хочаш побач з дарослымі, разам з дарослымі. Хоць усю ноч, калі вытрымаеш.

Забавы распачаліся ўручэннем прызоў пераможцам спартыўных спаборніцтваў, пасля чаго на сцэну выйшлі музыканты і ўрэзалі для настрою пару мелодый, якія імгненна разварушылі залу, паднялі з месцаў хлопцаў і дзяўчат. Следам зайгралі беларускія полькі і вальсы, якія ў нас моладзь звычайна «прапускае», як старамодныя танцы. А тут не, танцуюць разам, ды яшчэ дэманструюць свае ўмельства. Ну, а як грымнуў цяжкі рок, то я думала, што старэйшыя ад крыкаў сваіх юных нашчадкаў, якімі тыя суправаджаюць скокі, паразбягаюцца ці пачнуць сварыцца. Зноў спакойна.

Здаецца, ужо пад раніцу самыя стойкія выбраліся на рэчку — пакатацца на лодцы, сустрэць усход сонца. Так закончыліся забавы, пабыўшы на якіх, я лепш пачала разумець, чаму розныя пакаленні нашых суайчыннікаў — бацькі, дзеці і ўнукі тут, у Амерыцы, трымаюцца разам адной грамадой. Існуе і дзейнічае няпісаны закон цярпімасці. Я не хачу сказаць, што ўвогуле тут не існуе супярэчнасцей паміж пакаленнямі, праблемы бацькоў і дзяцей, але тое, што ўзаемная цярпімасць збліжае духоўна людзей старэйшага веку і зусім юных, гэта

відавочна. Інакш Бэлер-Менск даўно ператварыўся б з месца, куды на забавы ездзіць моладзь, у своеасаблівы дом адпачынку, дачы для пенсіянераў.

На заўтрашні дзень, з раніцы, калі яшчэ адпачывала большасць з тых, хто прымаў удзел у забавах, я вырашыла зрабіць экскурсію па тэрыторыі Бэлер-Менска. Гідам стаў спадар Міхась Сенька, адзін з дырэктараў рады, якая кіруе цэнтрам адпачынку.

Міхась Сенька — мяккі, інтэлігентны чалавек, якога шануюць тут усе за ягоную самаахвярнасць на карысць беларускай грамады, чалавечую мудрасць і разважлівасць характару. Спадар Міхась добраахвотна ўзяў на сябе абавязкі кухара ў Бэлер-Менску. Занятак гэты не дае яму прыбытку, ды і ўвогуле зусім не дзеля грошай узяў тую працу, у адрозненне ад савецкіх пенсіянераў, якім ніяк не пражыць на сваю мізэрную пенсію. Спадар Міхась добра забяспечаны, мае пенсію па старасці, і плаціць яшчэ прадпрыемства, дзе працаваў. Таксама «Фордам» аплачана яго медыцынскае абслугоўванне.

Гатуе М. Сенька смачна, усім падабаецца. Праўда, гэта не азначае, што ён цэлы дзень стаіць каля пліты. У амерыканскіх маркетах можна набыць абсалютна ўсе прадукты, паўфабрыкаты, якія трэба толькі падагрэць ці ўскіпяціць, каб давесці да гатоўнасці. Садавіна, гародніна — усяго поўна. Можна з раніцы падскочыць на машыне ў маркет і ўзяць усё свежае. Карацей, гэта зусім не праблема. Тым больш, што ў кожнага ў пакоі ёсць халадзільнік, дзе заўсёды запас прадуктаў.

Міхась Сенька кажа мне, што цяпер ён на пенсіі і можа цалкам прысвяціць сябе беларускім справам. Хаця і раней, калі працаваў у Форда на канвееры, таксама актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці нашай эміграцыі.

Лёс Міхася Сенькі шмат у чым падобны на лес суайчыннікаў, якія мусілі ў канцы вайны пакінуць радзіму. Бо за тое, што вучыўся ў час нямецкай акупацыі Беларусі на медыцынскіх курсах у Баранавічах, яму пагражала турма, лагеры. Хацеў чалавек быць карысным свайму краю, але не атрымалася. Прыйшлося жыць у Нямеччыне, а пазней у ЗША.

— Паглядзіце на нашу капліцу,— запрасіў М. Сенька ў невялічкі домік.— Кожную суботу і нядзелю, падчас сезона, тут адбываюцца Божыя

службы. Капліца была асвячона ў гонар Смаленскае іконы Божай маці «Адзігітрыі», пісанай, паводле падання, апосталам Лукою. Тут адбываюцца праваслаўныя і рыма-каталіцкія богаслужэнні.

Дарэчы, на спартыўных пляцоўках Бэлер-Менска праходзяць не толькі гульні дзятвы, але і спартыўныя спаборніцтвы больш высокага рангу, у якіх удзельнічаюць беларусы з Амерыкі і Канады. А у той зале, дзе ўчора ладзіліся забавы,— з'езды і нарады беларускіх грамадскіх арганізацый і ўстаноў.

Асаблівы клопат Міхася Сенькі — басейн. Тут, сярод лесу, які ўтрымліваецца ў натуральным стане, ён выглядае дзіўнай казкай. Блакітная кафля робіць ваду блакітнай... Усё ж новенькае. Хаця дзейнічае ўжо не першы год.

Мой гід цяжка ўздыхае, і мы спускаемся ў службовыя памяшканні басейна, адкуль механічна ажыццяўляецца спуск і падача вады, яе дэзінфекцыя, а таксама награванне да патрэбнай тэмпературы. Абсталяванне паднасілася, трэба рамантаваць, патрэбны грошы, каб нехта даглядаў усю гэту гаспадарку. Пакуль жа многае трымаецца на энтузіязме асобных людзей.

Пакуль мы гулялі з Міхасём Сенькам, які знаёміў мяне з Бэлер-Менскам, прачнуліся адпачываючыя. Мужчынская кампанія, яўна з мэтай пагутарыць ці нешта запытацца, наблізілася да нас.

— Дык вы што, у «Голасе Радзімы» працуеце? — расчаравана і адначасова ўстрывожана запытаўся адзін з іх.

— Ну і газета... Такое пра нас пісалі, што дасюль камяк у горле. Мы яе не хацелі атрымліваць, назад адпраўлялі. Цяпер да здраднікаў прыехалі?..

— Чаго ты накінуўся на чалавека?! — абарваў нехта свайго пакрыўджанага і да глыбіні душы абражанага сябра.

— Яна ж маладая. Не яна ж пісала...

Мужчынам, што з ахвотай прыйшлі пагутарыць, стала неяк няёмка, мне таксама. Адчувалася: яны шкадуюць, што размова так пачалася. Але я, па праўдзе, была гатова да такой размовы, хаця, як кажуць, ні сном, ні духам... Прыехала якраз з самымі добрымі намерамі, пераканаdebug ў тым, што палітычная эміграцыя з Беларусі ў пераважнай сваёй большасці— ахвяры савецкага рэжыму, якія

несправядліва былі абвінавачаны ў смяротных грахах перад радзімай.

Але апраўдвацца ў такой сітуацыі, нешта тлумачыць людзям, якія і сапраўды павінны адчуваць крыўду і боль, не мела сэнсу.

Каб неяк згладзіць непрыемны інцыдэнт, пачалі зусім пра іншае. Пра тое, што ёсць праблема з музыкантам!, якія іграюць у Бэлер-Менску. Уладзімір Бычкоўскі, кіраўнік ансамбля, паскардзіўся, што хлопцы больш ведаюць украінскі рэпертуар, ды і ўвогуле яны ўкраінцы па нацыянальнасці, а сваіх, беларусаў, не адшукаць... Сапраўды, перад нашай эміграцыяй, якая ў вельмі цяжкіх варунках здолела захаваць сваё нацыянальнае аблічча, не рассеяцца, не згубіцца і не разгубіцца, паўстаюць у перспектыве даволі сур'ёзныя праблемы. І ў нечым, між іншым, мы ім можам цяпер паспрыяць. Надта ж доўга радзіма адмаўляла ім у дапамозе.

...Развітанне з Бэлер-Менскам і маімі новымі знаёмымі было светлым і шчымліва - сумным. Уладзімір Бычкоўскі сядзеў ля доміка на лаўцы і іграў беларускія мелодыі на баяне. Вакол яго, як быццам на вясковай вуліцы, збіраліся жанчыны, бегалі малыя... Усе гаманілі тут па-беларуску, нават трохгадовы Мацейка, думалі па-беларуску. Момантамі забывалася, што знаходжуся ў Амерыцы.

Пад'ехала машына — трэба было адпраўляцца ў Нью-Йорк. Уладзімір Бычкоўскі зайграў «Беларусачку». І мы з Міхасём Сенькам закружыліся пад знаёмую мелодыю, забыўшы нават, што вакол людзі, якія са здзіўленнем глядзяць на гэтыя імправізаваныя забавы.

З машыны паклікалі, і я мусіла, не скончыўшы танца, адарвацца ад Міхася. Той замер у наступіўшай цішыні, а па добрым яго твары пацяклі слёзы. Аб чым плакаў гэты нема лады, моцнага характару чалавек? Напэўна, засумаваў па Беларусі, адкуль я прыехала, ціха плакаў па сваёй маладосці, па неажыццёўленых надзеях і марах.

Я таксама не магла стрымаць слёз.

## БУДАВАЛІ КАРАБЕЛЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Ала ОРСА-РАМАНА нарадзілася ў Навагрудку, разам з бацькамі трапіла ў Нямеччыну, пасля ў ЗША. Прафесар хіміі Нью-Йоркскага універсітэта. Бярэ актыўны ўдзел у дзейнасці Беларуска-Амерыканскага Задзіночання ў ЗША. З'яў-

ляецца кіраўнічкай беларускага танцавальнага калектыву «Васілёк» у Амерыцы.

Спадарыня Ала Орса-Рамана забараніла мне называць сябе на «вы». «У нас так не прынята, калі ласка, лепш на «ты» пастарайся, зрабі прыемнасць»,— папрасіла яна.

Ала — асоба яркая і неардынарная, з разнастаінымі інтарэсамі і захапленнямі. Яе густыя-густыя жоўта-жытнёвыя валасы напэўна з поспехам заменяць зімой футравую шапку. Кароткая стрыжка надае ўсяму яе абліччу нешта гарэзлівае, дзявочае, непрадказальнае, а горда ўскінутая галава выдае характар цвёрдага, упартага чалавека, які ведае, чаго ён варты. Тонкая, з бездакорнай наставай, фігурай танцоўшчыцы; лёгкая і імклівая хада; прыемны голас — яна спявае у царкоўным хоры. Ала — уладальніца абаяльнаи усмешкі амерыканскай кіназоркі.

Напэўна, доктар Орса-Рамана вельмі цікава чытае лекцыі студэнтам, бо, акрамя навуковых здольнасцяў і ведаў, мае яшчэ і цудоўныя артыстычныя даныя. Аналітычнасць розуму і гульня, пераўвасабленне даволі гарманічна ўжываюцца ў асобе аднаго чалавека, надаючы ёй арыгінальнасць, своеасаблівасць і загадкавасць.

Расказваць пра Алу-вучонага не буду. Неяк пацікавілася тэмай яе навуковага даследавання, яе «дактарату», але гаворка не атрымалася: надта ўжо далёкай аказалася я ад праблем сучаснай хіміі, надта недасведчанай. Шкада, канешне, бо работа ў амерыканцаў заўсёды на першым месцы. Але ж на другім у паважанага прафесара, безумоўна,— беларушчына. І гэта мяне цікавіць куды больш, чым хімія.

Дачка беларускіх дзеячаў, педагогаў Аляксандра і Наталлі Орса, якія ўсё сваё жыццё прысвяцілі справе адукацыі, выхавання нацыянальнай годнасці і самасвядомасці беларускай моладзі, працягвае пачэсную справу бацькоў.

Два гады назад яна прывезла ў Беларусь танцавальную групу моладзі «Васілёк», удзельнікамі якой былі хлопцы і дзяўчаты беларускага паходжання, што нарадзіліся ў Амерыцы і ніколі не былі на радзіме бацькоў. Не трэба казаць, з якім натхненнем і ўздымам танцавала моладзь. Але несумненным лідэрам сярод Іх была Ала. З цяжкасцю верылася, што яна не прафесіянал, а аматар. Дарэчы, як і ўсе

іншыя ў групе. Выступленне ў Мінску стала яе трыўмфам і як артысткі, і як кіраўніка «Васілька».

Толькі ў Амерыцы, ужо трохі пазнаёміўшыся з жыццём нашых суайчыннікаў, праблемамі беларускай эміграцыі, я змагла ацаніць, якую вялікую справу зрабіла дачка Орсаў, арганізаваўшы «Васілёк», залучыўшы да заняткаў у ім дзяцей, падлеткаў і моладзь, наладзіўшы выступленні калектыву ў прыгожых нацыянальных строях у беларускіх асяродках ЗША, а таксама і на прэстыжных амерыканскіх фестывалях. Якія былі вынікі намаганняў малодшай Орса? Пераацаніць іх немагчыма. Напэўна, трэба сказаць, у якіх няпростых варунках існуе беларуская эміграцыя ў Амерыцы. Не атрымліваючы ніякай духоўнай падпіткі і падтрымкі з Бацькаўшчыны, у сварках на рэлігійнай глебе яна пачала асімілявацца, губляць сваё нацыянальнае аблічча.

З'яўленне «Васілька» было вельмі своечасовым. Бацькі аддавалі дзетак у ансамбль, дзе тых навучалі беларускім танцам і песням, старэйшыя шылі ім касцюмы для выступленняў. Словам, кола закруцілася. А пасля вельмі удалых выступленняў «Васілька» на нацыянальных амерыканскіх святах статус беларускай эміграцыі сярод народаў іншых нацыянальнасцей, што жывуць у Амерыцы, рэзка падняўся. Сам гэты факт меў станоўчае ўздзеянне на нацыянальныя пачуцці беларусаў, неяк ускалыхнуў іх, абудзіў да грамадскай дзейнасці.

Чаго ўсё гэта каштавала кіраўніку «Васілька», можна толькі здагадвацца. Спадарыня Ала ніколі не акцэнтавала на гэтым увагу. А між тым, я даведалася, што каб самой быць пастаянна ў форме, яна мусіла некалькі разоў на тыдзень браць урокі харэаграфіі. Нават і летам, калі ў яе канікулы, яна не перапыняе заняткаў. Што б ні было, а дзве-тры гадзіны працы каля станка! Я бачыла, жывучы ў Алы, якой яна вяртаецца дамоў пасля такіх урокаў: ціхая, шчаслівая, стомленая. Мяркуючы па ўсім, яе прызваннем была сцэна, дзе яна бліскуча магла б выконваць ролі галоўных гераінь, праслаўляючы талентам Беларусь.

Хаця скардзіцца на свой лес дачка Орса наўрад ці можа: у яе выдатная адукацыя, прэстыжная прафесія. Муж, Франек Рамана, італьянец па паходжанні, таксама прафесар, можа гаварыць па-беларуску. Сыны, Паўлюк і

Коля, выхаваны маці ў беларускім духу, абодва танцуюць у «Васільку». Яна ні ў чым не здрадзіла сабе, спраўдзіла светлыя надзеі бацькоў.

Пра што толькі ні гаварылі мы з Алай у час нашых доўгіх аўтамабільных вандровак! Само сабой — пра мінулае, пра палітыку, пра асобу Гарбачова, пра беларускі парламент, пра Бога, пра шматмернасць сусвету і сане чалавечага існавання на Зямлі. Жывая і не стомленая жыццём душа гэтай жанчыны, хаця і не адкрывалася наросхрыст, але прагнула шчырасці, адкрытасці, убірала іх, як губка ваду. Яна верыць у бессмяротнасць душы, у тое, што пасля смерці чалавека застаюцца яго добрыя справы, а душа перасяляецца ў іншыя істоты — у звяроў і птушак, у кветкі і дрэвы. Напэўна, таму і папыталася, якім дрэвам я хацела б быць у іншым сваім жыцці.

— Яблыняй,— быў адказ.

А ў якім дрэве яна бачыць сваю душу, не сказала.

Аляксандр ОРСА нарадзіўся 24 ліпеня 1896 года ў мястэчку Нягневічы на Навагрудчыне. У 1918 годзе працаваў настаўнікам пачатковай школы. Атрымаў вышэйшую адукацыю ў Празе і дыплом доктара прыродазнаўчых навук. Працаваў у Беларускай гімназіі ў Навагрудку. Пасля быў высланы польскімі ўладамі з этнічных беларускіх тэрыторый у глыб Польшчы. У час нямецкай акупацыі Беларусі працаваў інспектарам школ Навагрудскай акругі.

Апынуўшыся на эміграцыі, прымаў удзел у арганізацыі Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы і стаў яе дырэктарам.

Пазней, у ЗША, удзельнічаў у арганізацыі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, першай парафіі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Нью-Йорку.

Кароткія факты біяграфіі і жыцця чалавека, які здабыў вялікі маральны аўтарытэт і павагу сярод сваіх вучняў, працаваў у імя будучай незалежнасці і вольнасці свайго народа, канешне ж, мала гавораць аб яго асобе і яго часе. Але, на жаль, і гэтыя кароткія звесткі пакуль не знойдзеш ні ў адной энцыклапедыі ці даведніку, выдадзеных у Беларусі. Але жыве гэты чалавек у памяці ўдзячных нашчадкаў, сваіх выхаванцаў, у іх справах.

Збіраючы матэрыялы пра Аляксандра Орса, я запісала ўспаміны яго дачкі — Алы Орса-Рамана, Ніны Орса, жонкі брата Аляксандра — Пятра, Лілы Тур — стрыечнай

сястры Алы Орса, якая цудам выжыла ў час сталінскага тэрору і жыве ў Мінску, а таксама вучняў і саратнікаў вядомага беларускага дзеяча.

— Тата і мама абодва з сялянаў, з бедных сем'яў,— расказвае Ала Орса.— Мама расла сіратой, татаў бацька таксама вельмі малады памёр, так што ім нялёгка было, і яны ведалі, як цяжка дзецям сялян выбіцца ў людзі.

Нягледзячы на самыя розныя перашкоды, Аляксандр Орса атрымаў сярэднюю адукацыю і паступіў на двухгадовыя настаўніцкія курсы, што дало яму магчымасць выкладаць у пачатковых школах. Аднак заняцца педагагічнай працай не давялося, бо быў прызваны ў царскую армію, а з пачаткам першай сусветнай вайны пасланы на фронт.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, на пачатку 1918 года, вяртаецца на Навагрудчыну. Нямецкую акупацыю змяняе польская. Польскія ўлады не даюць магчымасці працаваць Орса інастаўнікам, і той пачынае займацца грамадскімі беларускімі справамі. «У гэты час А. Орса карыстаецца вялікім даверам насельніцтва Нягневіцкай воласці, якое выбірае яго сваім прадстаўніком для размеркавання харчовай дапамогі, зарганізаванай урадам ЗША для пацярпеўшых у вайну,— піша ў артыкуле, апублікаваным у эмігранцкай прэсе, В. Плескач.— Гэтыя дапамаговыя камітэты арганізуюцца пад кіраўніцтвам А. Орса на тэрыторыі цэлай Наваградскай акругі, прыносячы вялікую дапамогу насельніцтву. Адначасна дагавор аб нацыянальных меншасцях паміж Польшчаю і заходнімі дзяржавамі з 1921 года дае гваранцыі нацыянальным меншасцям у Польшчы, у тым ліку й беларусам у Заходняй Беларусі, палітычных і грамадзянскіх правоў. На жаль, польская Другая Рэч паспалітая ўжо ад пачатку свайго існавання не датрымала гэтых гваранцыяў і пачала палітыку дыскрымінацыі й рэлігійнай неталяранцыі ў адносінах да беларусаў. З увагі на гэтую палітыку польскага ўраду, грамадзка-нацыянальная праца беларусаў была кантраляваная польскімі афіцыяльнымі чыньнікамі, якія імкнуліся да дэнацыяналізацыі беларускага насельніцтва, ужываючы розныя мэтады суровай рэпрэсіі і супроць беларускіх дзеячоў. Аднак і гэта не паўстрымала маладога настаўніка ад актыўнай працы. Ён памагаў арганізаваць культурна-

асветную дзейнасць сярод беларускага насельніцтва ў нашых вёсках, ладзячы спектаклі й рэфэраты ды ўсьведамляючы нацыянальна беларускага селяніна».

Але рэпрэсіўная дзейнасць польскіх уладаў у адносінах да беларусаў не дае ім магчымасці, нягледзячы на ўсе намаганні, атрымаць прадстаўніцтва ў сейме і прымушае Аляксандра Орса пакінуць родны край, выехаць на вучобу ў Чэхаславакію.

З успамінаў Алы Орса-Рамана.

— Дзядзька Пятрусь расказваў, як адбылася сямейная сходка, на якой вырашылі, хто пойдзе вучыцца, а хто павінен гаспадарку глядзець. Дык вырашылі, што Аляксандр пойдзе, а Пятро застанецца. Пачуўшы гэта, дзядзька Пятрусь залез на печ і два дні плакаў, што яму не выпала вучоба. Праўда, пазней ён таксама адправіўся ў Прагу за асветай. Мама мая яшчэ раней бацькі перайшла мяжу нелегальна, каб трапіць на вучобу. Яна расказвала, што ўмовы жыцця там былі цяжкія, страшны голад быў, вельмі шмат хто са студэнтаў на сухоты хварэў. Яна брала любую працу — посуд мыла ў бурсе, прыбірала. Хаця мела стыпендыю, праўда, невялікую. Стыпендыяй жа яна дзялілася з тымі, у каго зусім не было сродкаў. Увогуле студэнты з Беларусі, а гэта былі найбольш свядомыя беларусы, імкнуліся памагаць адзін аднаму.

Тата прыйшоў у Прагу на пару гадоў пазней за маму. Там яны, дарэчы, і пажаніліся.

Моцна звязала на ўсё жыццё Наталлю і Аляксандра не толькі каханне, але і любоў да Бацькаўшчыны, жаданне быць карыснымі свайму гаротнаму беларускаму народу. З дыпломамі аб вышэйшай адукацыі маладая: сям'я ў 1929 годзе вяртаецца ў Заходнюю Беларусь. Нягледзячы на права выкладання ў польскіх дзяржаўных гімназіях, доктар прыродазнаўчых навук А. Орса звязвае свой лес з Беларускай гімназіяй у Навагрудку,, хаця гэта сярэдняя школа не мела дзяржаўных правоў і ўтрымлівалася на аплату бедных сялянскіх і мяшчанскіх бацькоў.

З успамінаў Алы Орса-Рамана:

— Бацька і маці лічылі самым галоўным адукоўваць беларускую моладзь. Палякі далі дазвол на адкрыццё Беларускай гімназіі, але не далі сродкаў на яе ўтрыманне. Таму было неверагодна цяжка наладзіць там вучобу. Бацька мой хадзіў па вёсках і ўгаворваў бацькоў аддаваць дзяцей у школу, каб не трымалі іх

дома, а пасылалі па навуку. Ён разумеў, як гэта цяжка сялянам аддаць сына, пазбавіцца яго дапамогі, але ўсё роўна хадзіў, пераконваў людзей, стараўся мець лучнасць з людзьмі, давесці, што адукацыя ёсць вельмі важная ў жыцці чалавека. Мае бацькі былі перакананыя, што, каб стаць незалежнымі, трэба быць спачатку адукаванымі.

Палякі далі за плату працаваць толькі чатыром настаўнікам у Беларускай гімназіі, і тыя складвалі свае зарплаты і дзялілі пароўну на 18—20 выкладчыкаў. Бо нярэдка было, што бацькі не маглі заплаціць за асвету сваіх дзяцей: сродкаў зусім не было. Грошай было мала, з ядою вельмі цяжка. Самаахвярныя настаўнікі працавалі самааддана, выкладанне вялося на вышэйшым узроўні.

Дзеці і падлеткі стараліся летам працаваць, збіраць збожжа, ці што яшчэ рабіць, і скласціся на гімназію.

Нечакана для польскіх уладаў гімназія расквітнела, стала выпускаць вучняў, якія былі ўзгадаваны ў беларускім духу і добра падрыхтаваны да універсітэтаў. Гэта не спадабалася польскім уладам, і яны ў 1934 годзе зачынілі Беларускую гімназію, яе настаўнікаў разагналі, Орсаў выслалі аж пад Варшаву без права вяртання назад.

У 1929 годзе з Прагі ў Беларусь з дыпломам агранома вярнуўся і брат Аляксандра Орса Пётр, які таксама ўзяўся за новаўвядзенні, пра якія даведаўся ў Чэхаславакіі.

З успамінаў Ніны Орса:

— Пётр з сябрамі арганізавалі так званы кааператыў, куды кожны селянін здаваў малако,— малачарню. Яна дзейнічала вельмі паспяхова ў пачатку 30-х гадоў, пастаўляла гораду, па ўсёй акрузе і нават далей сыры, масла, смятану.

Быў заведзены такі парадак: пры прыёме малака ў гаспадароў вызначаюць яго тлустасць і ў адпаведнасці з гэтым плацяць. Існаванне такіх спажывецкіх кааператываў было вельмі прагрэсіўнай з'явай у Заходняй Беларусі. Але стаўленне палякаў увогуле да беларусаў, да іх дзейнасці было выразна адмоўным. Беларус нават не мог купіць зямлі блізка мяжы, усялякую меў дыскрымінацыю. Палякі лічылі, што ўсе беларусы — камуністы, за нашай малачарняй пастаянна прыглядалі, думаючы, што мы нейкую сувязь з Саветамі маем. Пазней самастойныя малачарскія таварыствы перасталі

існаваць, у 1938 годзе яны злучыліся з польскай каапераціяй.

Нацярпеўшыся ад польскіх уладаў, якія праводзілі палітыку дэнацыяналізацыі беларусаў, нашы землякі на тэрыторыі Заходняй Беларусі з надзеяй і трывогай сустракалі ў 1939 годзе Чырвоную Армію.

Як кажа Ала Орса-Рамана, яе бацькі, якія з нападам фашысцкай Германіі на Польшчу вярнуліся дамоў, не мелі ілюзій наконт Савецкай улады. Яны былі сведкамі таго, як у Прагу, дзе яны вучыліся, прыязджалі людзі з Савецкай Беларусі і ўгаворвалі моладзь вяртацца назад, дапамагаць будаваць «новае жыццё ў вольнай незалежнай краіне». Многія тады павярталіся, але амаль усе загінулі ці пазней, ці раней. Так здарылася і з малодшым братам Аляксандра Орса — Мікалаем, які паддаўся на ўгаворы і прыехаў з Прагі на Беларусь. Яго як ветэрынара абвінавацілі ў наўмыснай патраўцы калгасных кароў і саслалі ў Сібір, дзе ён і загінуў.

У здрадзе і шпіёнстве абвінавацілі сястру Наталлі Орса — Лену з мужам, якія з Польшчы перабраліся ў Савецкую Беларусь, паддаўшыся прапагандзе аб райскім жыцці ў Саветах. Муж яе памёр у турме, а сама Лена прайшла праз інквізітарскія допыты і здзекі ў следчых ізалятарах. Ад дачкі нябожчыцы цёткі Лены — Лілы Тур я даведалася пра тое, якія жахі давялося перажыць ёй разам з малодшай сястрой пасля: арышту бацькоў. Слухаць споведзь гэтай хворай, адзінокай жанчыны з пакалечаным лёсам, якая дасюль яшчэ баіцца ўслых гаварыць пра тыя падзеі, запалоханай і застрашанай, немагчыма без слёз.

З успамінаў Алы Орса-Рамана:

— Як мы жылі пры Саветах? У вечным страху. Я маленькая была, памятаю, як адпраўлялі мяне бацькі з пакоя, калі хацелі аб нечым пагаварыць. Баяліся. З маёй сястрой неяк адбыўся такі выпадак: падышоў да яе нейкі чалавек, даў цукерку і стаў пытацца, пра што яе бацькі гавораць. Бацькі баяліся са сваімі сябрамі сустрэцца, бо ўбачыць нехта, што гавораць двое на вуліцы, данясе. І тады забіралі, дапытваліся, пра што вялі размову. Сапраўдны генацыд супраць уласнага народу распачалі бальшавікі, і людзі праклінaлі іх, баючыся хоць неасцярожным словам ці позіркам выдаць сябе.

Ала Орса-Рамана многае памятае і ведае ад бацькоў пра той перыяд іх жыцця. Я папрасіла яе прааналізаваць вядомыя ёй факты, выказаць

сваю думку наконт таго, як працавала гэта пякельная машына па запалохванні людзей, ператварэнні іх у істот, пазбаўленых волі і ўласных думак.

З успамінаў Алы Орса-Рамана:

— Русіфікацыя і ідэалагізацыя адбываліся спакваля. Нават і на побытавым узроўні. Збіраецца, скажам, кампанія — абавязкова трэба спяваць «Кацюшу». Кожную нядзелю загадана было на дэманстрацыі ў падтрымку Савецкай улады хадзіць з плакатамі Леніна і Сталіна ў цэнтр горада, дзе нейкі актывіст выступае з прамовай аб велічных ідэях камунізму. Там абавязкова крычалі «ўра».

Беларускія настаўнікі ў школах замяняліся прывезенымі з Масквы кадрамі, людзі прападалі штодня, і ўсе баяліся нават папытацца пра іх. Асабіста мне напярэдадні вайны ўрэзаўся ў памяць выпадак: сядзім мы ў хаце, раптам з грукатам адчыняюцца дзверы і ў праёме паяўляецца чалавек на кані і такім грубым голасам патрабуе вынесці радыё, бо інакш будзе вобыск. Пасля кашмару, перажытага сям'ёй Орсаў і многіх-многіх іншых сем'яў у Заходняй Беларусі, якая ў 1939 годзе была ўз'яднана з Савецкай Беларуссю, прыход у Навагрудак немцаў у 1941 годзе не ўспрымаўся жыхарамі асаблівай трагедыяй.

На шыбеніцы, якую паставілі ў цэнтры горада, нікога так і не павесілі, а неўзабаве гэтыя сімвалы застрашэння і кары і ўвогуле ўбралі. Затое адчынілі беларускія школы, стала працаваць настаўніцкая семінарыя. Доктар Аляксандр Орса, які карыстаўся вялікім аўтарытэтам у сваіх землякоў, быў абраны школьным інспектарам Навагрудскай акругі. У беларуекай інтэлігенцыі з'явілася кволая надзея, што можна будзе мірна жыць з новымі гаспадарамі. Але яны зноў трапілі ў пастку. І зразумелі гэта, калі ўбачылі, як іх суседзяў - яўрэяў пазвозілі ў гета, а потым сталі знішчаць.

Рэпрэсіі над яўрэйскім насельніцтвам моцна змянілі стаўленне беларусаў да нямецкіх уладаў. Усе зразумелі, што гэта акупанты і нічога добрага ад іх чакаць не даводзіцца. У жахлівых ваенных умовах, калі адзін неасцярожны крок мог каштаваць жыцця, Аляксандр усю сваю энергію і талент педагога аддаваў моладзі, ладрастаючаму пакаленню.

З успамінаў Лілы Тур:

— Аляксандр Орса быў адданы сваёй справе, высокім ідэалам чалавек. Я бывала ў іх

хаце, чула, як яго неаднойчы схілялі да супрацоўніцтва з немцамі. Размовы былі сур'ёзныя. Але ён упарта маўчаў, нават з пагардай, і па тым маўчанні многае можна было зразумець. Калі наступала Савецкая Армія, Орсы, пагрузіўшыся на вазы, ад'ехалі з Навагрудка. Потым мне знаёмыя сказалі, што калона бежанцаў трапіла пад бамбёжку і ўсе загінулі. Мы з маці ў думках развіталіся з імі назаўсёды, не спадзеючыся ні на які шчаслівы выпадак.

Пасля вайны маю маці, якая столькі нацярпелася на допытах, зноў пачалі цягаць, дапытваць, куды падзеліся Орсы, пагражаць ёй турмой. Тады ад страху я нават пашкадавала, што мы не паехалі разам і не загінулі пад бомбамі.

Толькі праз многа-многа гадоў яны далі аб сабе вестку. А нядаўна мяне наведала Ала з сынамі.

«Ваенная завіруха,— піша В. Плескач,— закінула др. А. Орса і ягоную сям'ю ў Нямеччыну. І тут ён знайшоў шмат цярплівасці й сілы волі, каб зарганізаваць беларускую сярэднюю школу й даць магчымасць беларускай моладзі ў лягерох перамяшчэньня вучыцца. Яго галоўнаю мэтаю было пашыраць беларускае слова на чужыне, выцягнуць моладзь зь лягернае бяздзейнасьці й даць ёй надзею на будучыню».

Там жа ў Нямеччыне др. А. Орса і іншыя настаўнікі, якія апынуліся на эміграцыі, арганізоўваюць Беларускую гімназію імя Янкі Купалы. Гэту сярэднюю беларускую школу за час яе існавання наведвалі прыблізна 200 вучняў, многія з якіх атрымалі пазней вышэйшую асвету ў розных універсітэтах Еўропы і Амерыкі. Сёння ўсе гэтыя людзі, пастаўленыя на моцныя ногі беларушчыны гімназіяй Янкі Купалы, і складаюць інтэлектуальнае і духоўнае ядро беларускай эміграцыі.

Дарэчы, апынуўшыся ў даволі цяжкіх абставінах у Амерыцы — без сродкаў існавання і без ведання мовы, др. А. Орса зноў кідаецца ў вір беларускага грамадскага жыцця. Каб пракарміць сям'ю, спачатку працуе вартавым, пасля лабарантам у яўрэйскім шпіталі ў Брукліне, а неўзабаве заканчвае курсы рэнтгенолагаў.

Вось, напэўна, і ўсё пра др. А. Орса, які, дарэчы, пайшоў з жыцця, не дажыўшы да

старасці. Не вытрымала сэрца. Яго ўдзячныя вучні паставілі настаўніку помнік на могілках Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Саўт-Рыверы. Пакланіцца яго светлай памяці прыходзяць не толькі сваякі, але і зусім чужыя людзі, грамадзяне цяпер ужо незалежнай Беларусі. Яны прывозяць сюды з Бацькаўшчыны па жменьцы зямлі. Нехта з суайчыннікаў паставіў на гэтых могілках вялікі драўляны крыж у гонар усіх бязвінна загінуўшых у Курапатах, замучаных у турмах, сканаўшых у лагерах. Гэты чорны крыж як своеасаблівы знак бяды нагадвае ўсім аб тым, што давялося перажыць беларускаму народу на шляху да свабоды і незалежнасці.



**Printed in BELARUS**

**Татьяна Александровна АНТОНОВА**
**У ЗЕМЛЯКОВ ЗА ОКЕАНОМ**

На белорусском языке
**Минск, 1992**

**Таццяна Аляксандраўна АНТОНАВА**
**У ЗЕМЛЯКОЎ ЗА АКІЯНАМ**

**Рэдактар Д. Ц. ЧАРКАСАВА**
**Мастацкае афармленне Д. І. РАКАВЕЦ**
**Тэхнічны рэдактар Т. А. ТАРАСЕНКА**
**Карэктар І. К. КАЗЛОВА**

Здадзена ў набор 22.07.92. Падпісана да друку 04.12.92. Фармат 70x108732. Папера для глыбокага друку. Гарнітура часопісная рубленая. Высокі друк. Ул.-выд. арк. 5,52. Фіз. друк. арк. 3,5. Тыраж 4730 экз. Заказ 1218. Цана 4 руб.
Рэдакцыя газеты «Голас Радзімы». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 4 Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

Антонава Т., У землякоў за акіянам, Мінск, «Голас Радзімы»